Ігнасіо Кардэнас Акунья



# ЗАГАДКА АДНОЙ НЯДЗЕЛІ

Ігнасіо
Кардэнас
Акунья

# ЗАГАДКА АДНОЙ НЯДЗЕЛІ

РАМАН

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1986

ББК 84.70Ку
К 21

Пераклаў з іспанскай мовы
СЯМЕН ДОРСКІ

*Пераклад зроблены з выдання:* Ignacio Cárdenas Acuña. Enigma para un domingo. Novela.— La Habana, Instituto Cubano del Libro, 1971.

К $\frac{4703000000-039}{М\ 302(05)-86}$ 168—86



*Памяцi мацi маёй,*
*якая прывiла мне*
*любоў да лiтаратуры*


" О, які прыгожы твар у хлусні !"
У. Шэкспір

# ПРАЛОГ ДА ЗАГАДКІ

## 1. СМЕРЦЬ ДЭДАЛА

Раптам на сярэдзіну залы імкліва выйшаў Марцін, сціскаючы ў руцэ бясшумны браўнінг. З таго месца, дзе я сядзеў, Марцін здаўся мне больш мажным, чым у сапраўднасці. Гэта быў высокі, мускулісты, ладна скроены чалавек. Праменістыя блакітныя вочы добра пасавалі да яго светлага твару. Выцвілабялявыя хвалістыя валасы ў маладосці, пэўна, былі рыжаватыя. Нягледзячы на такое аблічча, Марцін родам быў кубінец. Я добра яго ведаў.

Поплеч з ім стала Ругміла, яго каханка, у доме якой мы сабраліся,— прывабная маладая жанчына гадоў дваццаці — дваццаці пяці. Не скажу, каб яна здзіўляла сваім хараством, але прыгажосць яе цалкам адпавядала тонкаму густу Марціна. Яе чорныя, як вугаль, вочы таксама пагрозліва прабягалі па тварах людзей, што сядзелі на чырвонай аксамітавай канапе.

— Усім падняць рукі! — загадаў Марцін, і зрабіўся больш выразны нейкі злавесны выгін яго ніжняй губы.

Двое мужчын, якія сядзелі побач са мной, са здзіўленнем павярнуліся да Марціна. Я не варухнуўся. Мне было вядома, што ўся наша брудная дзейнасць выкрыта і органы дзяржаўнай бяспекі ведаюць пра кожны наш крок. Я ж сам трымаў іх у курсе падзей, але ў той момант не ведаў, ці дайшло да іх маё апошняе пасланне. Я меў намер захапіць адразу ўсю групу і перадаць уладам, але здарылася нешта непрадбачанае, і я ліхаманкава шукаў у думках іншыя магчымасці ажыццявіць свой план.

Актыўна дзейнічаць у той момант мне было нязручна, бо суседзі па канапе маглі перашкодзіць, і нават стрэліць у іх я не паспеў бы. Таму я спакойна ўстаў з месца з паднятымі ўгору рукамі. Той, што стаяў бліжэй да мяне, шумна запратэставаў.

— Маўчаць! — суха асадзіў яго Марцін.— Усім павярнуцца і пакласці рукі на сцяну!

Мы падпарадкаваліся загаду.

— Абшукай іх, Ругміла!

Рукі жанчыны выцягнулі з маёй кабуры люгер, потым яна абяззброіла астатніх двух і выйшла за дзверы.

— Сядайце! — загадаў Марцін.

Я няспешна павярнуўся да канапы, каб не выдаць намеру зноў заняць сваё месца. Двое іншых таксама намерыліся сесці на канапу, але Марцін, нібы выконваючы маё жаданне, паказаў на мяккія крэслы, што стаялі крыху воддаль.

Той, што ўвесь час маўчаў, раптам агрызнуўся:

— Ты мусіш растлумачыць нам, у чым справа, Марцін. Ты ж не лічыш нас сваімі марыянеткамі! — у яго голасе гучала злосць, змешаная з трывогай.

— Сціхні! — спыніў яго Марцін. Не спускаючы з нас вачэй, ён падышоў да дзвярэй у спальню і крыкнуў: — Ругміла, вядзі яе сюды!

Праз момант дзверы расчыніліся, і разам з Ругмі-

лай у гасцінную ўвайшла высокая смуглая жанчына, якая выцірала хустачкай слёзы. Яна зрабіла некалькі нерашучых крокаў наперад і раптам упэўнена нацэліла на мяне ўказальны палец. Твар яе адкрыўся, і я пазнаў жанчыну — жонку доктара Роха, якога арыштавалі яшчэ раніцай. «Нейкую памылку дапусціў»,— трывожна мільганула ў галаве.

— Гэта ён,— усхліпваючы, сказала жанчына і ўголас заплакала.

Марцін хмура ўтаропіў на мяне свае блакітныя вочы. Твар яго ператварыўся ў мёртвую маску.

— Я так і думаў,— працадзіў ён праз зубы.— Вы ідзіце! — загадаў тым, што сядзелі ў крэслах. Адзін з іх хацеў нешта сказаць, але Марцін адрэзаў: — Сказаў вам — ідзіце! — Потым павярнуўся да сваёй напарніцы: — Пакінь і ты нас, Ругміла!

Цішыня, што запанавала пасля таго, як усе выйшлі, здалася мне бясконцай; кожны з нас, пэўна, думаў пра адно. Нарэшце Марцін выдаў свае думкі:

— Дванаццаць гадоў прайшло, а нас усё яшчэ трывожыць цень Сусаны, ці не праўда, Арэс? — Тон яго палагаднеў — з голасу знікла злосць, мускулы твару расслабіліся, і рысы набылі той уласцівы яму выраз, які заўсёды выклікаў прыхільнасць да гэтага чалавека.

— Позна ламаць камедыю, Марцін,— адказаў я.— Нікога ты ў зман не ўвядзеш. Думаю, і сам ведаеш, што пастка зачынілася.

Марцін усміхнуўся. Гэта была тужлівая ўсмешка, усмешка чалавека, якога чакае сумны лёс, але ён мужна ідзе яму насустрач.

— Я ведаю, што ратунку няма, Арэс. Ты адказаў мне знішчальным ударам. Позна я зразумеў, што павінен быў уцякаць ад цябе альбо забіць цябе — пасля ўсяго, што адбылося. Увесь час мучыла сумненне: ці можна паверыць, што ты ні пра што не

дазнаўся? Але ж ты так па-майстэрску іграў! Шкада, што ты стаў на маім шляху! — Марцін на момант задумаўся, потым запытаў: — Што ж цяпер рабіць будзем, Арэс? Сусана ж у труне пераварнецца, калі ўбачыць мяне аднаго. Даводзіцца ісці разам. У гэтым ёсць нават нешта чарадзейнае.

Марцін зноў зрабіўся самім сабою — твар нібы з граніту, у іскрыстых вачах суровая рашучасць. Я зразумеў, што набліжаецца фатальны момант, і непрыкметна сунуў руку пад валік канапы.

— Ты адправішся першы, Арэс! — прагрымеў Марцін.— Сустрэнемся ў пекле!

У самае апошняе імгненне перад тым, як бліснуў стрэл, я імкліва адхіснуўся ўбок і тры разы націснуў на спуск пісталета. На твары ў Марціна мільганула і згасла пераможная ўсмешка, ён нешта прамармытаў і грымнуўся на падлогу. Я хацеў падняцца з канапы, але пакой паплыў у мяне перад вачамі. З вуснаў сарвалася лаянка, і ўсё навокал ахутала цемра.

## 2. МСЦІЎЦА

Праз месяц, ачуняўшы ад ранення, я ў суправаджэнні двух канваіраў падняўся па прыступках пад'езда галоўнага корпуса ўпраўлення бяспекі.

Ля ўваходу двое вартавых у белых касках і беззаганных мундзірах выцягнуліся ў прывітанні. У доўгім калідоры, у які выходзілі дзверы чатырох кабінетаў, мы спыніліся перад адным, і канваір націснуў на кнопку званка. Атрымаўшы дазвол, мы ўвайшлі ў кабінет і спыніліся перад пісьмовым сталом, за якім сядзеў афіцэр. Мае правакатыя сталі па стойцы «смірна», але я стаяў вольна. Думкі шалёна скакалі ў галаве. Каб крыху супакоіцца, я акінуў позіркам памяшканне. Прамавугольная ніша для папак з да-

кументамі, два скураныя крэслы ля стала, столік з магнітафонам, на сцяне — некалькі партрэтаў загінуўшых змагароў Рэвалюцыі.

— З намі сеньёр Арэс, лейтэнант,— далажыў канваір, што стаяў справа ад мяне.

Афіцэр адклаў убок нейкую паперу і скіраваў на мяне ўважлівы позірк. Потым задаволена паківаў галавой і сказаў канваірам:

— Добра, можаце ісці.

Мае праважатыя аддалі чэсць і пакінулі кабінет.

— Прысаджвайцеся, Арэс,— сказаў мне афіцэр.

Я сеў у крэсла і, пакуль лейтэнант размаўляў па тэлефоне, пільна разглядаў яго. Ён быў хударлявы і, відаць, высокага росту. Мяне ўразілі яго вочы — у іх свяціўся розум і тонкая праніклівасць.

Праз некалькі хвілін у кабінет увайшоў мажны, але рухавы негр. Хоць ён быў малады, кароткая барадка аздабляла яго твар, і я вырашыў, што гэта былы партызан Сьера-Маэстры. Вітаючыся з ім, лейтэнант назваў яго Рэнэ. Той падышоў да стала і ўсеўся ў крэсле. У вачах паблісквалі вясёлыя агеньчыкі.

Лейтэнант падсунуў бліжэй магнітафон і ўсміхнуўся.

— Нашу гутарку давядзецца фіксіраваць, Арэс,— далікатна паясніў ён.

Я згодна кіўнуў галавой і пачаў неяк супакойвацца — усё сведчыла аб тым, што са мною будуць абыходзіцца карэктна, хаця ў сваім імкненні даведацца праўду яны будуць непахісныя.

Допыт пачаў Рэнэ, трымаючы ў руках папку — відаць, маю крымінальную справу.

— Арэс,— сказаў ён,— прыблізна шэсць месяцаў таму назад вас выпусцілі з турмы датэрмінова — між іншым, за добрыя паводзіны.

Хаця тон яго голасу не вымушаў мяне адказваць, я сказаў:

— Так.

— Праз некалькі месяцаў пасля таго, як вы выйшлі на волю,— гаварыў далей Рэнэ, гартаючы паперы ў папцы,— вы ўступілі ў сувязь з нейкім Марцінам, кіраўніком контррэвалюцыйнай банды.

Я зноў, але ўжо моўчкі, пацвердзіў яго словы.

— Дзякуючы сваёй даўняй дружбе з названым Марцінам вы зрабіліся яго даверанай асобай.

Я ўсміхнуўся. Лейтэнант дапытліва глянуў на мяне:

— Вы не згодны з намі ў гэтым пункце, Арэс?

Я пацісну́ў плячыма:

— Марцін нікому надта не давяраў.

— Добра,— працягваў допыт Рэнэ.— Скажам так: ён давяраў вам больш, чым іншым, і вы зрабіліся самай прыкметнай фігурай у групе.

— Бадай што так,— пагадзіўся я.

— Хаця банда знаходзілася пад нашым настаянным наглядам, мы павінны прызнаць, што неўзабаве пасля вашага ўступлення ў яе да нас пачала паступаць вельмі каштоўная інфармацыя аб усіх вашых дзеяннях. У нас ёсць падставы меркаваць, што гэтую інфармацыю пасылалі нам вы.

— Пасылаў...

— І надпісваліся?..

— «Мсціўца».

— Чым асаблівым вызначаецца гэтае слова?

— Чырвонай кропкай усярэдзіне літары «с».

— Правільна,— прамармытаў Рэнэ.— Пакуль што нашы здагадкі пацвердзіліся,— заключыў Рэнэ і павярнуўся да лейтэнанта. Той перастаў абводзіць задуменным позіркам прасторны кабінет і глянуў на мяне.

— Ці можаце вы, Арэс, назваць нам асноўныя прычыны вашых дзеянняў? — спытаў ён.

Я зразумеў, што надыходзіць галоўны момант до-

пыту. Папрасіў дазволу закурыць, запаліў цыгарэту і паволі выпусціў дым.

— Прычыны? — перапытаў я.— Вы хочаце ведаць прычыны? Хіба Марцін не быў контррэвалюцыянерам? — Заўважыўшы халодны позірк лейтэнанта, я запытаў: — Гэтага недастаткова?

На твары Рэнэ адбілася сумненне.

— Ведаеце, Арэс,— сказаў лейтэнант,— у вас занадта ўжо наіўная логіка. Думаю, няма неабходнасці тлумачыць вам, чаму ў вашых інтарэсах, каб усё хутчэй да канца высветлілася. Вы ж, Арэс, таксама контррэвалюцыянер... альбо дакажыце адваротнае.

Так, я быў членам контррэвалюцыйнай банды... Я кісла ўсміхнуўся. З усіх пакутлівых думак, што раіліся ў маёй галаве, менавіта гэтая больш за ўсё не давала мне спакою. Сумненні мучылі мяне яшчэ тады, калі я вырашыў знішчыць Марціна і дзеля гэтага далучыцца да банды. Я ўзважваў усе магчымыя вынікі такога кроку, але прага помсты памуціла мой розум. Чаму ж я так узненавідзеў Марціна, што, каб адпомсціць яму, паставіў пад пагрозу свой лёс?

Голас Рэнэ перарваў мае думкі.

— Мы чакаем, Арэс,— сказаў ён.

— Добра,— адказаў я.— Асноўная прычына маіх учынкаў — жаданне адпомсціць, але зрабіла ўплыў і тая агіда, якую я адчуваў да бруднай дзейнасці банды.

— Цяпер мы на правільным шляху,— усміхаючыся, зазначыў лейтэнант.— Мы мяркуем, што ваша дзейнасць неяк звязана з прыгаворам суда, які асудзіў вас да дваццаці гадоў турмы за забойства «Шасціпальца», крымінальніка і вашага верагоднага саўдзельніка ў нашумелай справе, якую тагачасная прэса ахрысціла «Справай куртызанкі з раёна Нуль». Мы чыталі судовую справаздачу — вельмі блытаную і непаслядоўную. А вашы спробы апраў-

дацца, скажу вам, Арэс, былі малаперакальныя і, трэба прызнаць, супярэчлівыя.

— Тапорная работа,— заключыў Рэнэ.— Ці ж не так, Арэс?

Я пацізнуў плячыма:

— Што датычыцца мяне, то пахваліцца няма чым.

— Безумоўна,— пацвердзіў Рэнэ.— Але дзіўна адно: у судовай справе чамусьці нідзе нават не ўпамінаецца імя Марціна. Як вы гэта растлумачыце?

— Доўгая гісторыя,— прамовіў я неахвотна.

— Каб нам усё стала ясна,— сказаў лейтэнант,— вы павінны расказаць усё.

Я спыніў на ім доўгі позірк. Маёй першай думкай было адмовіцца. Але раптам я адчуў нястрымнае жаданне ўсё яму расказаць. У памяці пачалі ажываць і адольваць мяне ўспаміны.

...Гэта быў час, калі пры маім бесшабашным і скептычным характары я насміхаўся з усяго. Поўны радасці жыцця, я з галавой аддаўся рабоце, якая была на небяспечнай мяжы між дазволеным і забароненым. Я не мог тады нават і падазраваць, што праз нейкія восем гадоў тое гнілое грамадства канчаткова абрушыцца. Я, вядома, не належаў да высокіх буржуазных колаў, але падзеі, у якія я аказаўся раптам уцягнутым, раскрылі перада мной усю гніласць таго ладу.

Я абабег вачамі пакой, у якім нічога не наводзіла на сентыментальны настрой.

— Што вы падумаеце, лейтэнант,— ціха спытаў я,— калі скажу вам, што ніякага забойства Сусаны ніколі б не было, каб не адбылося яно менавіта ў тую нядзелю?

— Растлумачце, Арэс! — усклікнуў Рэнэ.— Нейкая загадка?

— Так,— адказаў я.— У другі дзень нікому не было б сэнсу яе забіваць.

— Чаму б вам, Арэс, не расказаць нам усё па парадку і не даць нам самім рабіць вывады? — пераконваў мяне лейтэнант.

— Як хочаце,— сказаў я і ямчэй умасціўся ў крэсле.— Толькі прашу вас пытанні задаваць, калі я скончу.

Абодва афіцэры ў знак згоды паківалі галовамі.

— Не маем пярэчанняў,— для яснасці дадаў Рэнэ.

Я памаўчаў некалькі хвілін, зацягваючыся дымам цыгарэты і канчаткова збіраючыся з думкамі. Потым не спяшаючыся пачаў падрабязна апісваць падзеі, што нарадзілі заблытаную загадку той нядзелі ў ліпені тысяча дзевяцьсот пяцьдзесят першага года.




— Скажы, Тэадота, у цябе ёсць зямля?
— Няма,— адказаў той.
— Ну а дом, які дае прыбытак?
— І дома няма.
— Значыць, маеш работнікаў,— зазначыў Сакрат.
— Не маю ніякіх работнікаў.
— Дык адкуль бярэш, каб жыць у раскошы?
— А ў мяне ёсць друг, які вельмі мяне любіць,— сказаў Тэадота,— з яго і жыву.

Ксенафонт

## 3. СКРЫНКА ПАНДОРЫ

Я добра памятаю той душны летні вечар. Спакойна міналі гадзіны. Нічога не прадракала драматычнай ночы.

Я сядзеў за стойкай бара «Ла Пласа», пацягваючы ўжо трэцюю шклянку дайкіры, і раптам убачыў наведвальніцу, якая нерашуча спынілася ў дзвярах. Няўпэўненасць яе была нядоўгай. Яна накіравалася да афіцыянта, які абслугоўваў кліентаў за столікамі. Што яна яму сказала, я не чуў, але нешта мне

падказала што яна пыталася пра мяне. Так яно і было — афіцыянт паказаў у мой бок, і яна энергічна затупала абцасікамі па засланай дываном падлозе і спынілася каля мяне. Гэта была маладая дзяўчына, ледзь не падлетак. Яе абцягнутая лёгкай тканінай постаць вабіла сваёй прыгажосцю. Толькі талія, на мой прыдзірлівы густ, была крыху высакаватая, але так, можа, была пакроена сукенка.

— Сеньёр Арэс? — запытала дзяўчына, чырванеючы пад маім крытычным позіркам.

Я кіўнуў галавою і ўсміхнуўся.

— Прысаджвайцеся, калі ласка,— сказаў я і пстрыкнуў пальцамі, каб звярнуць на сябе ўвагу бармена.— Абслужыце сеньярыту, Карлас,— папрасіў я і павярнуўся да дзяўчыны: — Што вам заказаць?

— Нічога, дзякую,— адказала яна і, запінаючыся, спытала: — Можна з вамі пагаварыць?

Я не строіў ілюзій наконт таго, якіх паслуг яна ад мяне чакае. Рэпутацыя мая была агульнавядомая. Безумоўна, нейкая брыдкая работка.

— Я не хацеў бы праявіць недалікатнасць, сеньярыта...

— Рамірэс,— падказала яна.— Гленда Рамірэс.

— Дык вось, сеньярыта Рамірэс, я дазволю сабе вам напомніць, што ў мяне ёсць кантора, дзе я прымаю кліентаў. А сёння ў мяне дзень адпачынку.

— Ах, прашу прабачыць! — вінавата сказала яна, і на яе шчоках з'явіліся ямачкі.— Але справа вельмі тэрміновая, а ў вашай канторы я ўжо была.

Голас дзяўчыны крыху дрыжаў, і раз-пораз яна скоса пазірала на дзверы. Я ўсміхнуўся.

— Хто сказаў вам, дзе мяне можна знайсці?

— Ваш шафёр... не,— папраўілася яна,— шафёр таксі, якога вы іншы раз наймаеце. Ён сказаў, што, магчыма, вы тут.

— Што за справа ў вас такая неадкладная?

— Ці нельга пагаварыць... з вока на вока? — спытала яна, паказваючы на кутні столік.

— Калі ласка, я нічога супраць не маю.

Мы падышлі да століка. Дзяўчына села, насцярожана глянуўшы на дзверы. Я выняў з кішэні пачак цыгарэт і прапанаваў ёй закурыць, але дзяўчына адмовілася. Запаліўшы цыгарэту, я прыняў позу, якая павінна была сведчыць, што я гатовы слухаць.

— Справа датычыць маіго бацькі,— сказала дзяўчына, і вусны яе задрыжалі,— сенатара Грэгорыо П. Рамірэса. Вы, пэўна, чулі пра яго.

Я задушыў у сабе жаданне спытаць, што азначае літара «П», і адказаў:

— Чуў. Што з ім здарылася?

— Яго шантажыруе адна жанчына,— адказала дзяўчына, апусціўшы вочы. Ледзь стрымліваючы хваляванне, яна пакусвала ніжнюю губу.

— Я вас слухаю, сеньярыта Рамірэс. Гаварыце.

І Гленда Рамірэс, запінаючыся, расказала даволі банальную гісторыю.

Яе бацька тайна сустракаўся са свецкай дамай па імені Сусана. Сенатар меў неасцярожнасць пакінуць пісьмовае сведчанне свайго кахання — палкія пісьмы да Сусаны. Але ўсё на гэтым свеце мае канец, і страсць яго паступова пачала атухаць, а потым і зусім згасла.

Усё скончылася б добра, калі б гэтая дама самаахвярна прыняла ўдар лёсу і пастаралася толькі слязьмі аблегчыць сваё гора, якое, безумоўна, было ў тым, што яна засталася без пэўнай долі тых шасцісот тысяч песа, якія атрымлівалі ад дзяржавы «бацькі айчыны». Але, на бяду, Сусана не належала да такіх жанчын.

Калі сенатар думаў ужо, што Сусана выкраслена з яго жыцця, ён раптам атрымаў ад яе ліст, поўны пяшчотных папрокаў. Ён не адказаў, і ў новым лісце

Сусана ўжо запалохвала яго, а ў адказ на ўпартае маўчанне прыслала пісьмо з прамой пагрозай: альбо ён будзе пасылаць ёй належную суму грошай, альбо яго жонцы перададуць усе любоўныя пасланні сенатара да Сусаны.

Тады сенатар, у чые планы не ўваходзіў развод з жонкай (між іншым, і таму, што даволі салідны сямейны капітал юрыдычна належаў ёй), пачаў кожны месяц пасылаць Сусане грошы. Так яно было б і дасюль — Рамірэс ужо скарыўся лёсу. Але нядаўна на сваім тайным зборышчы «бацькі айчыны» вырашылі ў якасці кампенсацыі за магчымыя будучыя «ахвяры» на службе нацыі павялічыць памер сваёй пенсіі.

Дазнаўшыся пра гэта дзякуючы сваім высокім сувязям, ненасытная Сусана запатрабавала ад Рамірэса адпаведнага павелічэння сумы яе месячнага ўтрымання і нават дакладна ўказала лічбу, што рабіла гонар яе матэматычным здольнасцям. Сітуацыя зрабілася нясцерпнай. Сенатар упаў у шаленства, што ўрэшце скончылася апаплексічным ударам. У гневе ён доўга нешта крычаў, і з яго крыкаў дачка даведалася пра ўсё — добра, што маці, сеньёра Рамірэс, некуды адлучылася з дому.

Скончыўшы расказ, сеньярыта Рамірэс адразу папрасіла, каб я, не трацячы часу, здабыў пісьмы сенатара, якія знаходзіліся ў Сусаны. (Яна нават сказала: «выкраў» — ледзь чутна прашаптала, прыкрыўшы твар рукамі.) Наша здзелка завяршылася тым, што дзяўчына выняла з сумачкі і перадала мне паперку ў сто песа, абяцаўшы яшчэ дзве, калі я перадам ёй пісьмы.

— Вы можаце пачакаць да заўтра? — запытаў я.

— Што вы, не! — усхапілася дзяўчына.— Заўтра ж — дзень, прызначаны Сусанай для перадачы бацькавых пісьмаў маёй маці, а гэта азначае развод!

Я папрасіў Гленду даць адрас Сусаны і сказаць, дзе, на яе думку, схаваны пісьмы сенатара. Потым загадаў ёй ісці дадому і чакаць майго званка.

Дзяўчына паднялася з крэсла, нерашуча падала мне руку і паспешліва пакінула бар.

Прызнацца, нейкі ўнутраны голас перасцерагаў мяне, што справа небяспечная, але я не прыслухаўся да яго.

Прабавіўшы яшчэ нейкі час у бары, я вырашыў пайсці на пошукі ў дом Сусаны.

Хаця гадзіннік паказваў толькі дзевяць, у асабняку на Ведада ўсё нібы вымерла. Але нічога дзіўнага ў гэтым не было — начное жыццё Сусаны пачыналася рана.

Я ўважліва агледзеў абсаджаны дрэвамі двор, пасярод якога ўзвышаўся дом, пераканаўся, што там нікога няма, і пералез цераз крацістую агароджу, выбраўшы момант, калі на вуліцы не было прахожых.

Паспрабаваў адамкнуць дзверы адмычкамі, але марна. Абышоў вакол дома, аднак усе яго вялікія вокны ахоўваліся металічнымі прутамі.

Я вырашыў паспрабаваць удачы ў памяшканні для слуг, і лішні раз пацвердзіўся закон, што ніякі ланцуг не бывае мацнейшы за яго самае слабае звяно. Адтуль я прабраўся ў дом.

Пасвяціўшы ліхтарыкам, я ўбачыў, што знаходжуся ў спальні Сусаны. Ва ўсім доме панавала мёртвая цішыня, і, хоць над дзвярыма свяцілася шчыліна, нічога не выдавала прысутнасці чалавека. Але я памыляўся. На ложку ляжала Сусана...

Яе арыгінальная прыгажосць уразіла мяне. Простыя чорныя валасы былі падстрыжаны па тагачаснай модзе «пад італьянскага хлопчыка». Цудоўны авал твару ледзь прыкметна парушаўся крыху вытырклым наперад падбародкам. Лініі носа, не класічныя па форме і паасобку не дасканалыя, разам

стварalі незвычайнае ўражанне, хоць і не зусім гармавічна зліваліся з лініяй рота. Вялікія чорныя вочы, адцененыя доўгімі вейкамі, своеасабліва выдзяляліся на твары, які ўвогуле ўяўляў сабой непаўторны варыянт хараства.

Нож быў усаджаны ў грудзі пад левай пахай. Яго шырокая драўляная ручка хавала ад вока рану.

Я перавёў позірк на раскошны туалетны столік — флаконы з разнастайнай і дарагой парфумай, бліскучыя бляшаначкі, з якіх некаторыя мелі інкрустацыю, пушачкі з пудрай, грабяні і грабеньчыкі розных форм і колераў. У чорнай прадаўгаватай шкатулцы са слановай косці ляжала каштоўная жаночая аздоба. Я зазірнуў у шафу; там віселі элегантныя сукенкі — ад такіх, што шчыльна прылягаюць да цела, дэманструючы ўсю жаночую красу, да зусім прасторных сукенак-«мяшкоў». Потым я агледзеў столік з двума крэсламі, што стаяў ля ложка. На ім — попельніца з недакуркамі і попелам ад цыгарэт і два бакалы з недапітым віном. На засланай дыванам падлозе былі легкадумна параскіданы інтымныя прадметы жаночага туалету. Іншых прыкмет бязладдзя ў пакоі не было.

Я падышоў да ложка і крануў рукою цела. Яно было халоднае, але кроў на белай пуховай коўдры яшчэ не засохла.

Не спяшаючыся я пачаў пошукі. Метадычна перабіраў кожную рэч, у якой маглі быць схаваны пісьмы сенатара. Але нідзе нічога не знайшоў. Намерыўся ўжо ісці шукаць у іншых пакоях, як раптам увагу маю зноў прыцягнула шкатулка з каштоўнасцямі. Шкатулка была незвычайная — здавалася, ёй тысяча гадоў. На вечку са слановай косці быў выразаны партрэт жанчыны ўсходняга тыпу — на выгляд кітаянкі. Ахоплены цікаўнасцю, я ўзяў шкатулку ў рукі і пачаў разглядаць партрэт. Потым выцягнуў вечка.

Аздоба была, безумоўна, вельмі каштоўная, хаця траплялася і біжутэрыя. Сама па сабе шкатулка, падумаў я, не была прызначана для хавання ювелірных вырабаў. Я адчуў нейкую дзіўную неадпаведнасць паміж тым, для чаго яна цяпер служыла, і прычынай, што натхніла разьбяра выразаць такі партрэт. Пад уплывам нейкага ўнутранага чуцця я выкуліў усё, што ў ёй было, на туалетны столік і патрос шкатулку. Потым пастукаў па днечку. Ад гуку, які празвінеў у маіх вушах, моцна забілася сэрца. Я паспрабаваў усё, што мне падказала логіка, каб прывесці ў рух патаемную спружыну, якая адчыняла сакрэтнае аддзяленне. Але ўсе мае спробы былі марныя, і, стомлены, я ўсунуў вечка ў пазы і зачыніў шкатулку. На твары кітаянкі, мне здалося, мільганула радасць. Я палічыў гэта дзёрзкім выклікам. Выняўшы з кішэні лупу, пачаў уважліва вывучаць шкатулку. Нарэшце на лобе кітаянкі я заўважыў непрыкметнае для простага вока паглыбленне, якое можна было прыняць за арганічную дэталь партрэта. Я ўзяў са століка брошку і ўсунуў кончык шпількі ў дзірачку. Пачуўся шчаўчок. Я зняў вечка і ўбачыў сакрэтнае аддзяленне — у ім былі пісьмы. Я паклаў іх сабе ў кішэню.

Усе напасці, што наваліліся на мяне потым, былі вынікам безразважлівай самаўпэўненасці, якую я праявіў той ноччу...

Раптам за маёй спіной пачуліся лёгкія крокі. Я імгненна сунуў руку пад паху, каб выхапіць з кабуры люгер, але ўладны голас загадаў:

— Не варушыцца!

Я хацеў павярнуцца, каб тварам у твар сустрэцца са сваім праціўнікам, але зноў пачуў загад:

— Не паварочвацца! — і я застыў на месцы: зрабіўшы адну памылку, нельга бяздумна рызыкаваць, каб не зрабіць яшчэ большай.

Я ўвесь напружыўся, стараючыся выбраць зручны момант для абароны, і пачаў чакаць, каб чалавек зноў загаварыў. Але ён маўчаў. Прынамсі, не памятаю, ці пачуў я зноў яго голас або які іншы гук.

Раптам я адчуў удар па галаве, бліснула ўваччу — нібы заіскрыліся зорачкі, як на гранях апалавага крышталю, і я праваліўся ў цемру...

Не магу дакладна сказаць, колькі часу я быў непрытомны. Нарэшце, падняўшыся з падлогі, я зрабіў некалькі крокаў, стараючыся спарадкаваць думкі. Потым прыхінуўся да сцяны і праз туманную плёнку ў вачах пачаў аглядаць пакой. Усё засталося, як было. На ложку па-ранейшаму ляжала цела забітай жанчыны, толькі са століка знікла шкатулка і з ёю — усе каштоўныя рэчы.

Раптам начную цішыню разарвалі далёкія гукі сірэны. Мяне ахапіў страх. Сумнення не было. Трэба хутчэй уцякаць, і тут я зірнуў на падлогу — на ёй ляжалі мае пальчаткі! Перавёў позірк на свае голыя рукі, і сэрца ліхаманкава закалацілася. Я моцна вылаяўся, таму што зразумеў, якую мне падстроілі пастку. На сценах пакоя я ўбачыў крывавыя плямы — адбіткі маіх далоняў!

Гукі паліцэйскай сірэны набліжаліся. Я выскачыў у двор — якраз у самы час: услед за рэзкім скрыгатам шын па асфальце пачуліся моцныя ўдары ў вароты. Я пералез цераз садовую рашотку і паспешліва рэтыраваўся.

Дабраўшыся да свайго атэля, я перш-наперш прыняў душ. Потым асцярожна абмацаў галаву. Яна апухла і балела, але рана была несур'ёзная. Апрануўшыся, праглынуў кілішак бакардзі і прысеў у крэсла, каб падумаць пра тыя глупствы, што я натварыў.

Зірнуў на гадзіннік — была палова адзінаццатай. У памяці ўсплыло ўсё, што са мной адбылося менш

як за паўтары гадзіны. Я не стаў марна траціць часу на дарэмныя папрокі самому сабе — добра разумеў, у якім становішчы апынуўся. Нядоўга думаючы, я ўзяў канверты, ямчэй усеўся ў крэсле і пачаў чытаць пісьмы. Толькі тры з іх належалі сенатару, астатнія былі напісаны іншымі і, трэба прызнаць, больш энергічнымі асобамі. Ніхто не надпісаўся поўным іменем. Я адклаў пісьмы сенатара, а тыя, што засталіся, схаваў у кішэню — там не было нічога цікавага для мяне. Выпіў яшчэ адзін кілішак бакардзі, крыху падумаў і зняў тэлефонную трубку. Пачуўшы голас Гленды, я ўсміхнуўся: дзяўчынка аказалася слухмяная — увесь час не адыходзіла ад тэлефона, чакаючы майго званка.

— Яны ў вас? — усхвалявана запытала яна.

— І яны, і яшчэ сёе-тое...— адказаў я.— Калі прыйдзеце па іх?

Мае словы, відаць, устрывожылі дзяўчыну.

— Не зусім вас разумею,— пачуўся глухі голас.— Можаце растлумачыць?

— Не па тэлефоне, сеньярыта Рамірэс.

На тым канцы провада наступіла маўчанне — напэўна, дзяўчына абдумвала, як зрабіць.

— Праз гадзіну я буду ў вас у канторы,— нарэшце пачуўся адказ.— Я вас там яшчэ застану?

— Буду чакаць,— прабурчаў я і павесіў трубку.

Гадзіннік паказваў палову дванаццатай. Калі праз сорак мінут я падышоў да дзвярэй сваёй канторы, мяне ўжо чакала асоба на прозвішчы Рамірэс, толькі гэты Рамірэс быў стары, пляшывы і тоўсты. Маленькія каварныя вочкі неспакойна бегалі на яго фанабэрыстым твары. Апрануты ён быў у дарагі гарнітур і меў выгляд чалавека, які ўсё жыццё аддаваў толькі загады. Пагарда, што свяцілася ў яго позірку, яшчэ больш падкрэслівалася тонам, які ён палічыў за лепшае абраць, калі прамовіў:

— Вы, мяркую, Арэс.

Я нічога не адказаў. Між іншым, таму, што не палічыў сказанае ім за пытанне. Толькі крышачку адступіў убок, прапускаючы яго ў дзверы. Увайшоўшы, ён грузна апусціўся на крэсла, і дрэва зарыпела пад яго саліднай вагой.

— Сеньярыта Рамірэс не прыйдзе? — спытаў я.

— Не лічу патрэбным тлумачыць вам прычыны, па якіх дачка мая не прыйдзе,— адказаў ён, шматзначна зірнуўшы на свой гадзіннік.— Мне стала вядома, што яна дала вам даручэнне дастаць пэўныя... паперы. Безумоўна, яна зрабіла гэта ўпотай ад мяне. Толькі што я даведаўся, што місія ваша скончылася шчасліва, і прыйшоў замест дачкі. Вось дзвесце песа, якія вам належаць згодна дамоўленасці.— Сенатар выняў з партманета дзве пурпурныя купюры.

— Ох, сенатар! — усміхнуўся я.— Колькі слоў вам спатрэбілася, каб проста сказаць, што дачка ваша даручыла мне выкрасці пісьмы ў вашай «найчароўнейшай Сусаны».

Сенатар і брывом не павёў, калі пачуў, як я цытую яго словы. Адно прасвідраваў мяне зняважлівым позіркам.

— Толькі дзіцячая нявопытнасць магла штурхнуць мяне ў лапы такога беспардоннага шэльмы, як вы,— прабурчаў ён.— Як я разумею, вы не згодны з платай — трыста песа, як было дамоўлена, і цяпер патрабуеце больш, ці не так?

— Як вам сказаць, сенатар...— адказаў я, пачухваючы падбародак.— Грошы я заўсёды не супраць атрымаць, толькі не тою цаною, якую мне давялося заплаціць.— Я знарок ашчэрыўся нахабнай усмешкай.— Прызнацца, каб я карыстаўся парламенцкай недатыкальнасцю, мне было б няважна — адным забойствам больш ці менш, але справа ў тым, што я просты смертны, і...

Твар сенатара раптам пабарвавеў, і ён рэзка перабіў мяне:

— Што вы верзяце! Думайце, што кажаце! Папярэджваю вас: ніякіх агаворак я не пацярплю. Дзе пісьмы?

— Здаецца, сенатар, вы не зусім зразумелі,— адказаў я, развязна рагатнуўшы.— Гаворка ідзе пра забойства. Прыпамінаеце? Вашай «найчароўнейшай Сусаны». Калі я пранік у яе дом, яна была мёртвая, як фараон. Але навошта расказваць вам тое, што вы ведаеце лепш за мяне?

Я ўсё яшчэ здзекліва пасмейваўся, разваліўшыся ў крэсле і закінуўшы за галаву рукі, як раптам зразумеў усю легкадумнасць сваіх паводзін (другая ўжо памылка за адну ноч!): у руках у сенатара я ўбачыў пісталет.

— Будзьце ласкавы зараз жа зразумець, што са мной жарты малыя! Давайце сюды пісьмы! — сказаў ён.

Я сунуў руку ў кішэню, дастаў два канверты і панура паклаў іх на стол.

— Аднаго не хапае. Выкладвайце! — загадаў сенатар.

— Як не хапае? — састроіў я здзіўленую міну.— Іх было толькі два.

Сенатар задумаўся, не апускаючы нацэленага на мяне пісталета.

— Я напісаў тры,— нарэшце прамовіў ён.

— Вельмі шкада, але ў мяне трэцяга няма. Магчыма, ваша дама знішчыла яго — для шантажу і аднаго досыць.

— Таму мяне і цікавіць, дзе трэцяе,— адказаў сенатар і сунуў пісьмы сабе ў кішэню. Ужо ўзяўшыся за ручку дзвярэй, ён скіраваў на мяне знішчальны позірк.— Дазвольце вас папярэдзіць, Арэс: ні ў

якім разе не ўздумайце шантажыраваць мяне гэтым пісьмом!

— Яму толькі пісьмы! — прабурчаў я, калі за Рамірэсам зачыніліся дзверы.— Лёс Сусаны яго зусім не турбуе.— Я зірнуў на гадзіннік — была палова першай.— На каго ўпадзе падазрэнне ў забойстве? — Я пацiснуў плячыма і згроб са стала свой ганарар.— Раніцой даведаемся,— нарэшце вяла прамовіў я і пакінуў кантору.

У атэлі я занёс у дзённік, які вёў з самага пачатку сваёй дзейнасці, важнейшыя падзеі дня, потым лёг спаць і добра паспаў ноч.

## 4. ПРЫСТАНІШЧА ЎЦЕКАЧА

Бралася на дзень. Я падняўся з ложка, пагаліўся, прыняў душ і апрануўся. З газеты даведаўся: прычына забойства — грабежніцтва. Пакаёўка Сусаны заявіла, што прапалі каштоўныя рэчы. Знікла і карціна Дэга. Рамка, якая засталася вісець на сцяне, была нямой сведкай вытанчанага густу рабаўніка. З усіх карцін, што ўпрыгожвалі гасціную Сусаны, ён выбраў «Балерыну за кулісамі» Эдгара Дэга.

Паліцыя абвясціла, што вывучаюцца адбіткі пальцаў, выяўленыя на месцы здарэння, і затрыманне злачынца — справа некалькіх гадзін. Там не сумняваліся: рабаўнік і забойца — адна і тая ж асоба. Я чартыхнуўся: значыць, я не толькі злодзей, але яшчэ і забойца! Каб яна правалілася — гэтая дзяўчынка з анёльскім тварам...

Цяжка ўздыхнуўшы, я раскрыў бумажнік і глянуў на пурпурныя паперкі. «Не, яна не вінаватая»,— вырашыў я, выходзячы з атэля. Паснедаўшы, у сваю кантору не пайшоў, а пазваніў з аўтамата па дамашнім тэлефоне сенатара Рамірэса.

— Каго вам? — пачуўся ў трубцы басавіты голас. Па пачцівым тоне я зразумеў, што гаворыць слуга.

— Сеньярыту Рамірэс, калі ласка.

— Прашу прабачыць, хто яе пытаецца?

Я нешта буркнуў сам сабе пад нос — такое пытанне трэба было прадбачыць.

— Якая вам розніца? — строга ўзвысіў я голас.— Калі сеньярыта дома, хай возьме трубку.

Мой тон займеў сілу — слуга падумаў, што я з тых асоб, каму нельга адмаўляць.

— Сеньярыта ва універсітэце, ваша міласць,— пакорліва адказаў ён.

Я павесіў трубку. Запаліў цыгарэту і задуменна зрабіў некалькі зацяжак. Тады кінуў недакурак і пайшоў. Ва універсітэцкім бюро даведак мне сказалі, што Гленда Рамірэс вучыцца на філасофскім. Я паставіў машыну перад вучэбным корпусам і стаў чакаць. Каля адзінаццаці ў вулічнага прадаўца газет купіў дзённы выпуск «Атахі» і на першай паласе ўбачыў свой партрэт. Становішча пачало напаляцца. Праз паўгадзіны з пад'езда ў вясёлай чародцы студэнтак з кніжкамі пад пахай выйшла Гленда. Я ціхенька свіснуў. Глендзі зірнула ў мой бок і падбегла да машыны.

— Трэба пагаварыць,— сказаў я.— Сядайце ў машыну.

Маё запрашэнне ёй яўна не спадабалася — здзіўленне на твары дзяўчыны змянілася збянтэжанасцю. Але азірнуўшыся навокал, яна хуценька ўскочыла ў кабіну. Убачыўшы ў газеце, якая ляжала на сядзенні, маё фота, яна ледзь не ўскрыкнула. І было чаго спужацца — вялікія чорныя літары над партрэтам абвяшчалі: «ПАЛІЦЫЯ ШУКАЕ НЕБЯСПЕЧНАГА ЗАБОЙЦУ».

— Вы... вы яе... забілі? — запінаючыся, прашаптала дзяўчына.

— Я вас учора вечарам чакаў,— з дакорам сказаў я.

— Так, я абяцала. Але ў таты паралельны тэлефон... Вы не адказалі на маё пытанне. Гэта вы яе забілі? — у голасе прагучаў жах.

— Відаць, так думае паліцыя,— адказаў я.— Але ёсць два чалавекі, якія ведаюць, што яна памыляецца.

— Хто ж яны?

— Забойца і, натуральна, я, — усміхнуўся я.

— Вы ведаеце, хто забойца? — усхвалявана запытала Гленда.

Я дапытліва паглядзеў на яе і адказаў:

— Гэта ваш бацька.

— Няпраўда! — запратэставала дзяўчына.— І вы добра ведаеце, што гэта няпраўда, але хочаце напалохаць мяне.— У яе ў вачах успыхнула трывога, і голас гучаў нерашуча.

Я яшчэ крыху падкруціў струну, каб паглядзець, якой нотай яна адзавецца:

— Вы з вашым бацькам згаварыліся падстроіць мне пастку. Я шмат перадумаў пасля ўчарашняга. Чаму такая спешка з гэтымі пісьмамі? Не знайшоўшы мяне на рабоце, пайшлі шукаць па барах.— Дзяўчына зрабіла пратэстуючы жэст, але я гаварыў далей: — Патрэбен быў толькі я — ніхто іншы. Можа, тут адыграла ролю мая слава дэтэктыва, які не ведае, што такое сумленне? Ваш прыгожанькі тварык і тры пурпурненькія — гарантыя таго, што я не адхілю даручэння.

— Подлая хлусня! — гнеўна прашаптала дзяўчына.

— Магчыма, вы не ведаеце ўсёй гэтай інтрыгі,— працягваў я.— Можа, ваш бацька толькі папрасіў вас даць мне даручэнне, і я, як той дурань, клюнуў. Як адмовіць такой чараўніцы з трыма сотнямі песа?

Бацька ваш разлічваў на гэта. Ён чакаў мяне там. Ударам па галаве аглушыў і запэцкаў усю спальню сваёй «найчароўнейшай Сусаны»,— я злавесна ўсміхнуўся,— адбіткамі маіх пальцаў... Умелая работа.

Дзяўчына пільна пазірала на мяне — у яе вачах гарэлі і гнеў, і пагарда, і жах.

— Сама не ведаю, чаму я слухаю вас,— сказала яна.— Але калі вы сапраўды верыце ўсяму таму, што гаворыце, дык нават бацька мой лепш пра вас думаў.

Калі яна выходзіла з машыны, у вачах у яе стаялі слёзы. З грудзей маіх вырваўся хрыплы стогн, з вуснаў сарвалася моцнае слова. Я раптам зразумеў, што разблытаць гэтае забойства цяжкая справа. Падумаўшы крыху, я склаў план кампаніі. Выйшаў з машыны і пакрочыў да аўтобуснага прыпынку. Прыехаўшы ў гандлёвы цэнтр горада, пазваніў у гараж, дзе не раз ставіў машыну, і сказаў, дзе я яе пакінуў.

Змяшаўшыся з натоўпам пешаходаў, я пакрочыў па вуліцы Каралевы да Звонавай. Калі хто з гэтых людзей і паспеў убачыць мой партрэт у газеце, ён наўрад ці пазнае мяне сярод гэтага мора твараў.

У кітайскай цырульні на вуліцы Санха мяне пастрыглі па-вайсковаму і збрылі вусы.

Адтуль я пайшоў да Алісіі, якая жыла ў Старой Гаване. Калі яна адчыніла мне дзверы, на твары яе была іранічная ўсмешка.

— Заходзь, заходзь, каханенькі. Якраз чакаю цябе.

Я ўвайшоў.

— Я ведала, што ты вынырнеш,— гаварыла Алісія.— Калі ўбачыла тваё фота ў газеце, падумала: цяпер-то ён прыйдзе сюды адседжвацца. Куды ж, як не сюды... Ты трапіў у пераплёт і ўспомніў пра Алісію. Пазней, калі ўсё ўладзіцца, ты пацалуеш мяне ў носік і скажаш: «Пакуль, малышка!» — і зноў знік-

неш... і вернешся, калі натворыш новых глупстваў,— у голасе яе гучала горыч.

Я ведаў, што яе словы — чыстая праўда. На момант адчуў сябе, як той воўк з байкі. Каб схаваць збянтэжанасць, узяў Алісію на рукі і пацалаваў. Потым апусціў на канапу. У вачах у яе мігацеў дакор. Разумеючы сваю віну перад ёю, я зноў пацалаваў Алісію. Яна абняла мяне за шыю і адказала гарачым пацалункам.

— Гэта хвіліна — узнагарода за ўсё,— сказала яна.— Цяпер зоймемся табой.

— Мы ж толькі гэта і робім з таго імгнення, як я прыйшоў,— засмяяўся я.

— Ты заспеў мяне не ў самым добрым настроі. Са мною такое бывае. Але справа не ў гэтым. Скажы, чаму паліцыя лічыць, што ты забіў гэтую жанчыну? — спытала Алісія і раптам спалохана асеклася: — Не ты ж яе забіў, праўда?

Я ўтаропіўся на яе і адсунуўся. Мне не падабаюцца дзяўчаты, што задаюць наіўныя пытанні, але ў тоне яе голасу не было нічога наіўнага. Я пацалаваў Алісію і прамармытаў:

— А ты як думаеш?

— Ты на ўсё здатны... і я нават баюся расчаравацца.

— Дзёрзкая дзяўчынка!

— Толькі такая магу я ўтрымаць цябе пры сабе.

— Эгаістка! Даброж трэба дзяліцца.

— А ты фат!.. Сатыр!..

Я ўсміхнуўся і коратка расказаў ёй, што са мною здарылася.

— Усё гэта падстроена, каб зваліць на мяне віну за забойства,— сказаў я пад канец.

— Так табе і трэба. Гэта ж не па тваёй спецыяльнасці. Ты ўзяўся за гэту справу толькі дзеля таго, каб дагадзіць таму дзеўчаняці.

— Хопіць, малышка,— запратэставаў я.— Што, мы так увесь вечар і будзем толькі на гэту тэму гаварыць? З мяне досыць папрокаў! — Я падняўся з канапы і насунуў на галаву капялюш — чысты тэатр, бо ісці мне не было куды. Алісія кінулася мне на шыю... і ўсё ўладзілася.

І тады я пачаў здзяйсняць свой план. Папрасіў Алісію прынесці пісьмы, якія я знайшоў у Сусаны,— яны ляжалі ў маёй канторы ў сейфе.

— Паліцыя,— сказаў я ёй,— напэўна, знадворку сочыць за домам, падсцерагаючы мяне. Але і ў самім доме хто-небудзь можа хавацца. Перш чым увайсці ў кантору, добра прыглядзься.

На развітанне я прачытаў ёй лекцыю пра тое, як адвязацца ад шпіка.

Алісія вярнулася праз дзве гадзіны, даказаўшы, што добра засвоіла ўрок,— хваста за сабой не прывяла. Я разгарнуў пакет з пісьмамі — іх было шэсць: адно ад сенатара, астатнія — ад трох розных асоб, якія падпісаліся ініцыяламі. Мне зрабілася ніякавата — чытаў іх і перачытваў, але не знайшоў ніводнага імені ці прозвішча. Не было нават за што ўхапіцца — звычайныя глупствы, якія мужчыны адрасуюць жанчынам, калі губляюць з-за іх галаву. Я вылаяўся і падняўся з крэсла. Алісія ўпілася ў мне позіркам. У гэтай жанчыне было нешта такое, ад чаго мне з ёю заўсёды было вельмі добра,— можа, у яе вачах, можа, у выразе яе твару, а можа, ва ўсёй яе істоце... Але больш за ўсё мне падабалася яе красамоўнае маўчанне. Часцей яна маўчала, а гаварыла, толькі калі нельга было не гаварыць. Калі я бываў у яе, я мог спакойна паразважаць. Вось і цяпер яна ўсміхнулася і, падняўшыся з канапы, пайшла на кухню. Вярнулася са шклянкай халоднага піва — апярэдзіла маё жаданне... Такая ўжо яна...

Цямнела... Мы павячэралі. Я пачаў чытаць апош-

нія выпускі газет, якія прынесла Алісія. Усё было, як раней: паліцыя абяцала хутка схапіць забойцу. Я ўсміхнуўся — імя злачынца не называлася. Яны ўсё яшчэ маюць на ўвазе мяне? Я ўзяў свой блакнот і запісаў адрас шафёра Сусаны. Яго паказанні былі нецікавыя, але, магчыма...

А восьмай гадзіне, праслухаўшы апошнія паведамленні па радыё, вырашыў ісці. Праверыў свой люгер і надзеў капялюш. І тут Алісія загаварыла:

— Думаеш, я буду цябе адгаворваць? — Яна зразумела маю ўсмешку і ціха сказала: — Не, не буду. Толькі час патрачу. Асцерагайся, дарагі, вельмі сцеражыся.

— Ты яшчэ спяваеш у «Сьеры»? — спытаў я.

— Спяваю. Але канцэрт пачынаецца толькі ў адзінаццаць. Прыйдзеш?

— Магчыма.

Я пацалаваў Алісію і пайшоў.

Стоячы на аўтобусным прыпынку, адчуваў сябе вінаватым — усё мроіўся яе дакорлівы позірк. І я сапраўды быў вінаваты перад ёю. Ніколі ў адносінах да Алісіі я не пакутаваў ад мукаў сумлення, а яна ніколі не праганяла мяне.

## 5. ЧАЛАВЕК ПА ПРОЗВІШЧЫ МАКЕЙРА

Стары пахілены дамок самотна стаяў у неглыбокай катлавіне, а крыху далей, там, дзе зямля паднімалася ўгору, рад такіх жа развалюх служыў пачаткам беднага прадмесця. З узгорка я ўважліва агледзеў наваколле. За паўквартала ад мяне ў святле вулічнага ліхтара купка абадранцаў у шумнай гутарцы бавіла час. У другім канцы на вуліцы не было ні душы.

Я пастаяў яшчэ некалькі хвілін у цяні дрэва —

служыцеляў парадку нідзе не было відаць. Тады спусціўся па схіле да доміка і ціха пастукаў у дзверы. Мне адчыніла жанчына — на руках яна трымала дзіця, а яшчэ адно дзіцянё чаплялася за яе спадніцу. На першы погляд жанчыне было гадоў сорак — сорак пяць. Але, магчыма, і менш: зморшчыны на яе твары маглі сведчыць аб пакутах, а не аб старасці. Стомленыя, журботныя вочы выдавалі пакорлівасць лёсу. Беднасць... галеча... Вочы яе гаварылі больш красамоўна, чым словы. Жанчына пільна паглядзела на мяне і вяла запыталася:

— Вам каго?

Я не паспеў адказаць: за яе спіной узнік румяны твар мужчыны.

— Хто тут, Анхела?

Я крыху адступіў убок, каб мяне лепш было ўбачыць, але мужчына нічым не паказаў, што ведае мяне. Зрабіўшы крок наперад, ён мякка адсунуў жанчыну, і яна паслухмяна пайшла ў дом, цягнучы за сабою хлопчыка.

Гаспадар уважліва вывучаў мой твар і нарэшце запрасіў:

— Праходзьце, малады чалавек. Я газеты чытаю, але ніколі не асуджаю чалавека, пакуль не выслухаю яго.

— Дзякую,— прамармытаў я і сеў на пашарпанае крэсла, на якое ён паказаў мне рукой.

— Калі чалавек што-небудзь робіць, на тое ў яго ёсць прычыны,— выказаў ён думку, таксама садзячыся.— Часам ён робіць добрую справу, а часам ліхую. Думаю, у вас была свая прычына.

Нядрэнна для пачатку! Загадзя ён не асуджае, але і не сумняваецца, што я — забойца.

Гаспадар моўчкі ўтаропіў задуменны позірк на падлогу.

— Можа, вам здасца дзіўным, што я зараз ска-

жу,— загаварыў ён зноў, пазіраючы на мяне ва ўпор.— Сусана, безумоўна, заслужыла смерць: гэта была дэспатычная жанчына, страшэнная эгаістка. І са мной абыходзілася кепска, і я... так, і я не быў выключэннем. Да ўсіх яна ставілася аднолькава.

Я з цікаўнасцю глядзеў на яго. Чалавек ён, відаць, шчыры, сумленны. Якраз такі мне і быў патрэбны. Толькі ён мог вывесці мяне з тупіка.

— Цяпер вы без работы, сеньёр Макейра,— пачаў я.— Я мог бы наняць вас на некалькі дзён. Мне патрэбен шафёр.

— Не, дзякуй,— паспешліва адмовіўся ён.— Як вы самі разумееце, мне сапраўды патрэбна работа, але не такая небяспечная. Да таго ж...

Я дастаў з кішэні бумажнік і выняў паперку ў сто песа.

— За тры дні,— сказаў я і паклаў грошы яму на калена.

— Да таго ж,— гаварыў ён далей,— машына, на якой я ездзіў, належала ёй, а ў вас у саміх, пэўна, машына на хаду.

Я выцягнуў яшчэ адну пурпурненькую, дзве дзесяткі і адну цяцёрку.

— Вазьміце напракат на тыдзень,— распарадзіўся я і, глянуўшы на гадзіннік, дадаў: — А палове адзінаццатай паволі рухайцеся па вуліцы Інфанты. Так... і яшчэ: начапіце на антэну белую хусцінку.

Макейра прайшоў са мной да дзвярэй. Выгляд у яго быў спалоханы.

— Вы так не хвалюйцеся, сеньёр Макейра,— паляпаў я яго па плячы.— Сусану я не забіваў.

Цень здзіўлення прабег па яго твары.

— Не вы? Тады хто ж?..

— Вось пра гэта мы і дазнаемся — вы і я. Да хуткага!

У дзесяць сорак я сеў у машыну, якую вёў Ма-

кейра,— бліскучы чорны «шаўрале». Я загадаў яму павярнуць у першую ж вуліцу. Некаторы час packages паназіраў за машынамі, што ехалі ззаду, але не ўбачыў нічога падазронага. Аднак, нягледзячы на скептычную ўхмылачку шафёра Сусаны, разоў пяць загадваў яму мяняць кірунак.

— Вы нейкі дзіўны чалавек,— зазначыў ён.— У той дзень, калі... забілі Сусану, вы паводзілі сябе вельмі неабачліва... А сёння занадта ўжо асцярожна...

— Вы ледзь не сказалі інакш,— прабурчаў я.

— Як?

— «У той дзень, калі вы забілі Сусану».

— Правільна,— прызнаўся Макейра.— Іменна так я і хацеў сказаць, але пайшлі б толькі лішнія спрэчкі. Які ваш план?

Я не адказаў на яго пытанне. Выцягнуў з кішэні блакнот і спытаў:

— Колькі палюбоўнікаў было ў Сусаны?

Макейра, усміхаючыся, павярнуў да мяне твар:

— Не падлічваў — цяжкая была б задача.

— Сярод іх ёсць чалавек, чыё імя і прозвішча пачынаюцца з літары Р. Ведаеце, хто гэта?

— Вядома,— не вагаючыся адказаў Макейра.— Яна называла яго сеньёр Р. Гэта Рамберта Рамераль. Іспанец. Імпартуе з Іспаніі розныя прадукты, асабліва спіртныя напіткі. Да апошняга часу жыў на вуліцы Альмендарэс.

— Зробім яму візіт,— сказаў я і адкінуўся на спінку сядзення.

Звонку дом Рамераля не меў таго выгляду, які, на маю думку, павінна была мець рэзідэнцыя шчаслівага паклонніка Сусаны. На званок адчыніў сам гаспадар. Я не ведаў яго, але здагадаўся па нездаволенай міне на твары — ён, пэўна, чакаў некага іншага.

— Што вам трэба? — суха запытаў ён.

— Пагутарыць з вамі,— адказаў я і, не чакаючы запрашэння, пераступіў парог.

— Якое нахабства! Як вы пасмелі такім чынам урывацца ў мой дом!

— Супакойцеся, сеньёр Рамераль! — сказаў я рашуча.— Скандал перш за ўсё пашкодзіць вам. Думаю, не ў вашых інтарэсах, каб жонка ваша прачытала вось гэта,— прыгразіў я, паказваючы яму пісьмо.

Ён працягнуў руку, каб схапіць канверт, але я хуценька сунуў яго сабе ў кішэню.

— Трэба пагутарыць,— паўтарыў я.

З суседняга пакоя пачуўся жаночы голас:

— Хто там, Рамбер?

— Нікога... нікога няма,— адказаў Рамераль, цягнучы мяне ў гасцінную.— Хутчэй гаварыце! Я не маю намеру аддаваць вам шмат часу.— Ён выняў з кішэні пачак цыгарэт «Партагас».

Мне раптам прыгадаліся акуркі, што ляжалі ў попельніцы на століку ў спальні Сусаны.

— Ці не пачастуеце мяне цыгарэтай, сеньёр Рамераль? — сказаў я.

Я не спадзяваўся, што ён дасць мне закурыць. Выхапіў пачак у яго з рук і схаваў у кішэню. Рамераль кінуўся на мяне з кулакамі, але я сустрэў яго ўдарам, і ён адскочыў.

— Калі адбіткі вашых пальцаў на гэтым пачку адпавядаюць адбіткам на якім-небудзь келіху ў спальні Сусаны, будзьце гатовы растлумачыць паліцыі шмат якія рэчы,— сказаў я.

Рамераль моўчкі пазіраў на мяне. У вачах у яго шугала нянавісць.

— Калі я пазваню вам па тэлефоне, а гэта будзе вельмі хутка, майце пераканальнае тлумачэнне, сеньёр Рамераль,— прыгразіў я і, павярнуўшыся да яго спіной, пайшоў да выхаду.

— Ну, як там? — больш са спагады, чым з цікаўнасці запытаў Макейра, калі я сеў у машыну.

— Някепска для першага візіту.

— Вось як?.. А што, будуць яшчэ?

— Усё можа быць.

— Да каго мы цяпер накіруемся?

— Да нейкага К. С. П. Вы ведаеце, хто гэта?

Макейра задумаўся.

— Здаецца, гэта сеньёр Падуа,— нарэшце сказаў ён.— Карлас Сота Падуа. Яна называла яго «маё залатое цялятка». Чалавек у гадах, які яшчэ дазваляе сабе юначыя забавы. Думаю, жанчын да яго можа вабіць толькі адно — грошы. Сусана гаварыла, што ў яго два цукровыя заводы з плантацыямі — «цэнтралі».

— Гаспадыня ваша ўмела падбіраць сабе паклоннікаў, га?

— О, у гэтым яна была вялікая мастачка. Высокапастаўленыя чыноўнікі, прамысловыя магнаты, уладальнікі ігральных дамоў...

— Ага, вось-вось! Адно пісьмо якраз падпісана ініцыяламі С. В. Ці не ўладальнік гэта рулеткі Сегунда Верцьентэс?

— Ён таксама рабіў ёй візіты.— Макейра раптам імкліва павярнуўся ў мой бок і працяў мяне пранізлівым позіркам.— Вы мяркуеце, хто-небудзь з іх — забойца?

— Ва ўсіх ёсць свае матывы,— адказаў я і даў знак заводзіць матор.— Матыў — першапрычына кожнага злачынства, а Сусана гэтых людзей шантажыравала.

— Дык куды ехаць? — спытаў Макейра, націскаючы на газ.— Хаця асабіста мне здаецца, што час занадта позні для візітаў... для такіх візітаў. Можа, вам лепш прызначыць спатканне па тэлефоне? Як прыгразіце пісьмамі, да вас бегма прыбягуць...

Машына імчалася па 31-й авенідзе. Я дапытліва паглядаў на Макейру. Ён неяк дзіўна ўсміхаўся — адной палавінай твару. «Што ні кажы, а чалавек ён не просты»,— падумалася мне.

Мы праехалі праз тунель, і, мінаючы рэстаран «Пацін», Макейра запытальна зірнуў у мой бок, але я працягваў моўчкі курыць, не ведаючы, якое прыняць рашэнне. Калі павярнулі на вуліцу Л, я нарэшце загадаў спыніцца каля «Кармелы». Там я адразу накіраваўся да бара, заказаў куфаль піва і папрасіў даць мне тэлефонны даведнік. Адшукаў у ім нумар Карласа Сота Падуа. Папіваючы піва, чакаў, пакуль на другім канцы провада возьмуць трубку. Рэдкія гудкі гучалі адзін за адным, і я падумаў, што распачаў вельмі небяспечную гульню: усе фаварыты прыгажуні Сусаны былі людзі вельмі ўплывовыя. Нарэшце ветлівы жаночы голас у трубцы перапыніў мае думкі. Жанчына ўпарта дапытвалася, хто звоніць. Але раптам пачуўся голас мужчыны.

— Гэта сеньёр Падуа? — паспешліва запытаў я.

— Хто ж яшчэ? — пачулася ў трубцы.— Якога д'ябла вы непакоіце людзей у такі позні час?

Перш чым адказаць, я сербануў піва. Па голасе я зразумеў, што са мной гаворыць чалавек гадоў пяцідзесяці з ладным жывоцікам.

— Я магу расказаць вам нешта вельмі для вас цікавае адносна смерці Сусаны. Жадаеце паслухаць?

— Што вы сказалі? — пачуўся па-змоўніцку прыглушаны голас.

— Я не маю звычкі паўтараць двойчы, сеньёр Падуа.

— А я — слухаць розныя глупствы,— нягучна агрызнуўся ён, але, як я і меркаваў, трубкі не павесіў.

— Чакаю вас у кабарэ «Сьера» праз гадзіну, сень-

ёр Падуа.— Ён запярэчыў, але я цвёрда дадаў: — Мяне лёгка знойдзеце — на маім століку не будзе кветак.

Я павесіў трубку, дапіў піва і выйшаў з рэстарана.

— У «Сьеру»,— загадаў я Макейру.

— Куды? — перапытаў ён, і мне здалося, што я ўбачыў на яго твары здзіўленне.

— У кабарэ «Сьера»,— паўтарыў я.

— Так, гэта я зразумеў. Але пайсці туды — тое самае, што сярод белага дня рассесціся ў Цэнтральным парку... Аднак вы самі ведаеце, што робіце.— Макейра паціснуў плячыма.

— «Сьера» — цудоўнае месца,— вяла запярэчыў я, але Макейра змоўчаў.

Пад маркай таго, што я нібыта пакутую ад алергіі, я папрасіў афіцыянта прыняць з майго століка вазачку з ружамі.

Я сядзеў у цемнаватым кутку воддаль ад падмосткаў — не хацеў, каб мяне бачыла Алісія. Заказаў сабе дайкіры. Зайграў аркестр, і пачаліся танцы. Я трывожна азіраў залу. Калі публіка вярнулася да сваіх столікаў, на сцэну выйшла Алісія і заспявала. Як заўсёды, яна была вясёлая і гарэзлівая. Мяне, здаецца, не бачыла. Мне падабалася песенька, асабліва прыпеў. Алісія мне часта спявала яе дома. Пасля Алісіі выйшаў клоун у акружэнні мулатак, якія пад гукі банджа выканалі тэмпераментны танец. Вось гэта мулаткі!

Падуа падышоў да майго століка, калі публіка зноў танцавала. Убачыўшы мяне, ён не схаваў свайго здзіўлення:

— Вы?.. Вось дык смяльчак!

Гэта быў чалавек гадоў пад пяцьдзесят з вялікім жыватом. Я нават усміхнуўся, успомніўшы сваю здагадку. Характарам ён аказаўся не зласлівы, як мож-

на было меркаваць па тэлефоннай размове, а нават лагодны.

— Будзьце ласкавы, гаварыце коратка,— бадзёра сказаў ён,— бо, каб угаварыць жонку адпусціць мяне, я прыдумаў нешта не надта перакаацальнае.

Я ўважліва пазіраў на яго цёмны загарэлы твар. Гэта быў багаты метыс — адзін з тых, якіх было шмат на Кубе, толькі яны не любілі, каб іх так называлі ў вочы.

— Хачу прадаць вам пісьмо, сеньёр Падуа,— без лішніх слоў прыступіў я да справы.— Якое вы напісалі Сусане.

_ Ледзь прыкметная ўсмешка зайграла на яго вуснах, калі ён запальваў цыгарэту і зацягваўся. Калі выпускаў дым, твар яго ашчэрыўся шырокай ухмылкай. Падуа моўчкі пазіраў на мяне. Танец скончыўся, і публіка пачала вяртацца да сваіх столікаў, а Падуа ўсё яшчэ глядзеў на мяне, толькі ўжо зусім абыякава. Нарэшце сказаў:

— Значыць, вы вось пра што! Наконт пісьма... Дык яно ж — пустая паперка, сеньёр Арэс. Навошта мне яно — я сваіх пісьмаў ніколі не падпісваю...— у вачах яго не прамільгнула і ценю хвалявання.

На момант я сумеўся, але выгляду не падаў. Я думаў, што буду мець справу з палахлівым таўстуном, які прагне атрымаць назад пісьмо, што яго кампраметуе, а ён аказаўся менш чуллівым, чым электроннавылічальная машына.

— Вы, я бачу, няправільна зразумелі, чаму я прыйшоў на ваш выклік,— дадаў ён.— Хачу купіць зусім іншую рэч.

Мабыць, ён убачыў на маім твары здзіўленне, якога я не мог схаваць.

— Я гатоў,— спакойна гаварыў ён далей,— заплаціць дзве тысячы песа за карціну Эдгара Дэга

«Балерына за кулісамі». Вядома, калі яна непашкоджаная.

Вось яно што! Я прапаную яму выкупіць ягонае пісьмо, а ён...

Раптам у дзвярах кабарэ выраслі фігуры чацвярых паліцэйскіх. Я азірнуўся навокал. Двое ў цывільным накіроўваліся да майго століка. Кола замкнулася... Хацеў ускочыць з крэсла, але збоку пачуўся спакойны голас:

— Не ўзнімайце скандалу, Арэс. Ідзіце з намі.

Усе мае мускулы напружыліся. Я імкліва ўсхапіўся на ногі. Чалавек, што стаяў справа, атрымаў моцны ўдар у жывот, а той, што быў злева, ад майго штуршка страціў раўнавагу і паваліўся на суседні столік. Залямантавала нейкая жанчына, узняўся крык, і кабарэ заварушылася, як патрывожанае асінае гняздо.

Адпіхаючы ўсіх, хто трапляўся мне на дарозе, я скокнуў на сцэну і пабег праз артыстычныя пакоі. Наляцеў на паўраздзетых мулатак, якія пераапраналіся. Ледзь не сутыкнуўся з Алісіяй. Калі яна ўбачыла мяне, яе журботныя вочы ашклянелі.

— Не дачакаўся твайго чарговага нумара, малышка,— прамармытаў я паспешліва.— Дзе тут выхад?

Алісія пацягнула мяне па калідоры і адчыніла дзверы. Я пацалаваў яе. Я любіў Алісію: яна заўсёды ведала, чым мне памагчы ў рашаючы момант,— разумела з паўслова. Выскачыўшы з кабарэ, я ўмомант апынуўся на вуліцы Крысціны. Там мяне чакаў Макейра.

— Нехта, відаць, пазнаў мяне,— растлумачыў я таропка.— Паехалі!

Машына рушыла наперад. Дамчаўшыся да Беласкааіна, павярнулі на вуліцу Карласа III. На вуліцы Інфанты я вылез з кабіны і сказаў Макейру:

— Заўтра ў дзесяць раніцы дэфіліруйце па Малеконе.

— Малекон — праспект доўгі,— запярэчыў ён.

— Няважна. Я ўбачу вас і сяду.

Пачакаўшы, пакуль машына знікне з вачэй, я пайшоў на стаянку таксі.

— У Старую Гавану,— загадаў я шафёру, які драмаў у кабіне.

Але паехаў я не да Алісіі. Ноч правёў у нейкім занядбалым заезным доме.

## 6. УЛАДАЛЬНІК РУЛЕТКІ

А восьмай гадзіне раніцы я пакінуў убогую гасцініцу і на вуліцы Эмпедрада купіў у кіёску газету «Эль Паіс». Падставіўшы свае чаравікі пад шчотку вулічнага чысцільшчыка, сядзеў на зэдліку і чытаў навіны. За некалькі метраў ад мяне ўзвышаўся будынак паліцэйскай управы. Міма прайшоў жандар. Ён кінуў у мой бок безуважны позірк, я падміргнуў яму ў знак прывітання, і ён адказаў мне тым жа.

Забойства Сусаны па-ранейшаму займала цэнтральнае месца на першай паласе, але майго партрэта ўжо не было. Акрамя інфармацыі аб маіх драматычных уцёках з кабарэ, ненажэрная зграя паліцэйскіх рэпарцёраў нічым больш з рук паліцыі не пажывілася. Не хацелася дачытваць да канца, і я пачаў ужо згортваць газету (хто лепш за мяне ведае ўсе падрабязнасці таго, што адбылося?), як раптам убачыў імя Алісіі. Яе арыштавалі за тое, што яна нібыта зламысна перашкодзіла дзеянням паліцыі.

— Яшчэ гэтага не хапала! — вырвалася ў мяне.

Паснедаўшы ў кафэ, вырашыў пазваніць багачу Верцьентэсу, але ніхто на званкі не адказваў. Гадзіннік паказваў дзевяць, я ўспомніў пра Макей-

ру і наняў таксі. Седзячы на лаўцы ў парку Масео, паглыбіўся ў сузіранне мора. Шырокае спакойнае люстра вады гублялася за гарызонтам. Па набярэжнай павolі праехаў Макейра. Праз некалькі кварталаў ён павярнуў назад. Ніводнай падазронай машыны за ім я не заўважыў. Перайшоўшы шырокі праспект, я ўсеўся на каменны парапет. Адтуль адкрываўся цудоўны від... У бухце ўздымаліся карпусы караблёў, а велічны спакой воднай роўнядзі навяваў жаданне аддацца роздуму. Але раптам каля мяне затармазіў Макейра.

— Божа! — выгукнуў ён.— І вас ніхто яшчэ не пазнаў?

— Наперад, Макейра! — сказаў я, ускокваючы ў машыну.

Макейра быў здольны вучань. Збочыўшы на першую ж вуліцу, ён праз некалькі кварталаў павярнуў на другую і на Канкордзіі спыніў машыну за франтонам. Хітравата ўсміхаючыся, павярнуўся да мяне:

— Мяркую, вы сюды хацелі? Да каго цяпер? Можа, да Верцьентэса? Адзін ён застаўся.

Я спыніў на ім доўгі позірк. Макейра быў чалавек сярэдніх гадоў, жылісты і крэпкі. Твар гладкі, старанна паголены. Мімаволі мяне зацікавілі галоўным чынам яго вочы: дзве пацеркі, у якіх раптам успалыхвалі бліскавіцы.

Хутка мы апынуліся ў кітайскім квартале.

Кітайскі квартал — брудная пляма ў самым сэрцы тагачаснай Гаваны — уціснуўся ў трохкутнік, утвораны вуліцамі Санха і Драгонес, якія сыходзіліся ў яго вяршыні, і вуліцай Гальяна, што ляжала ў яго аснове. Удзень па тратуарах няспешна паходжвалі кітайцы ў шырачэзных халатах. Кубінцаў у гэтую пару сутак амаль зусім не было відаць, хіба толькі за вокнамі аўтобусаў, што падвозілі пасажыраў да гандлёвага цэнтра. Але пад вечар вуліцы квар-

тала пачыналі ажыўляцца, толькі цяпер ужо — парадокс! — усё радзей можна было ўбачыць людзей з жоўтай скурай, быццам яны скрозь зямлю праваліліся. Замест іх разнашэрсны натоўп затапляў тратуары і навадняў шматлікія залы з іграпьнымі аўтаматамі. А яшчэ пазней, бліжэй да ночы, прастытуткі адхіналі фіранкі, што хавалі іх твары за форткамі, дзе ім было спакайней, чым на вуліцах, і дзе не так страшны закон аб забароне іхняй прафесіі. Калі пачынала займацца на золак, ліхаманкавая дзейнасць квартала дасягала свайго апагею. Ачмурэлыя гульцы, якія ўпарта дамагаліся, каб аўтаматы выверглі са свайго чэрава нікеліевую манетку, хай нават і фальшывую, сынкі багацеяў, што прагнулі лёгкага кахання, зводнікі, амерыканскія маракі — аматары прыгод і танных уцех, чакалі сваёй чаргі дзе-небудзь на рагу ці ў бліжэйшай більярднай. Мала-памалу шум і гам у квартале заціхаў, і раніцой ужо зноў на тратуарах няспешна расхаджвалі кітайцы ў сваіх доўгіх шырачэзных халатах.

Тут вось і трымаў Верцьентэс свой ігральны дом — рулетку. Мы чакалі яго паўгадзіны — ведалі, што ён у будынку: Макейра пазнаў яго чорны «кадзілак», які стаяў ля пад'езда. Нарэшце Верцьентэс выйшаў у акружэнні некалькіх асоб. Шафёр у поўнай уніформе, што чакаў на тратуары насупраць, паспяшаўся да машыны і адчыніў перад ім дзверцы. Людзі развіталіся з Верцьентэсам і разышліся ў розныя бакі. Ён сеў у «кадзілак», а я вылез з «шаўрале». У той момант, калі шафёр націснуў на старцёр, я ўжо сядзеў побач з Верцьентэсам. Адчуўшы на рэбрах дула майго люгера, ён шумна ўцягнуў у сябе паветра. Шафёр павярнуў да яго здзіўлены твар.

— Загадайце яму ехаць,— прашаптаў я, мацней націскаючы пісталетам.

Трывога ў вачах у Верцьентэса крыху ўляглася.

Ён зрабіў знак шафёру, і машына рушыла з месца. Я хуценька абмацаў Верцьентэса.

— Ніколі зброі пры сабе не нашу,— сказаў ён.— На дапамогу клікаць не збіраюся.

— Думаю, няма патрэбы рэкамендавацца,— сказаў я.

Ён згодна кіўнуў галавой і адказаў:

— Я сачу за падзеямі, і памяць у мяне добрая.

Нас спыніў семафор. На рагу стаяў паліцэйскі. Шафёр пачаў націскаць на клаксон, і я адхінуўся ад акенца.

— Скажыце яму, каб кінуў жарцікі, а не, дык атрымае кулю,— прашаптаў я.

Верцьентэс даў знак, і клаксон сціх. Нарэшце зноў паехалі. Я ўсеўся ямчэй і глянуў ва ўпор на Верцьентэса.

— Ваша памяць спрыяе маім намерам, сеньёр Верцьентэс,— сказаў я, прадаўжаючы гутарку.

Пад яго тонкімі вусікамі з'явілася ўсмешка. Ён сунуў руку ва ўнутраную кішэню пінжака, але, адчуўшы моцны націск люгера, на момант замёр. Потым вельмі павольна выняў пашпарт, разгарнуў яго і паказаў мне.

— Зірніце на дату,— коратка прамовіў ён.

Я закусіў губу, каб не вылаяцца: Верцьентэс вярнуўся на Кубу з Мексікі на другі дзень пасля забойства Сусаны.

— Спадзяюся, цяпер вам усё ясна? — з'едліва сказаў ён.— Як вы самі бачыце, я не мог забіць Сусану.

— Але вы маглі арганізаваць забойства,— запярэчыў я.

Ён шырока ўхмыльнуўся:

— Вядома, мог бы, але гэтага не рабіў. За што мне было яе забіваць? Прыгожая жанчына, пяшчот-

ная... гарачая,— цынічна дадаў ён.— Ніяк не магу зразумець, навошта яе забілі.

— Магчыма, вось гэта вам дапаможа? — я паказаў яму ягонае пісьмо.

— Пісулька гэтая? — зняважліва прабурчаў Верцьентэс.— У вас толькі адна? Я пасылаў ёй некалькі. Цяпер мне зразумела,— ён ямчэй усеўся на сядзенні,— гэта пісьмо навяло вас на думку, што Сусана мяне шантажыравала і я арганізаваў забойства.

У гэты момант нас зноў затрымала чырвонае святло светлафора, і я схаваўся за спінку пярэдняга сядзення. Потым сказаў:

— Яна шантажыравала іншых, чаму не магла і вас?

— Шантажыравала? Што ж, зусім магчыма,— нібы сам сабе сказаў ён.— Сусана была на гэта здольная. Але са мной так не рабіла,— у яго голасе прагучала сумненне.— Не ведаю чаму.— Верцьентэс скоса зірнуў на мяне, паміргаў і запытаўся: — Гэтая паперка прадаецца?

— Я думаў, яна вас зусім не цікавіць,— адказаў я, хаваючы пісьмо ў кішэню.— Не, у гэты момант не прадаецца. Можа, калі пазней.

Я паглядзеў наперад і ўбачыў, што мы едзем па заценепай дрэвамі Авенідзе Прэзідэнтаў.

— Загадайце спыніцца,— папрасіў я.

Верцьентэс крануў шафёра за плячо, але той прыкінуўся, што не пачуў дотыку.

— Спыніся, Альберта,— загадаў Верцьентэс.

— За намі сочаць,— адказаў шафёр.

Верцьентэс імкліва павярнуўся і глянуў у задняе акенца. Я таксама паглядзеў назад — і ўсміхнуўся: за намі ехаў, як я і загадаў яму, Макейра. Верцьентэс дапытліва зірнуў на мяне. Увесь яго штучны спакой знік, і ў вачах бліснуў палахлівы агеньчык.

— Хто гэта? Вы яго ведаеце? — спытаў ён.

— Высадзіце мяне тут,— загадаў я шафёру, не адказаўшы на пытанне Верцьентэса.

— Ну што? — пацікавіўся Макейра, калі я залез у машыну.

— Не надта добра,— адказаў я.— У тую нядзелю Верцьентэса на Кубе не было.

— Выходзіць... ізноў-такі вы...

— Бадай што, так,— прашаптаў я, не прызнаючыся цалкам у сваім поўным правале.— Давайце лепш падсілкуемся дзе-небудзь. Кіруйце ў зручнае месца.

— Можа, папалуднаваць па-крэольску на ўскраіне Гаваны?

— Дзе хочаце, абы нам не дакучалі.

— Тады ў «Аазіс»,— сказаў Макейра.

За тую гадзіну, што мы сядзелі за столікам, мы з Макейрам шмат аб чым пагаварылі. Ён свабодна пускаўся ў разважанні на розныя тэмы, але ў яго ведах я заўважыў шматлікія прагалы. Тое, што ён многае, хоць і ўрыўкамі, ведае, Макейра растлумачыў характарам сваёй прафесіі і прагнай цікаўнасцю. Магчыма, менавіта гэтая цікаўнасць і падахвоціла яго сказаць:

— Я амаль веру, што не вы забілі Сусану. Тады што ж вы, чорт вас вазьмі, рабілі той ноччу ў яе доме?

— Службовая тайна, Макейра!

Яго румяныя скулы ўспухлі ў шырокай усмешцы.

— Вам цаны няма, Арэс! — усклікнуў ён.— Вы ўмееце трымаць язык за зубамі!

## 7. НЕПРЫЕМНАСЦІ ПАКЛОННІКА СУСАНЫ

Пакуль Макейра чакаў мяне ў машыне, я апусціў у шчыліну аўтамата манетку і набраў дамашні нумар Рамераля. Адказала служанка:

— Сеньёра Рамераля няма дома. Магчыма, яго можна яшчэ заспець у магазіне.

— У якім?

— У «Арагонцу», што на вуліцы Крысціны.

Калі мы пад'ехалі да «Арагонца», я атрымаў яшчэ адну магчымасць належным чынам ацаніць прадмет кахання Сусаны. Прадуктовы магазін Рамераля цягнуўся ад рога да рога, цэлы квартал, і іспанскіх тавараў, якіх не было там, вы ўжо не знайшлі б нідзе ў Гаване.

Злева ад уваходу размяшчалася прасторнае службовае памяшканне, адгароджанае ад калідора, што губляўся ў глыбіні будынка, драўляным бар'ерам. За бар'ерам перад пішучымі і лічыльнымі машынкамі сядзелі службоўцы пад пільным вокам гаспадара, які ўзвышаўся над імі ў «мансардзе» са шкляной сценкай.

— Сеньёр Рамераль чакае вас наверсе, сеньёр,— сказаў мне хлопчык, якога я паслаў паведаміць пра мяне.— Падніміцеся па гэтай лесвіцы,— паказаў ён мне рукою на прыступкі, што вялі ў кандыцыяніраваны кабінет гаспадара.

Рамераль быў змярцвела бледны, але непараўнальна больш гасцінны, чым у першую сустрэчу. Запрасіў сесці, і я жэстам падзякаваў яму за далікатнасць. Усеўшыся ў крэсле, я, не чырванеючы, схлусіў:

— Дык вось, сеньёр Рамераль, адбіткі на цыгарэтным пачку супадаюць з адбіткамі на бакале, што стаяў на туалетным століку Сусаны. Што на гэта скажаце?

Рамераль схапіў аловак і пачаў нервова чыркаць ім па паперы. Потым узняў вочы і, пакусваючы губы, утаропіў на мяне позірк загнанага звера.

— Правільна,— нарэшце прагаварыў ён хмура.— Я правёў той вечар у Сусаны. Але Сусаны не забіваў!

Я пільна ўзіраўся ў яго твар. Так, Рамераль кажа праўду... альбо па-майстэрску хлусіць.

— А якой гадзіне вы пайшлі ад яе?

— Недзе а шостай.

— Яна казала вам, што чакае яшчэ каго-небудзь?.. Ці, можа, вы самі здагадаліся?

— Не, нічога такога...— адказаў ён, абхапіўшы пальцамі сваю бародку.— Не так проста здагадацца, што ў яе ў думках. Сусана ўмела добра хаваць свае намеры.

— Хто заставаўся ў доме, калі вы пайшлі?

— Яна і яе пакаёўка... больш нікога.

— Як імя служанкі?

— Каіта.

Я прыгадаў тое, што пісалася ў газетах, і ўважліва паглядзеў у яго блакітнаватыя вочы.

— Вы становіцеся на слізкі шлях, сеньёр Рамераль,— сказаў я.— Згодна з паведамленнем паліцэйскіх улад, пакаёўка сцвярджае, што да самага яе адыходу гаспадыня нікога не прымала.

Рамераль абвёў трывожным позіркам свой цесны, застаўлены мэбляй кабінет.

— Яна мяне шантажыруе,— нарэшце вымавіў ён.

— Хто? Служанка?

Рамераль моўчкі кіўнуў галавой.

— Вось шэльма! — усклікнуў я.— Зрэшты, які пан, такая і чэлядзь.

— Пісьмо, якое вы мне паказалі...— пачаў Рамераль, але раптоўна асекся і ўскочыў з крэсла, збянтэжана пазіраючы паверх маёй галавы. Я хуценька

азірнуўся, хаваючы сваю трывогу пад усмешкай. Па лесвіцы да нас падымаліся двое паліцэйскіх.

Трэба было дзейнічаць хутка. Імгненна ўзважыўшы свае шанцы, я прыняў адзіна правільнае ў тых абставінах рашэнне — разбіць шкляную сценку «мансарды» з таго боку, што выходзіў на склад, і ратавацца ўцёкамі.

Шкло было не вельмі тоўстае, і я мякка прызямліўся на мяхі са збажынай. З усіх бакоў заверашчалі свісткі паліцэйскіх — здалося, у зарослым пустазеллем полі стракочуць цвыркуны. Па мяхах я кінуўся да галоўнага праходу і зірнуў у абодва канцы. Выхад закрывала патрульная машына; побач стаяў грузавы фургон, у які рабочыя грузілі харчовыя прадукты. А ад уваходу да мяне беглі тыя двое паліцэйскіх, ад якіх я толькі што ўцёк. Я зноў пабег па мяхах і, калі яны скончыліся, скокнуў на драўляныя скрыні з нейкімі бутэлькамі. Па скрынях дабраўся яшчэ да аднаго праходу, толькі вузейшага за галоўны, і на момант спыніўся, каб перавесці дух. Паветра было густа насычана вострымі пахамі, але я ўсё ж крыху аддыхаўся. Прайшоўшы па праходзе, пачаў прабірацца ўздоўж стэлажоў, на якіх ляжалі сыры, і ўпёрся ў глухую сцяну. «Трапіў у пастку!» — мільганула ў галаве, і я азірнуўся навокал. Пад самай столлю ўбачыў дахавае акенца і па паліцах стэлажа палез угору. Ручкай люгера разбіў шкло, і на мяне дыхнула свежым паветрам. Прагна ўцягнуў яго ў лёгкія і вылез на дах. З вуснаў сарвалася лаянка — я сам сябе загнаў у тупік! Раптам шум матора вывеў мяне з замяшання. Я пабег у той бок, дзе, на маю думку, грузілася машына, і ўбачыў, што аўтафургон паволі ад'язджае ад патрульнай машыны. Гэта быў мой адзіны шанц, і, стаіўшы дыханне, я скочыў уніз. Калі фургон завярнуў за рог, я ўсміхнуўся: паліцэйская машына пачала разварочвацца, закры-

ваючы брэш, якую пакінуў грузавік. На вуліцы Амоа фургон запаволіў ход, і я саскочыў з яго, прайшоў па вуліцы Фернандзіна, перасек Монтэ і ўвайшоў у нейкую піўнушку. Тут я ўспомніў пра Макейру, які чакаў мяне ў машыне, але ўжо было позна...

— Вырваліся ад зграі ваўкоў?

Я падняў галаву і ўбачыў перад сабой бармена, які з ухмылачкай пазіраў на маё пашкуматанае адзенне.

— Не,— адказаў я.— Трапіў у аўтамабільную катастрофу, але, на шчасце, абышоўся лёгкімі драпінамі.

— Недзе тут, паблізу? Дзіўна, я нічога не чуў!

— На развілцы Куатра-Камінас,— адказаў я.— Прынясіце піва.

Калі ён пайшоў, я закурыў цыгарэту і задумаўся. Бармен паставіў на столік куфаль піва і зноў утаропіўся на мяне.

— Я з вёскі,— пачаў я тлумачыць.— Мне патрэбны новыя штаны і кашуля.

— Я так і падумаў,— адазваўся бармен. У яго быў агідны зласлівы твар, такі ж завэнджаны, як і яго піўнушка.— Хвіліначку,— сказаў ён, вышчарыўшы свае жоўтыя зубы, і гукнуў: — Марсела! Марсела!

З задняга памяшкання баязліва высунуўся хлопчык.

— Слухаю вас, сеньёр Рывас. Што загадаеце, сеньёр Рывас?

— Хутчэй на паваротах, шэльма! Сеньёр хоча даць табе даручэнне.

Я дастаў з кішэні блакнот, вырваў лісток і накрэмзаў на ім размеры штаноў і кашулі; потым раскрыў бумажнік і выняў паперку на дваццаць песа. Пры выглядзе майго саліднага партманета ў вачах у

Рываса загарэўся прагны агеньчык. Я даў Марсела запіску і грошы, і хлопчык стрымгалоў панёсся па вуліцы.

Не дачакаўшыся майго запрашэння, Рывас адсунуў ад століка крэсла і сеў. І адразу наваліўся на мяне з пытаннямі:

— Дык вы кажаце, была аўтамабільная катастрофа, сеньёр... сеньёр...

— Альфара,— прамармытаў я паміж двума глыткамі піва.

— Дзе ж вы пакінулі сваю машыну, сеньёр Альфара?

— Давялося адбуксіраваць яе да Крысціны,— адказаў я.— Пазней пазваню ў майстэрню, каб яе ўзялі і адрамантавалі.

— Ага, так, так!..— вочкі Рываса аж заскакалі ў арбітах, як у вясёлым танцы.— Кажаце, з вёскі прыехалі? Вядома, з вёскі. У горадзе такі моцны транспартны рух, га? Трэба быць вельмі асцярожным.

Ён усё гаварыў і гаварыў не змаўкаючы, і яму было напляваць, слухаю я яго ці не.

— А паліцыя? Няўжо на Куарта-Камінас не было паліцэйскіх? Іх там заўсёды процьма. Але што карысці ад іх? — пачаў скардзіцца Рывас.— Калі тут у нас заварваецца каша, дык абодвух вядуць ва ўчастак, а калі цябе самога б'юць, дык цябе — ва ўчастак, а яго — на ўсе чатыры бакі. Паліцэйскія!.. Хэ!.. Ніколі не мог даўмецца, нашто яны. У вас не было непрыемнасцей з паліцыяй? Акта яны не склалі?

Ён мяне амаль зусім задушыў. З усіх пораў гэтага агіднага, брыдкага чалавека ішоў смурод. Гаворачы, ён заграбаў рукамі, як вёсламі на лодцы ў бурлівым моры.

— Дык, значыцца, вось як... сеньёр Альфара...

Я апошні раз зацягнуўся дымам цыгарэты і кінуў яе ў попельніцу.

— Прыміце рукі ад майго твару,— агрызнуўся я.

Рывас угодліва ўсміхнуўся, зноў аскаліўшы свае брудныя зубы.

У гэты момант вярнуўся з пакупкай Марсела.

— А, Марсела! Нарэшце! А то сеньёру...— Рывас паглядзеў на мяне,— сеньёру Альфара пачала ўжо дакучаць мая кампанія.

Я ўзяў у хлопчыка пакунак і даў яму песа.

— Дзе ў вас тут можна пераапрануцца? — запытаўся я ў Рываса.

Колькі секунд ён задумліва маўчаў, потым накінуўся на маленькага слугу:

— Чаго ты тут чакаеш, шэльма? Марш адсюль!

Марсела спалохана выбег у дзверы. Відаць, вельмі баяўся гаспадара, і не без прычыны — Рывас быў чалавек небяспечны.

Ён глянуў на мяне так, быццам толькі цяпер да яго дайшоў сэнс майго пытання.

— Вы... ах так, вам трэба пераапрануцца...— Агеньчык у яго ў вачах пагас — задума, што нарадзілася ў яго галаве, зусім ужо выспела.— Ідзіце са мной.

Я пайшоў за ім.

— Вось тут,— сказаў Рывас.

Я ўвайшоў у пакой — гэтакі ж смярдзючы, як і сам Рывас, і ўся яго гаспадарка. Хацеў замкнуць дзверы, але задаволіўся тым, што прысунуў да іх крэсла. Выняў з кішэнь свой люгер, дакументы і бумажнік і паклаў на столік. Толькі я распрануўся, як пад націскам Рываса расчыніліся дзверы і ён уваліўся ў пакой. Я рвануўся да люгера, але Рывас папярэдзіў мяне, пагражаючы дулам свайго маленькага пісталета:

— На вашым месцы я б гэтага не рабіў, Арэс. Вы ж Арэс? — Вочы яго загарэліся насмешкай.— Я добра памятаю твар, надрукаваны ў газеце.

Я пацісвуў плячыма і працягваў апранацца. Рывас падышоў да століка і зграб з яго мой партманет.

— Мяне заўсёды праследуюць людзі з добрай памяццю, і гэта маё няшчасце,— паскардзіўся я.

— Мяне вы ні на момант не падманулі,— прызнаўся Рывас.— Як толькі вы пераступілі парог, я адразу пазнаў вас.

— Цудоўна, сеньёр фізіянаміст,— адказаў я жартаўліва.— І які ваш наступны крок?

Рывас абыякава махнуў рукой.

— Мяне цікавіць толькі вось гэта,— патрос ён сваёй здабычай.

— Ну і бярыце яго.

— Я і не думаў прасіць у вас дазволу, Арэс,— адказаў Рывас.— Але я рады, што вы такі шчодры.

Я нахіліўся і звязаў у клунак сваю падраную вопратку.

— А што вы збіраецеся з ім рабіць? — спытаў я, паказваючы на свой бумажнік.

— Я вазьму толькі грошы,— адказаў Рывас і перавёў позірк з мяне на бумажнік.

У гэты момант я шпурнуў у яго клункам са старой вопраткай і кінуўся на Рываса. У маленькім пакойчыку злавесна грымнуў стрэл. Я закруціў Рывасу запясце, і з яго пальцаў выпаў пісталет. Тады я ўдарыў яго ў жывот, і ён скурчыўся ад болю і пачаў ванітаваць.

Я ўзяў усе свае рэчы і паклаў у кішэні.

— Усё ж такі трэба заплаціць яму за паслугі,— сказаў я сабе і кінуў на брудную прасціну на ложку паперку на дзесяць песа.

У дзвярах я сутыкнуўся з Марсела — хлопчык быў вельмі перапуджаны.

— Ён твой тата? — запытаўся я.

Хлопчык адмоўна паматаў галавой.

— Тады спяшайся! Вось табе дваццаць песа —

пайдзі пашукай сабе іншае месца. Гэтае не для цябе.

Марсела ўдзячна паглядзеў на мяне і пайшоў у задняе памяшканне.

Я выйшаў на вуліцу. Ужо змяркалася.

## 8. АНТЫКВАР

Кітайскі шынок на вуліцы Монтэ, куды я зайшоў паабедаць, быў не першага разраду. Сёрбаючы нейкую агідную на смак мешаніну, якую тут называлі супам, я праглядаў газету — купіў па дарозе ў кіёску. Адно паведамленне мяне ўзрадавала: Алісію адпусцілі... Але ад таго, што я прачытаў далей, мяне раптам хапіў жывот. Загаловак гаварыў: «ЗАБОЙЦА СУСАНЫ ХАЦЕЎ ЗБЫЦЬ З РУК КАШТОЎНАСЦІ». І ніжэй:

«Сёння раніцай нейкая асоба намервалася прадаць каштоўнасці, выкрадзеныя з дому с-ры Сусаны Дзіас дэ Аройя, гандляру старажытнасцямі с-ру Вільфрэда Батлеру. С-р Батлер адмовіўся купіць рэчы невядомага яму паходжання і паведаміў паліцыі вонкавыя прыкметы гэтай асобы, якія адпавядаюць абліччу вядомага авантурыста Хуглара Арэса, западозранага ў забойстве с-ры Сусаны».

Далей была нагароджана цэлая куча бязглуздзіцы, і я не мог стрымаць смеху. Але маё становішча рабілася ўсё больш сур'ёзным. Кола змовы супраць мяне звужалася. Я згарнуў газету і пусціўся ў здагадкі, чаму гэты Батлер наўмысна лгаў паліцыі. Якія б ні былі яго матывы, Батлер сёння ж убачыць мяне. Я разгарнуў тэлефонны даведнік на раздзеле «Гандлёвыя ўстановы» і сярод магазінаў, якія гандлююць старадаўнімі рэдкасцямі, адшукаў магазін Батлера. Ён знаходзіўся на вуліцы Сан-Нікалас, ля самага кітайскага квартала.

Каля дзесяці гадзін вечара я апынуўся насупраць

магазіна Батлера. На рагу спыніўся і крадком агледзеўся навокал. У гэтым раёне было шмат гандлёвых установ. Некалькі разоў я прайшоўся туды і назад па тратуары. Натоўп, што звычайна віраваў у кітайскім квартале, не дасягнуў яшчэ сваёй найбольшай гушчыні, але ажыўленне з кожнай хвілінай нарастала, і можна было ўявіць сабе, што́ тут будзе рабіцца на мяжы дня і ночы.

У туалеце нейкага бара я праверыў зарад свайго люгера і перасек вуліцу. Націснуў на кнопку званка. Дзверы адчыніліся, і перада мной з'явіўся кітайчык.

— Што вам тлеба? — спытаў ён, але адразу ажывіўся і дадаў (відаць, мяне тут чакалі): — Уваходзьце, сеньёль Алес.

Я ўсміхнуўся — аказваецца, я карыстаўся больш шырокай славай, чым думаў!

— Дзякую, Цзыньлі,— адказаў я без кроплі іроніі.

— Я не Цзыньлі,— запярэчыў кітайчык.— Мяне зваць...

— Мне няважна, як цябе зваць,— перапыніў я яго.— Паведамі гаспадару, што я прыйшоў.

Нічога не адказаўшы, хлопчык знік у шырокім доўгім холе.

Гэта быў тыповы антыкварны магазін. Усё тут было рэдкае — скульптура, крышталь, кераміка, ювелірныя вырабы, і на ўсім ляжаў адбітак старадаўнасці, якая так хвалюе сэрцы калекцыянераў.

Неўзабаве з ветлівай усмешкай на твары вярнуўся Цзыньлі.

— Сеньёль Батлель плосіць вас,— сказаў ён і адбіў цырымонны паклон.

Я пайшоў услед за ім. Рухі яго былі хуткія і бязгучныя, як у кошкі. Мы спыніліся каля прачыненых дзвярэй, і з той жа цырымоннасцю Цзыньлі даў мне знак уваходзіць.

Я ўвайшоў, але перш схапіў яго за руку і, крутнуўшы да сябе, прыкрыўся ім, як шчытом, адначасова выхапіў люгер. Батлер сядзеў за вялікім сталом у куце кабінета. У руцэ яго таксама бліснуў пісталет.

— Прапаную нічыю, Батлер,— сказаў я, трымаючы яго на мушцы.

Усміхнуўшыся, Батлер кінуў пісталет на стол.

Я адштурхнуў кітайчыка, і ён упаў на падлогу.

— Я пайду,— сказаў Цзыньлі, паднімаючыся, і накіраваўся да дзвярэй.

— К чорту зброю, Арэс! — усклікнуў Батлер і, выцягнуўшы шуфлядку, ссунуў туды свой пісталет.

Я зачыніў за слугой дзверы і схаваў люгер.

У Батлеру мяне адразу ўразіла тое, што ў яго было беззаганае іспанскае вымаўленне. Я толькі хацеў задаць яму пытанне, як ён апярэдзіў:

— Вас можа здзівіць маё чыстае іспанскае вымаўленне, дык я скажу вам, што ад амерыканцаў у мяне засталося толькі прозвішча.

— Мяне не цікавіць ваша паходжанне,— перапыніў я яго,— хачу ведаць, чорт вазьмі, што азначае ваша лжывая заява ўладам!

Батлер адкінуўся ў крэсле і весела зарагатаў. Ён быў каржакаваты і моцна скроены, але з тонкімі рысамі твару і, відаць, цвёрда ведаў, да чаго імкнецца ў жыцці. Заўважыўшы, што я не падзяляю яго весялосці, ён перастаў смяяцца і выпрастаўся ў крэсле.

— Прашу прабачэння,— далікатна сказаў ён.— Я забыўся, што ў цяперашнім становішчы вам зусім не да смеху.

— Я чакаю тлумачэнняў, Батлер,— працадзіў я праз зубы.

— Так-так...— прагаварыў ён, не адрываючы ад мяне позірку.— Вас здзівіць тое, што я вам скажу, але...— ён памаўчаў, потым скорагаворкаю закончыў фразу,— я толькі хацеў зрабіць вам паслугу.

Я раззлавана заварушыўся ў крэсле — Батлер пачынаў мне дзейнічаць на нервы.

— Такіх паслуг мне не патрэбна,— зласліва прабурчаў я.

— Дазвольце растлумачыць, Арэс,— сяброўскім тонам сказаў Батлер.— Вы ведаеце, хто забіў Сусану?

— Каб я ведаў!..— прашаптаў я.— Што ж вы так доўга маўчалі?

— Я сапраўды ведаю, Арэс. Але як я мог вам паведаміць? Мы ж з вамі былі незнаёмыя.

— Чаму мне? Досыць таго, каб вы заявілі ў паліцыю.

— Ах, у паліцыю! — выгукнуў Батлер.— З паліцыяй я звязвацца не хачу, Арэс!

Гэта пачынала мяне цікавіць. Я нават павесялеў:

— Дзіўны вы чалавек, Батлер! Так і хочацца пачасаць аб вас кулакі.

— Вы зрабілі б найвялікшае глупства! Але ж вы не дурань...

— Не віляйце, Батлер! Хто забіў Сусану?

Твар Батлера зрабіўся сур'ёзны.

— Хачу, каб вы зразумелі, чаму я паведамляю не паліцыі, а вам. Дазвольце я пачну з самага пачатку... Уся гэтая завяруха ўсчалася з-за карціны Дэга. Вы што-небудзь чулі пра яе да таго, як ублыталіся ў гэту скандальную гісторыю?

Я адмоўна пакруціў галавой.

— Карціна незвычайнай прыгажосці, Арэс,— вочы Батлера зрабіліся вялікія.— І гэтае хараство належыць мне.— Ён памаўчаў, потым дастаў з кішэні вязку ключоў і выбраў адзін ключык.

Я закурыў цыгарэту.

Батлер адамкнуў шуфлядку стала, выняў з яе нейкі дакумент і працягнуў мне цераз стол:

— Зірніце вось!

Я ўзяў пругкую паперку. Гэта было пасведчанне, выдадзенае Батлеру ў Парыжы на права ўласнасці на карціну Эдгара Дэга «Балерына за кулісамі». Я вярнуў Батлеру дакумент, які на выгляд быў сапраўдны, і цярпліва чакаў тлумачэння.

— Як вы самі бачылі, карціна належыць мне,— гаварыў Батлер.— Я купіў яе ў час адной з маіх паездак у Францыю за вялікую суму.

— Якім жа чынам яна аказалася ва ўласнасці Сусаны?

Батлер збянтэжана апусціў галаву. Потым зірнуў на мяне. Цень сарамлівасці завалок яго вочы.

— Чалавек слабы, Арэс,— прашаптаў ён.

— Ага, вы абмянялі карціну на пяшчоты Сусаны,— рэзюміраваў я, усміхнуўшыся.

— Вы зразумелі б мяне, Арэс, каб ведалі Сусану... Вы ведалі яе? Ці хоць раз бачылі? Пры яе жыцці, вядома...

— Не, не даводзілася. Калі я першы і апошні раз яе бачыў, яна была мёртвая, як мумія.

— Убачыць яе — значыць загарэцца да яе каханнем і ў выніку — страціць розум.— Вочы Батлера заіскрыліся.— Так, Сусана была найрадчэйшай каштоўнацю, якою, адзін раз убачыўшы, хочацца авалодаць назаўсёды...

Раптам бляск у вачах у Батлера згас — пачуўся лёгкі стук у дзверы. Батлер змоўк, потым хацеў зноў загаварыць, але стук ледзь чутна паўтарыўся. Ён уздыхнуў, аднак на стук не адказаў — відаць, чакаў, што няпрошаны госць адмовіцца ад свайго намеру. І толькі калі трэці раз пачуўся ціхі стук, Батлер незадаволена скрывіўся, моцна засоп і буркнуў:

— Уваходзь!

Дзверы адчыніліся, і на парозе ўзнікла прыгожая кітайская статуэтка — толькі з жывой плоці.

— А-а!..— вырвалася ў мяне.— Вы, Батлер, бачу, добра хаваеце свой найкаштоўнейшы скарб!

— Даводзіцца,— рагатнуў Батлер.

Я ўважліва разглядаў кітаянку, калі яна падыходзіла да нас. На ёй была шаўковая сукенка яркіх колераў. Прыгожая фігурка была нібы вытачаная. У вялікіх вачах таілася хітрынка. Яна нешта сказала Батлеру па-кітайску, і ён адказаў ёй на той жа мове. Відаць, яго адказ не задаволіў яе, і мне здалося, што кітаянка некалькі разоў паўтарыла адно і тое слова. Батлер зрабіў нецярплівы жэст і працяў яе гнеўным позіркам. Потым супакоіўся і сказаў па-англійску:

— Добра, Люмэй. А зараз ідзі.

Люмэй выйшла з кабінета, пакінуўшы за сабой тонкі водар парфумы.

— Вернемся да майго расказу, Арэс,— сказаў Батлер дзелавым тонам.— На жаль, Сусана не належала да тых жанчын, якія шчыра аддаюцца каханню. Яна заўсёды патрабавала што-небудзь узамен: ад адных — каштоўных рэчаў, ад другіх — грошай. З мяне яна ўзяла карціну Дэга. Я змагаўся са сваім каханнем, стараўся не даць зацямніць свой розум і не аддаць Сусане «Балерыны за кулісамі», але дарэмна. Я ўжо не мог валодаць сабой і памяняў карціну на цудоўныя імгненні, якія Сусана зрабіла ласку падарыць мне...— Батлер змоўк і задумаўся, вочы яго затуманіліся смугой успамінаў.— Як жанчына Сусана хібаў не мела. Але ў скваппай душы яе не было месца нават для самага маленькага пачуцця ўдзячнасці. Ледзь толькі карціна апынулася ў яе і з маёй маўклівай згоды была вывешана ў яе гасцінай, Сусана стала ўсё радзей прымаць мяне і нарэшце зусім мне адмовіла.— Батлер зноў на момант задумаўся.— Убачыўшы, што Сусана здзекуецца з мяне, я вырашыў яе пакараць, ды так, каб параніць у самае ба-

лючае месца. Сусана не мела юрыдычнага права на карціну, і я намерыўся вярнуць яе сабе. Спачатку хацеў зрабіць гэта праз суд на той падставе, што я нібыта пазычыў ёй карціну, а не падараваў, але было шмат сведак, якія маглі пацвердзіць адваротнае... Сусана з яе высокімі сувязямі магла выйграць працэс і мець яшчэ адну магчымасць паздзекавацца з мяне. Тады мне прыйшла ў галаву недарэчная ідэя выкрасці карціну. Вядома, я нават наўме не трымаў рабіць гэта самому. Для гэтага няцяжка знайсці прафесіянала.— Батлер сумна зірнуў на мяне.— Я бачу, вы не ўхваляеце маёй задумы,— сказаў ён змрочна.— Я і сам асуджаў сябе! Асабліва калі гэты тып пайшоў адсюль у асабняк Сусаны.

— Скажыце ж нарэшце, Батлер, хто гэты чалавек і чаму я павінен верыць вам? — перапыніў я яго.

— Сілы нябесныя! — усклікнуў Батлер.— Няўжо ж я хлушу? Навошта мне хлусіць? Я ведаю, што гэта ён забіў Сусану, бо, акрамя яго, нікога там не было... хіба толькі вы...

Я так вышчарыўся, што ён, напэўна, убачыў усе мае зубы.

— Лягчэй на паваротах, Батлер! Не садзіцеся на бочку з порахам!

— Давайце зразумеем адзін аднаго, Арэс,— запярэчыў Батлер.— Я дапамагаю вам не ад дабраты душэўнай... і не таму, што вельмі люблю правасуддзе. А наконт спосабу, які я ўжыў, каб звярнуць вашу ўвагу на мяне і даць вам знаць, дзе мяне шукаць, дык, прызнацца, ён сапраўды не зусім звычайны, але затое дзейсны, а іншага сродку ў мяне не было. Мая мэта — заключыць з вамі пагадненне, таму што чалавек, якога я наняў, мне здрадзіў: прынёс некалькі бразготак і знік разам з карцінай.

— Вы ўпамянулі нейкае пагадненне. Якое?

— Я апішу вам гэтага чалавека, і вы яго пашу-

каеце. Калі знойдзеце, вы ўстрымаецеся ад далейшых крокаў, пакуль я не дамоўлюся з ім наконт карціны. Усё роўна без пасведчання на права ўласнасці ніхто не адважыцца купіць такую славутасць. Думаю, ён і сам ужо зразумеў.

— Тут адна нота фальшывіць, Батлер. Як ён растлумачыць на следстве ўвесь гэты фокус з карцінай?

У вачах у Батлера загарэўся хітры агеньчык.

— З турмы, Арэс, калі-небудзь выходзяць,— паясніў ён трыумфальна.— А пакуль сядзіш там, цябе падбадзёрвае ўсведамленне таго, што па той бок кратаў ляжаць тысячы песа, ад якіх жыццё зробіцца больш прыемным, радасным,— Батлер зрабіў красамоўны жэст.— Але хай вас гэта не турбуе, Арэс. Заўсёды знойдзецца спосаб угаварыць чалавека не ўсё расказваць. Я бяру гэта на сябе.

— Апішыце мне яго. Які ён з выгляду?

Батлер разваліўся ў крэсле і смачна пазяхнуў.

— Дык вы прымаеце маю прапанову? — сказаў ён.

Я кіўнуў галавой у знак згоды.

— Гэта чалавек высокага росту,— пачаў тлумачыць Батлер,— цёмна-русы, з тонкімі вусікамі. Заўсёды добра апрануты. Але ўсе гэтыя прыкметы наўрад ці вам памогуць. Каб лягчэй знайсці яго, шукайце ва ўсіх парках Старой Гаваны вандроўнага вулічнага фокусніка, які называе сябе Каліостра. Калі натрапіце на яго, спытайцеся пра Хуана Шасціпальца.— Батлер падняў указальны палец і закончыў: — Адно папярэджанне, Арэс: Каліостра — чалавек небяспечны... таксама і Шасціпалец.

Праз пяць хвілін я выйшаў з кабінета Батлера следам за Цзыньлі. Ён ішоў наперадзе кашачымі крокамі. Раптам у калідор з нейкага пакоя паспешліва выйшла Люмэй у прасторным шаўковым халаце і, сутыкнуўшыся са мной, папрасіла прабачэння.

Цзыньлі павярнуўся і працяў яе гнеўным позіркам. Кітаянка хуценька пабегла далей і знікла за нейкімі дзвярыма. Я зразумеў, што яна наляцела на мяне наўмысна.

Калі я выйшаў з антыкварнага магазіна, шум і ажыўленне кітайскага квартала дасягнулі свайго апагею.

## 9. У ЛОГАВЕ ШАСЦІПАЛЬЦА

Ледзь толькі за Цзыньлі зачыніліся дзверы, я засунуў руку ў кішэню кашулі і выцягнуў адтуль паперку, ад якой павеяла тонкім водарам парфумы Люмэй. Гэта была запіска, напісаная іерогліфамі ў слупок. Вядома, па-кітайску я не разумеў.

Зайшоўшы ў кітайскі бар, я сеў за стойку і папрасіў піва. Цягнучы з куфля, я старанна абдумваў усё, што пачуў ад антыквара. Гульня Батлера мне не падабалася.

Я паклаў на стойку песа і падняўся. Кітаец схапіў паперку, недаверліва ўтаропіўся на яе, і дзяжурная ўсмешка на яго твары расплылася яшчэ шырэй.

— Вялікае дзякуй, сеньёль,— прамармытаў ён, убачыўшы, што я накіраваўся да выхаду, не чакаючы рэшты.

Я рабіў усё гэта наўмысна, але, відаць, вельмі артыстычна. Раптоўна павярнуўся да кітайца:

— Прачытай мне вось гэтую паперку, добра?

Ён нахіліў галаву ў паклоне, узяў з маіх рук запіску:

— Добра, сеньёль.

Калі кітаец зірнуў на яе, мёртвая бледнасць сцерла з яго безбародага твару ўсмешку.

— Ну, пра што там гаворыцца?

— Ох, сеньёль! — выгукнуў кітаец, вылупіўшы ад жаху вочы.

Я падумаў, ці не з глузду ён з'ехаў, і загадаў:

— Кінь глупствы! Што там у ёй?

Кітаец схапіў аловак, нешта начыркаў на чыстай паперцы і перадаў мне. Ледзяная хваля пракацілася па маёй спіне, калі я прачытаў: «Беражыцеся, вас падпільноўвае смерць!»

Ужываючы ўсе меры засцярогі, як заўсёды ў крайніх выпадках, я адшукаў гасцініцу, дзе можна было б спакойна пераначаваць. Гасцініца толькі называлася так, а на самай справе гэта была начлежка, якую правільней было б ахрысціць стайняй. Зрэшты, вось ужо некалькі дзён я не ведаў, што такое камфорт.

Ноч я спаў дрэнна. Сніліся розныя кашмары. Прачнуўся позна. Пагаліўся, асвяжыўся пад душам і пайшоў у кафэ паснедаць. Купіў газету. Смерць Сусаны сышла ўжо з першай паласы. Ёй былі прысвечаны толькі два радкі — нічога новага. Я склаў газету і патэлефанаваў Алісіі. Званок, пэўна, падняў яе з пасцелі, бо на маё «Алё, малышка!» яна адказала вялым голасам:

— А, гэта ты... А ты ведаеш, калі мяне непакоіш?

— Годзе бурчаць! — адказаў я.— У цябе што, часта бываюць такія прыемныя пабудкі?

— Занадта многа пра сябе думаеш,— ажывілася Алісія.

— Як табе было ў каталажцы?

— Абыходзіліся са мной далікатна. Спярша ўсё цвярдзілі, што я дапамагла табе ўцячы, а потым папрасілі прабачэння — быццам усяму віною быў усеагульны пярэпалах. А як жа! — з'едліва засмяялася яна.— Але гэта ім не перашкодзіла паслаць за мной шпіка. А дома ўсё было перавернута дагары нагамі.

Я ўсміхнуўся. Калі паліцыя прыняла Алісію за прасцячку, дык яна груба памылілася, хаця, трэба

прызнаць, Алісія не ўмела прыкідвацца. Я паслаў ёй па провадзе пацалунак, і яна павесіла трубку. І тут я нешта западозрыў — патрымаў трубку ля вуха і ясна пачуў яшчэ адзін шчаўчок. Паліцыя падслухоўвала тэлефон Алісіі. Я павесіў трубку і выйшаў на вуліцу. Даў знак спыніцца першаму ж таксі. Праз мінуту сюды зляціцца паліцыя.

Некалькі секунд я сядзеў у машыне, глыбока задумаўшыся.

— Куды загадаеце ехаць, сеньёр?

Шафёр быў малады, але голас у яго быў басавіты, амаль такі, як у мяне. Якраз у гэты момант ён паглядзеў на мяне ў люстэрка. Калі пазнаў, дык выгляду не паказаў.

— Я з вёскі,— сказаў я.— Знаёмлюся з горадам. Хацеў бы сёння паглядзець Старую Гавану.

Стары прыёмчык! Таксіст паціснуў плячыма і накіраваў машыну ў самую старадаўнюю частку Гаваны.

За пару гадзін мы аб'ехалі ўсю Старую Гавану, але, як я і меркаваў, не сустрэлі ніводнага вандроўнага артыста, таму што звычайна яны выходзяць на вуліцы пад вечар.

У тыя часы Старая Гавана была раёнам шматлікіх кантрастаў. Дзіўная мешаніна старадаўняга і сучаснага, раскошы і галечы...

А другой гадзіне дня мы з вадзіцелем таксі пайшлі паабедаць. Ён гаварыў са мной так, быццам сапраўды лічыў мяне за дзівака. Але я ведаў, што ён пазнаў мяне. Калі я яму гэта сказаў, ён з усмешкай адказаў:

— Мне няма ніякай справы да таго, хто вы. Раз вы сказалі, што вы Хуан Сляпскі Сын, значыць, так і ёсць. Я ваджу таксі і з гэтага жыву. Кожны, хто мне плаціць, асоба для мяне прыстойная.

— Цудоўненькая філасофія! — прамармытаў я.

— Гаварыце што хочаце. Толькі я ведаю адно: два песа ды яшчэ два разам складаюць чатыры.— Ён падняў галаву ад талеркі і ўсміхнуўся: — Ведаеце што? Калі пачну выбіраць сабе кліентаў, я скончу тым, што памру з голаду.

Магчыма, ён меў рацыю...

Мы зноў пачалі курсіраваць па Старой Гаване. Каля шасці вечара наша машына ўжо трэці раз спынілася ля парку Хрыста. Да гэтага моманту шчасце нам не спрыяла, хоць мы і сустрэлі сям-там некалькі ілюзіяністаў. Без вялікага энтузіязму я выйшаў з машыны і падышоў да людзей, што стоўпіліся вакол статуі паэта Пласіда. У цэнтры кола, створанага натоўпам, стаялі два чалавекі — адзін высокі, другі нізенькі — у дзіўным убранні. На высокім быў доўгі шаўковы халат. Маленькі быў апрануты як індус, з усходнім цюрбанам на галаве. Ён зазываў публіку:

— Падыходзьце! Падыходзьце, сеньёры! Бліжэй, бліжэй! Цешцеся незвычайным відовішчам, якое можна ўбачыць толькі адзін раз у жыцці! Найвялікшы ўсходні маг Каліостра!

Ад гэтага імені ў мяне кроў прыліла да твару.

Натоўп вакол артыстаў яшчэ больш згусціўся. Я пачаў уважліва разглядаць Каліостру. Яму, відаць, было недзе за трыццаць пяць. Сам высокі, крыху паўнаваты, але тоўсты карак выдаваў, што пад халатам хаваецца мускулістае цела. Тэатральным жэстам ён падаў свайму напарніку знак змоўкнуць і пачаў паказваць старыя, як свет, фокусы, якія, трэба прызнацца, ад гэтага не сталі менш эфектныя. Спрыт і чысціня яго рухаў былі беззаганныя...

Пасля прадстаўлення я расплаціўся з таксістам і пайшоў следам за Каліострам.

...На вуліцы Тэхадыльё, калі пайшоў ужо добры дождж, Каліостра адамкнуў ключом дзверы нейкага дома і ўвайшоў. Хвіліны праз дзве, пад моцным ліў-

нем, я пачаў падбіраць адмычкі, і неўзабаве дзверы адчыніліся. Угору вяла лесвіца. Падняўшыся на першую пляцоўку, прыслухаўся. Потым узышоў на другую і пры слабым святле электрычнай лямпачкі ўбачыў калідор. На дыбачках пайшоў па ім. Нідзе не прасвечвала ніводная шчыліна. У канцы калідор паварочваў убок. За аднымі дзвярыма я пачуў галасы і пачаў услухоўвацца, але да мяне даносілася толькі невыразнае мармытанне. Пастаяў, падумаў. У нейкую з гэтых кватэр увайшоў Каліостра, але толькі адна падавала прыкметы жыцця. Я вырашыў рызыкнуць. Дастаў люгер, праверыў яго і выбіў дзверы.

Перада мной стаяў Каліостра. Як загнаны звер, ён панічна вылупіў на мяне вочы. Другі чалавек застаўся на выгляд спакойны.

Я загадаў абодвум пакласці рукі на стол, але Каліостра рынуўся на мяне, як раз'юшаны бык. Я адхіснуўся і моцна выцяў яго па карку ручкай пісталета. Ён грузна грымнуўся на падлогу. Яго прыяцель выкарыстаў момант і сунуў руку ў крыху выцягнутую шуфлядку стала. Ударам калена я прыпячатаў яго рэбрамі да вострага краю стала і ўдарыў па шчацэ плазам пісталета. Бліснуўшы на мяне ашклянелымі вачамі, ён злосна гыркнуў і выхапіў руку з шуфлядкі. На ніжняй фаланзе яго мезенца я ўбачыў адростак. Гэты чалавек і быў Шасціпалец.

Я абмацаў яго — зброі пры ім не было. Выняўшы пісталет з шуфлядкі, я сунуў яго сабе ў кішэню. Тады сеў за стол і знакам паказаў Шасціпальцу на крэсла. Выплёўваючы з рота кроў, ён ашалела мармытаў:

— Хто вы? Што за д'ябал?..

Ён злосна сціскаў кулакі, твар гарэў помстай. Відаць, Шасціпалец мяне не пазнаў. Пад дажджом я ўвесь прамок да ніткі і цяпер, пэўна, здаваўся яму выхадцам з таго свету.

— Я Арэс, прыпамінаеце? Дурань, які цягаў для вас каштаны з агню.

— Навошта я вам патрэбен? — спытаў Шасціпалец.— Я нічога такога вам не зрабіў.

— Аддайце «Балерыну», і пойдзем пагаворым у паліцыю.

— Не загаворвайце мне зубы, з гэтага нічога не выйдзе. Калі вы прыцісчеце мяне да сцяны, я ўтаплю вас. Штурхну ў балота, і вы задыхняцеся. Я ўсяго толькі злодзей, а вы — забойца.

— Спыніце камедыю, Шасціпалец! Так, ён знайшоў сабе добрага памочніка! Вы забілі гэтую жанчыну, прызнайцеся!

Шасціпалец зняважліва плюнуў:

— Мне напляваць на тое, што вы гаворыце. Я ведаю: забойца — вы. Сам вас бачыў.

— Што вы бачылі?

— Я... хацеў сказаць...— прамямліў ён,— што вы былі ў спальні забітай, калі я туды ўвайшоў.

У галаве маёй раптам мільганула думка: зусім магчыма, што Шасціпалец кажа праўду і Сусаны ён не забіваў. Я прабраўся ў яе дом а дзевятай — больш як праз гадзіну пасля забойства. Калі Шасціпалец забіў яе, што ж ён там рабіў цэлую гадзіну? Значыць, нехта іншы падстроіў мне пастку. Хто? Сенатар? Падуа? Рамераль?

Я задуменна пазіраў на Шасціпальца.

— Калі вы не забівалі Сусаны, навошта ўдарылі мяне па галаве? — спытаў я.

— Я думаў, што гэта вы забілі яе, і вырашыў зваліць на вас і аграбленне. Тады мне лягчэй было б прадаць карціну і каштоўнасці.

— Лухта! Як магла б паліцыя прызнаць мяне вінаватым у грабяжы, калі б не знайшла пры мне нарабаванага?

Шасціпалец здзекліва ўсміхнуўся:

— Таму я і размаляваў вашымі пальцамі сцены і пазваніў у паліцыю, калі вырашыў, што вы ўжо выбраліся адтуль. Удар, які я вам нанёс, быў не вельмі моцны,— цынічна дадаў ён.

У мяне з'явілася жаданне павіншаваць Шасціпальца. Калі гэты тып у такі момант змог прыдумаць падобную хітрасць, дык фантазія ў яго сапраўды неўтаймаваная.

З падлогі пачуўся стогн. Я зірнуў на Каліостру — ён перавярнуўся, але падняцца на ногі не меў сілы.

— Выдатна, Шасціпалец! — пахваліў я.— Вы ўсё бліскуча зрабілі. А зараз мая чарга — давайце сюды «Балерыну»!

Твар Шасціпальца перакрывіўся ад злосці. У роспачы ён пачаў кусаць сабе губы.

— Я прапаную вам здзелку, Арэс,— нарэшце сказаў ён.— Я аддам «Балерыну», а вы адпусціце мяне. Добра падумайце. Вы ж нічога не выйграеце, перадаўшы мяне паліцыі.

Я ўсміхнуўся. Запаліў цыгарэту і яшчэ раз глянуў на Каліостру. Ён зноў перамяніў позу — ляжаў ужо на спіне тварам угору.

— Дзе «Балерына»? — спытаўся я ў Шасціпальца.

— Я ведаў, што вы згодзіцеся, Арэс,— павесялеў Шасціпалец.— Мы з вамі — аднаго поля ягадкі.— Ён шчоўкнуў пальцамі і на момант скрывіўся ад болю.— Грошы! Вось што рухае свет.— Ён падняўся з крэсла, падышоў да паліцы на процілеглай сцяне і пачаў знімаць рэчы, што прыкрывалі верхні прасценак. Узяўшы вялікі вазон, непрыкметна ўзважыў яго ў руцэ.

— Гэта будзе вашым апошнім у жыцці глупствам, Шасціпалец,— папярэдзіў я.

Ён глянуў у мой бок і заліўся смехам. Потым пацягнуў да сябе дошку і перавярнуў. Ліпкай стужкай

да яе было прыклеена палатно карціны. Шасціпалец адчапіў яго і панёс да мяне. У вачах блішчэла захапленне.

— Зірніце на яе, Арэс! Толькі зірніце!

— Скруціце ў трубку,— загадаў я, глянуўшы на карціну.

— Будзьце з ёю асцярожныя, Арэс...

Шасціпалец чамусьці не вельмі хмурыўся, калі, скруціўшы карціну, перадаваў яе мне.

Я засунуў скрутак у кішэню пінжака і яшчэ раз глянуў на Каліостру, які нешта мармытаў, спрабуючы падняцца з падлогі. Я ўскочыў з крэсла, намерваючыся зноў прывесці яго ў належны стан, але ён раптам сам паваліўся на спіну, як непрытомны,— відаць, спробы падняцца абяссілілі яго.

Шасціпалец працяў яго знішчальным позіркам.

— Дубіна! — прашыпеў ён і перавёў на мяне вочы: — Між іншым, Арэс, скажыце, хто падказаў вам, што ён можа навесці вас на мой след?

— Хутка даведаецеся,— адказаў я.— Мы з вамі нанясём таму чалавеку візіт.

— І як гэта я раней не здагадаўся! — упікнуў сам сябе Шасціпалец.— Работка Батлера!

— Змоўкніце і ідзіце! Вы занадта балбатлівы, Шасціпалец.

Ён пацiснуў плячамі і накіраваўся да дзвярэй.

— Батлер круціць вам мазгі, як і мне, Арэс,— сказаў ён не паварочваючыся.— «Балерына» яму зусім не патрэбная. Ганяецца за Свяшчэннай урнай.

— Што? Якая...

Я не паспеў скончыць фразы. Рука Шасціпальца раптам імкліва выцягнулася наперад — да выключальніка, і памяшканне патанула ў цемры. Амаль у тое ж імгненне дзве рукі ўчапіліся, як крукі, за мае ногі. Я не ўтрымаў раўнавагі і, падаючы, спусціў курок. Грымнуў стрэл. Сноп святла на момант разарваў

цемру. Рукі Каліостры імгненна прабеглі па маім целе і, як абцугамі, сціснулі мне горла. Я пачаў задыхацца. Намацаў яго галаву і, размахнуўшыся люгерам, як малатком, ударыў праціўніка ў скроню. Пальцы яго расчапіліся, і ён чмякнуўся на падлогу.

Амаль задушаны, я прагна глытаў паветра. Потым падняўся на ногі і запаліў святло. Шасціпалец знік.

Я і не падумаў гнацца за ім. Прыставіў да дзвярэй цяжкае крэсла і, нахіліўшыся над Каліострам, паглядзеў на яго твар. Над левым вухам слаба сачыўся тоненькі струменьчык крыві. Скура была рассечана, але чэрап застаўся цэлы. Каліостра дыхаў ледзь чутна і спакойна, і я вырашыў, што ад гэтай раны ён не памрэ.

У галаве ўсё гучалі апошнія словы Шасціпальца, і я пачаў метадычна абшукваць памяшканне. Знайшоў шмат розных рэчаў і сярод іх — некалькі пачак цыгарэт з марыхуанай і крыху белага парашку, відаць, какаін альбо гераін. Але ніякай урны ці чаго-небудзь падобнага на яе нідзе не было.

## 10. РАСПРАВА

Знайшоўшы прытулак у невялічкай гасцініцы, я ўсю раніцу і частку дня правёў у глыбокім роздуме. Да апошняга моманту я быў больш-менш пераконаны, што ўсё падстроіў сенатар, але цяпер мне стала ясна, што я памыляўся... Хіба толькі, можа, ён з Батлерам увайшлі ў нейкую змову, сутнасць якой мне была невядомая.

Каля трох гадзін дня прынеслі маю прыведзеную да ладу вопратку. Я апрануўся і выйшаў на вуліцу. Загарнуў «Балерыну» ў газету і заказной бандэроллю адаслаў на адрас Алісіі. Тады набраў дамашні нумар сенатара і папрасіў да тэлефона сеньярыту Ра-

мірэс. Падышоў сам сенатар і сваім грымучым галасам запатрабаваў, каб я не вешаў трубкі.

— Ёсць неабходнасць пагаварыць,— сказаў ён.— Вы можаце прыйсці да мяне? Трэба абмеркаваць адно пытанне, вельмі важнае для нас абодвух.

Я ўсміхнуўся: сенатар рыхтуе мне пастку. Ён, відаць, адчуў мае сумненні і дадаў:

— Калі мой дом вам чамусьці здаецца небяспечным, скажыце, дзе можна мне вас убачыць.

— Не з мэтай атрымаць трэцяе пісьмо, ці не так, сенатар?

— Пра гэта таксама будзе гаворка,— адказаў ён,— але ў дадзены момант ёсць нешта важнейшае... Значна важнейшае.

— Для каго? — саркастычна пацікавіўся я.

— Справа сур'ёзная, Арэс, папярэджваю вас. Не проста жарцікі.

Я падумаў, што сенатар не хлусіць, і ўзважыў у думках усе выгады, якія я магу атрымаць ад такога спаткання. Было малаверагодна, што ён прадасць мяне паліцыі, ведаючы, што я хаваю пісьмо, якое можа выклікаць сямейны скандал.

— Добра, сенатар,— згадзіўся я.— Еду да вас.

— Чакаю, Арэс,— адказала трубка.

Сенатар жыў у прыгожым асабняку на Пятай Авенідзе, на ўзмор'і. Перш чым пакінуць таксі, на якім я прыехаў, я ўважліва агледзеўся навокал. Нічога падазронага не ўбачыў. Выйшаў з машыны і пайшоў, гатовы да любой нечаканасці. Націскаючы на кнопку званка параднага пад'езда, скоса азіраўся. Раптам убачыў чатырох тыпаў, якія набліжаліся да мяне па двое з двух бакоў. Пытацца пра іх намеры не было патрэбы. Я з усіх ног кінуўся назад да праспекта. Усе чацвёра пагналіся за мной, як зграя сабак за зайцам. Шлях да садовай брамкі быў імі перакрыты, і я памчаўся па газоне. Адзін малойчык да-

гнаў мяне. Я раптоўна спыніўся і моцна ўдарыў яго ў скіўіцу. Ён зваліўся на траву. Але я апынуўся ў пастцы — астатнія трое акружылі мяне. Перш чым страціць прытомнасць, я ў праёме брамкі ўбачыў задаволеную ўхмылку сенатара.

Апрытомнеў я сярод нейкай смярдзючай твані. Смурод быў страшэнны — я ляжаў у сцёкавай яме недзе далёка за горадам. Выплёўваючы з рота кроў, я прыўзняўся, праклінаючы ўсё на свеце. «Нехта заплаціць мне за гэта!» — мільганула помслівая думка.

Стрэлкі гадзінніка паказвалі без некалькіх мінут шэсць. Я агледзеў сябе і вылаяўся: вопраткаператварылася ў брыдкія анучы, і сам я быў увесь у брудзе і сіняках. Раптам у памяці ўсплыла кплівая ўсмешка сенетара Рамірэса, і я пачаў спалохана абмацваць кішэні. З вуснаў зноў сарвалася лаянка, я істэрычна зарагатаў, але адразу ж узяў сябе ў рукі. Так, гэтыя свінні не задаволіліся толькі пісьмамі, а сцягнулі яшчэ і мой бумажнік. Дробязі, што валялася ў кішэнях, не набралася і на адно песа. Нядрэнныя ў сенатара памочнікі! Я адчуў слабасць ва ўсім целе, зноў выплюнуў кроў, у галаве закружылася, і другі раз я страціў прытомнасць.

Калі расплюшчыў вочы, навокал была цемра. Насілу падняўся на ногі і выкараскаўся з клаакі. Па рэйках, што перасякалі масток над каналізацыйнай трубой, імкліва набліжаўся цягнік і неўзабаве з грукатам пранёсся над самай маёй галавой. Я вылез на паверхню і прагна ўцягнуў у лёгкія свежае начное паветра.

Далёкія зіхатлівыя агні Гаваны паказалі мне, куды кіравацца. Калі я апынуўся ля першых электрычных слупоў, гадзіннік паказваў ужо дзевяць.

Я ўзяў таксі і выйшаў з машыны за некалькі кварталаў ад доміка Макейры. Стараючыся трымацца ў цяні, я дайшоў да ўзгорка, які ўзвышаўся над

занядалым прадмесцем, дзе жыў былы шафёр Сусаны. Пастаяў колькі хвілін, прыхінуўшыся да дрэва, каб крыху адпачыць. Унізе ўбачыў Макейру — ён усхвалявана размаўляў з нейкім хлапчуком. Абодва энергічна жэстыкулявалі, і хоць слоў я не чуў, але зразумеў, што яны спрачаюцца. Нарэшце спрэчка пачала сціхаць, і Макейра выняў нешта з кішэні і перадаў хлапчуку. Той схаваў тую рэч у кішэню, павярнуўся і пайшоў да скрыжавання, а там завярнуў за рог і знік.

Макейра ўвайшоў у дом. Я спусціўся з узгорка. Калі Макейра ўбачыў у дзвярах маю пашкуматаную фігуру, ён аж падскочыў на сваім рыплівым крэсле, шырока разявіўшы рот.

— Божа мілы! — вырвалася ў яго.— Што з вамі здарылася?

— Малойчыкі сенатара вырашылі крыху пазабаўляцца,— адказаў я, па́даючы на крэсла.

Макейра прысвіснуў.

— Нядрэнна папрацавалі! — спачувальна прамармытаў ён.— Але вы не можаце адмаўляць, што нарадзіліся ў кашулі. Як гэта вам удалося тады ўцячы з магазіна Рамераля? Прызнацца, я ўжо думаў, што ў вас не было ніякіх шанцаў выратавацца.

— Я таксама,— згадзіўся я.— Але такі ўжо я чалавек — люблю замахвацца на немагчымае.

— Ведаю. Вы чалавек вынаходлівы.

Я падзякаваў яму за камплімент усмешкай.

— Ці не знойдзецца ў вас, Макейра, чым прывесці мяне ў норму?

— Безумоўна. Распараджайцеся тым нямногім, што ёсць у маім доме, як сваім уласным, Арэс.— Макейра павярнуўся і гучна паклікаў: — Анхела! Анхела!

У дзвярах спальні з'явілася яго жонка. За яе спадніцу чапляўся маленькі хлопчык.

— Што трэба? — злосна спытала яна.— Я ўжо табе казала, каб не смееў крычаць.— Тут гаспадыня заўважыла мяне і павіталася: — Добры вечар, сеньёр Арэс.

— Даруй мне, жонка,— папрасіў прабачэння Макейра.— Ты ж ведаеш: крычу па звычцы. Сеньёр Арэс хоча крыху прывесці сябе ў парадак. Пакажы, дзе памыцца, і дай што-небудзь паесці.

— Што-небудзь паесці? — перапытала яна з дакорам.— А што ў нас ёсць для сеньёра Арэса? Можа, рэшткі той поліўкі, што мы не даелі?

Макейра бліснуў на яе вачамі. Я адчуў сябе вінаватым перад гаспадыняй і збянтэжана папрасіў прабачэння. Калі яна выйшла, Макейра сказаў:

— Даруйце ёй. Анхела з апошніх сіл выбіваецца. Калі мы пажаніліся, яна была не такая, але жыццёвыя нягоды азлобілі яе.

— Мне няма каму і за што дараваць,— адказаў я.— Усе мы часцяком злуемся. Прычын хоць адбаўляй.

А палове адзінаццатай, калі мы з Макейрам выйшлі на вуліцу, я быў апрануты ў адзін з яго касцюмаў, які вісеў на мне, як на вешалцы.

— Куды едзем? — спытаў Макейра.

— Да сенатара, вядома.

— Да Рамірэса? Вы не лічыце, Арэс, што выпрабоўваеце лёс?

— Бадай што так,— пагадзіўся я.— Але я абяцаў яму.

Макейра запусціў матор і ўсю дарогу да рэзідэнцыі сенатара не вымавіў ні слова.

— Будзьце асцярожны, Арэс,— папярэдзіў ён мяне, калі мы прыехалі.— Вы чалавек парывісты.

Я ўсміхнуўся — якраз у гэты момант уявіў сабе міну, якую зробіць сенатар, калі яму далажаць, што я прыйшоў з візітам.

## 11. ПАКАЁЎКА СУСАНЫ

— Сенатар мяне чакае,— сказаў я служанцы, якая на мой званок адчыніла дзверы.

Праз пяць мінут у гасцінную ўвайшоў Рамірэс у хатнім халаце і пантофлях.

— Прашу прабачыць, сенатар, што спазніўся,— сказаў я.— Невялічкі няшчасны выпадак крыху затрымаў мяне ў дарозе.

Сенатар нахмурыўся.

— Вы пачынаеце мне дакучаць, Арэс, як назойлівая муха каню,— прабурчаў ён, і вокамгненна, як у цыркача, у руцэ ў яго з'явіўся маленькі пісталецік.— Ваша ўпартасць,— пагрозліва прамовіў ён, паднімаючы тэлефонную трубку,— прымусіць вас пераначаваць сёння ў турме.

Я кісла ўсміхнуўся.

— Званіце, званіце,— сказаў я.— Выклікáйце паліцыю. Вось будзе скандальчык! Хаця і сам я пайду к чорту, але так размалюю ўсе вашы брудныя справы, што вы навек забудзецеся, што былі сенатарам.

Рамірэс паклаў трубку на месца.

— Што ж вы, Арэс, прапануеце? — запытаў ён.

— Каб вы перасталі цэліцца ў мяне з гэтай забаўкі,— адказаў я і зрабіў энергічны выпад.

Пісталецік вылецеў з яго рукі і ўпаў на канапу. Ён хацеў падскочыць да яе і накрыць зброю целам, але я зрабіў яму падножку, і ён смешна распластаўся на дыване. Я схапіў пісталет і апусціў сабе ў кішэню.

— Вашы прыслужнікі забралі ў мяне люгер. Калі мне яго вернуць, я аддам ваш пісталет,— сказаў я і, памогшы сенатару падняцца з падлогі, піхнуў яго на канапу.— Вы мне вінны пяцьсот шэсцьдзесят пяць песа, якія былі ў маім партманеце, сенатар, і акрамя таго — з вас яшчэ пісьмы.

— Яны належаць мне,— злосна запярэчыў Рамірэс.— Вы не выканалі дамоўленасці, і я палічыў, што магу ўжыць іншыя сродкі, каб вярнуць сабе ўсе пісьмы. Я вас папярэджваў.

— Я дамаўляўся не з вамі, а з вашай дачкой. Дзе яна, між іншым?

— На вёсцы з маці. Але гэта ўжо не ваша справа,— дадаў ён, спрабуючы ўстаць з канапы.

— Правільна. Але пісьмы і грошы? Дзе яны?

— Пісьмы я спаліў,— здзекліва ашчэрыўся сенатар.

— Спалілі чужыя пісьмы? — спытаў я, схапіўшы яго за халат.

— Чаму чужыя? Што вы такое кажаце? Я вам за іх за ўсе заплаціў.

— Паслухайце, сенатар. Апрача вашага пісьма, пры мне былі іншыя. Іх у мяне забралі. Хіба вашы памочнікі не прынеслі іх вам, а таксама мой пісталет і грошы?

— Яны не мае памочнікі,— адказаў Рамірэс.— Людзей гэтых я не ведаю. Іх наняў чалавек, які мне многім абавязаны. Мне прынеслі толькі маё пісьмо.

Мяне аж скаланула — магло быць і так...

— Колькі грошай у вас было, Арэс?

— Пяцьсот шэсцьдзесят пяць песа,— прабурчаў я.

Сенатар пайшоў у спальню і праз некалькі секунд вярнуўся, трымаючы ў руцэ шэсць паперак па сто.

— Бярыце, Арэс. Ды ідзіце, вы мне страшэнна надакучылі,— ён павярнуўся да мяне спіной.

— Хвіліначку, сенатар. Толькі задам адно пытанне.

Рамірэс злосна крутнуўся да мяне:

— Калі вы ўжо нарэшце пакінеце мой дом, Арэс?

— Дзе вы былі паміж паловай восьмай і паловай дзевятай у той вечар, калі забілі Сусану?

— Вось яно што! — усклікнуў Рамірэс і рашуча накіраваўся да спальні.— Тады добрай ночы, Арэс! — сказаў і знік за дзвярыма.

Я пацiснуў плячыма, сам сабе ўсміхнуўся і пайшоў.

Наступнай раніцой, калі я пастукаў у кватэру, дзе жыла пакаёўка Сусаны, мне адчыніла раскудлачаная старая са злаславым тварам.

— Што вам трэба? — папыталася яна, пазяхаючы ў далонь.

Я далікатна адхіліў яе ўбок і рашуча ўвайшоў у пакой. Старая пачала нешта неразборліва мармытаць, але я загадаў ёй сціхнуць і паказаў рукой на крэсла. Яна была ледзь жывая ад страху.

— Чаму вы хлусілі паліцыі, бабуля?

Старая перарывіста задыхала.

— Вы памыляецеся,— пралепятала яна.

Я ўсміхнуўся:

— Ну добра, вы не хлусілі, а прапусцілі часцінку праўды. Хто быў апошні мужчына ў Сусаны ў той вечар?

Вусны старой сутаргава заварушыліся.

— Не разумею, пра што вы гаворыце.

Я насмешліва глянуў на яе.

— Шантаж, бабуля,— найгоршы занятак.

Старая ўжо крыху супакоілася і з пагардаю пазірала на мяне.

— Не разумею, пра што вы гаворыце,— упарта паўтарыла яна.

Мяне пачынала ўжо злосць браць. Гадамі яна была амаль як мая бабуля, і проста не верылася, што ў гэтай сівой галаве магла таіцца такая ўпартасць. Можа, перамяніць тон?

— Паслухайце, даражэнькая, я апынуўся ў вельмі цяжкім становішчы,— я роспачна развёў рукамі.— Мне неабходна ваша дапамога.

— Я не шантажыстка,— з абурэннем сказала старая.— Сеньёр Рамераль прыйшоў да мяне сюды на другі дзень пасля смерці сеньёры Сусаны і сказаў, што яго імя можа трапіць у газеты і што скандал можа пашкодзіць яго рэпутацыі. Умольна папрасіў мяне не гаварыць, што я тым вечарам бачыла яго ў Сусаны, і прапанаваў дзвесце песа. Што было рабіць? Грошы мне былі вельмі патрэбныя, і я іх узяла. Усё роўна ж багацеі, калі ўжо возьмуцца, дык свайго даб'юцца. Я ведаю, што вас ублыталі ў гэтую інтрыгу. І вам я скажу праўду: калі я пайшла з дому маёй гаспадыні, сеньёр Рамераль аставаўся з ёю.

«Старая, відаць, праўду кажа»,— падумаў я. Мне хацелася верыць, што яна кажа праўду. Але цяпер ужо справа так заблыталася, што і канцоў не знойдзеш.

— Дзякуй, бабуля,— прамармытаў я і лёгенька паляпаў яе па плячы.— Бывайце!

Задумліва спускаўся я па лесвіцы — як выбрацца з гэтага лабірынта? У думках пераходзіў ад сенатара з яго пісьмамі да Рамераля з яго хлуснёй, ад Рамераля — да Батлера з яго бруднымі махінацыямі. Але пуцяводнай ніці не знаходзіў.

Пануры, з мешанінай думак у галаве, я пайшоў да машыны, у якой пакінуў за рулём Макейру.

— У цэнтр, Макейра,— сказаў я, адчыняючы дзверцы кабіны.

І тут мяне чакаў сюрпрыз.

— Не рабіце глупства, Арэс,— загадаў паліцэйскі, які сядзеў на заднім сядзенні з рэвальверам у руцэ.

Я сеў і нявесела ўсміхнуўся — на чалавеку, што глядзеў на мяне з люстэрка над ветравым шклом, была кепка і куртка Макейры... але гэта быў не Макейра.

У гэтым месцы майго расказу я зрабіў доўгую

паўзу, паказваючы, што гатовы адказваць на пытанні. Невыразная ўсмешка на твары Рэнэ акрэслілася, і ён сказаў:

— Скрупулёзны расказ, Арэс. У вас памяць выдатная.

— Я і праз тысячу гадоў не забуду ўсіх падрабязнасцяў гэтых раздзелаў майго жыцця,— адказаў я.— Кожны дзень, які я правёў у турме, усе яны глыбей урэзваліся ў маю памяць...

— Працягвайце, Арэс,— загадаў лейтэнант.— Калі скончыце, мы сёе-тое ўдакладнім.



# Частка другая

# ПОШУКІ РАЗГАДКІ

Усё нутро яго палае,
Ад страшнай прагнасці дрыжыць,
Што ўхопіць, пажырае,
Каб люты голад наталіць,
Без спыну рот пачварны разяўляе.

Баэцый

## 12. ТУРБОТЫ СЕНАТАРА

Ледзь толькі прывезлі мяне ў паліцэйскую ўправу, пачалася гульня, мне мала прыемная. Спачатку яна ішла вяла, але пакрысе разгарэлася не на жарт.

Допыт доўжыўся тры дні.

У першы дзень мне бясконца задавалі адны і тыя пытанні. Людзі гэтыя былі як зграя ваўкоў, якія па чарзе ўсаджваюць іклы ў цела сваёй ахвяры.

— Ваша імя і прозвішча?

— Хуглар Арэс.

— Колькі вам гадоў?

— Трыццаць.

— Занятак?

— Прыватны дэтэктыў.

— Чаму вы забілі Сусану?

— Я яе не забіваў.

— Што вы рабілі ў яе дома познім вечарам у тую нядзелю?

Я ледзь стрымліваўся, каб не кінуць ім самую адборную лаянку. З усіх сіл намагаўся быць спакойным. Я зноў і зноў падрабязна расказваў ім усё з самага пачатку, але, вядома, гаварыў не ўсю праўду. Тое, што апусціў, хлуснёй не замяняў, каб не заблытацца. Трэба было ўпарта весці сваю лінію, іначай, я ведаў, не мінуць мне ліха. Я не назваў ні Батлера, ні Падуа, але сенатара і Рамераля выставіў на святло. Калі яны баяцца скандалу, хай самі выблытваюцца, як могуць,— я ж таксама стараюся гэта зрабіць.

Ваўкі не адступалі. Па чарзе выходзілі адпачыць і неўзабаве вярталіся з новымі сіламі і, як папугаі, паўтаралі адно і тое. Іншы раз пытанні крыху вар'іраваліся.

Хутка ўсё гэта мне надакучыла, потым я пачаў адчуваць, што сіл ужо не стае, і нарэшце пачаў злавацца. На золку, калі мае апухлыя павекі нібы наліліся свінцом, мяне ахапіла роспач. Я ўпаў у здранцвенне і не разбіраў ужо галасоў. Тады яны ўзялі мяне пад рукі і прымусілі прайсціся па памяшканні. Пачалі спакушаць: «Прызнайцеся і пойдзеце спаць».

Яны хацелі, каб я сарваўся... і я сарваўся. Брыдка вылаяўшыся, я накінуўся на іх з кулакамі і раптам атрымаў выратавальны ўдар у сківіцу. Ногі мае падкасіліся, і ўпершыню ў той дзень я нарэшце атрымаў адпачынак...

Наступнай раніцай яны спачатку паводзілі сябе больш далікатна. Далі мне падсмажанага хлеба з маслам і кавы. Потым зноў узяліся за мяне. Першы пачаў іх шэф — Гастон, на твары якога шрамаў было больш, чым калдобін на Цэнтральнай аўтастрадзе. Але прыкідваўся прыстойным служкай парадку.

— Чаму вы, Арэс, забілі Сусану Дзіас? Каб абрабаваць?

— Зноў тое самае... Я нікога не забіваў! Нікога не рабаваў!

— Як вы растлумачыце, Арэс, той факт, што ў доме нябожчыцы засталіся крывавыя адбіткі вашых пальцаў?

— Усё гэта падстроена. Я прабраўся ў яе дом па даручэнню кліента ў пошуках яго пісьмаў, і там мяне аглушылі ўдарам па галаве.

— Хто ваш кліент?

— Сенатар Грэгорыо Рамірэс.

— Што гэта вы, Арэс! Зноў старая песня? Перамяніце пласцінку. Сенатар пра вас нічога не чуў.

— Ён так кажа?

— Вядома! Мы ў яго пыталіся.

— Прывядзіце яго сюды. Хай ён пры мне паўторыць.

— Для дэтэктыва, Арэс, вы проста геній. Думаеце, што сенатара рэспублікі можна прывесці ў паліцэйскую ўправу, як толькі вам захочацца?

— Ведама ж — больш выгадна ўмывацца ягонымі пляўкамі!

— Заткніцеся, Арэс! — І тут я атрымаў сваю першую аплявуху.— Да гэтай пары мы абыходзіліся з вамі далікатна...

Калі мяне б'юць у корпус, я іншы раз магу і сцярпець, але калі б'юць па твары, я заўсёды наношу моцны ўдар у адказ. Такі ў мяне характар. І мяняць яго на трыццаць першым годзе жыцця жадання не меў. Я выкінуў наперад кулак і з сілаў саўгануў у спаласаваны шрамамі твар Гастона. Апошняе, што я паспеў убачыць, быў струменьчык крыві ў кутках яго рота. На мяне накінулася ўся воўчая зграя, і адразу дзень ператварыўся ў ноч.

Ачнуўся я ў адзіночнай камеры і нават узрада-

ваўся, што я зусім адзін. Гадзіннік паказваў тры — ідаць дня. Я запаліў цыгарэту, прысеў на свой убогі ложак і задумаўся.

Прайшло нямала часу, і ў камеру ў суправаджэнні двух паліцэйскіх чыноў увайшла дачка сенатара. Адзін з паліцэйскіх быў Гастон. Паказаўшы на мяне пальцам, ён спытаў:

— Гэта той чалавек, каму вы даручылі здабыць пісьмы?

З жахам у вачах Гленда кіўнула галавой. На маім твары, напэўна, было больш сінякоў і драпін, чым шрамаў на фізіяноміі Гастона.

— Яго... білі? — спытала яна.

Гастон не адказаў — узяў Гленду за руку і разам з ёю знік за дзвярыма.

Прайшло паўгадзіны. Зноў адчыніліся дзверы. На гэты раз Гастон прывёў Батлера. Батлер па-майстэрску іграў сваю ролю. Уважліва разглядаў мяне, папрасіў, каб мне загадалі ўстаць, потым — каб мяне павярнулі бокам, і нарэшце сказаў, што я не той чалавек, які хацеў прадаць яму каштоўнасці. Я ўздыхнуў з палёгкай. У рэшце рэшт, усё не так ужо кепска, як я думаў.

Мінула яшчэ чвэрць гадзіны. Гастон увайшоў следам за Карласам, барменам «Ла Пласы». Усё стараўся заблытаць яго. Але дзяцюк паводзіў сябе добра. Пацвердзіў, што я пакінуў бар прыблізна а дзевятай гадзіне вечара.

— Чаму вы так упэўнены? — дапытваўся Гастон.— Адкуль вы ведаеце, што было не восем ці...

— Разумееце... я працую да дзевяці,— адказаў Карлас,— і калі сеньёр Арэс пайшоў з бара, да канца маёй змены заставалася ўсяго некалькі мінут.

Вось маё алібі! Я ледзь стрымаўся, каб ад радасці не запляскаць у далоні. Сусана памерла паміж пало-

вай восьмай і васьмю, і ў гэты час я знаходзіўся ў бары «Ла Пласа»!

А чацвёртай гадзіне мяне вывелі з адзіночкі.

— Мы яшчэ можам вас арыштаваць за тое, што тайна праніклі ў чужое жыллё,— прабурчаў Гастон.— Паводзьце сябе асцярожна,— пагрозліва дадаў ён,— і не пакідайце межаў горада.

— Зусім лішняя рэкамендацыя,— адказаў я.— У мяне яшчэ шмат спраў у Гаване.

— Ах, вось што! Паслухайце, Арэс...— Гастон на момант запнуўся, бо я не люблю, калі перад маім носам размахваюць пяцярнёй,— пакіньце совацца ў гэтую справу! Папярэджваю!..

Я ўсміхнуўся. Узяў свае дакументы і павярнуўся да яго спіной. Калі за мной зачыніліся дзверы ўправы, я на поўныя грудзі ўдыхнуў паветра. Першы раз за шмат дзён я мог дзейнічаць адкрыта.

Закурыў і з параднай лесвіцы пачаў азіраць вуліцу. На тым баку ў адкрытай машыне сядзела Гленда Рамірэс. Яна націснула на сігнал і энергічна памахала мне рукой. Я спусціўся з ганка і пайшоў да яе. На ёй было адзенне не таго вучнёўскага крою, што рабіла яе падобнай на дзяўчо,— перада мной была незвычайна прыгожая жанчына з чароўнай усмешкай на вуснах.

— Вас падвезці? — спытала Гленда.

— Не,— буркнуў я.— У мяне і без таго шмат праблем.

— Чаму вы лічыце, што я магу павялічыць іх колькасць?

— Спытайцеся ў люстэрка,— адказаў я і пайшоў.

— Спыніцеся, Арэс. Я абяцала бацьку, што прывязу вас да яго. Ён чакае.

— Ваш бацька? Чаго гэта ён раптам? Мы ўжо бачыліся.

— Ён ведае, што вы думаеце. Таму і паслаў мяне

па вас. Мае чары лічацца непераможнымі. Я сама ўжо ў гэта веру,— прызналася Гленда, сумна ўсміхнуўшыся. Потым прыгожа скрывіла свой тварык.— Што ж вы, Арэс, надумалі — падмачыць маю рэпутацыю?

— За каго вы мяне прымаеце,— адказаў я, таксама ўсміхнуўшыся ёй.— Я вам удзячны за ваш сённяшні жэст. Ведаю, чаго вам каштавала адолець свае сумненні і зрабіць заяву ў маю карысць.

Дзяўчына зноў сумна ўсміхнулася.

— Няўжо я заслугоўваю такой ацэнкі? — У яе голасе прагучаў горкі папрок.— Не адмаўляю, у нечым вы маеце рацыю. Але не ва ўсім. Вы ж таксама абышліся з бацькам несумленна. Калі я прачытала ў газеце, што Сусана памерла паміж паловай восьмай і васьмю, я адразу хацела пайсці ў паліцыю, але бацька забараніў. Сказаў, што вы адно пісьмо не аддалі і спрабавалі шантажыраваць яго. Гэта праўда, Арэс?

Я ўсміхнуўся — у сенатара больш спрыту, чым у кірмашнага злодзея.

— Паглядзім, што ад нас хоча сенатар,— сказаў я і сеў у машыну, пакінуўшы яе пытанне без адказу.

Мы спыніліся каля асабняка Рамірэса. Гленда выйшла з машыны і не азірнуўшыся пайшла ў дом. Я ішоў следам за ёю па шырокім і доўгім калідоры, які прывёў нас ва ўнутраны двор — пацыо, абсаджаны дрэвамі. Сенатару жылося някепска. Усе «бацькі айчыны», думаю, жылі так. Варта было толькі ім руку працягнуць — і ўся краіна была да іх паслуг.

За сталом, зацененым шырокім круглым тэнтам, у кароткіх шараварах сядзеў сенатар з нейкім чалавекам. Далей, за імі, адзін з галаварэзаў, што ўчынілі нада мной расправу, забаўляўся з пародзістым сабакам, які быў прывязаны ланцугом да дрэва. На

другім канцы двара дзве малыя дзяўчынкі сядзелі на краі басейна, боўтаючы нагамі ў вадзе.

Чалавек, што размаўляў з Рамірэсам, падаў яму знак, і сенатар павярнуўся да мяне.

— А-а... сеньёр Арэс уласнай персонай! — выгукнуў ён весела.— Падыходзьце, прысаджвайцеся.

— У вас ёсць аб чым пагаварыць,— сказала Глен-да,— а мяне чакае ванна. Я вас пакіну.

— Гэта сеньёр Кантрэрас, Арэс,— пазнаёміў мяне сенатар са сваім субяседнікам.— Мой агент па сувязі з публічнасцю.

Я насмешліва ўсміхнуўся. Сенатар строіць з сябе галівудскую зорку.

Падцягнуўшы да сябе крэсла, я сеў.

— А гэта хто? — спытаў я, паказваючы на чалавека, што гуляў з сабакам.— Ваш збраяносец?

Сенатар зарагатаў. Вочкі яго зрабіліся яшчэ меншымі, скулы ўспухлі тлустымі складкамі.

— Ну і гумарыст вы, Арэс! — правуркатаў ён.— А я думаў, вы яго не пазнаеце,— сенатар ізноў засмяяўся.— Частуйцеся, Арэс,— настойкі хатняга вырабу. Пакаштуйце.

Я ўзяў шклянку і крыху наліў у яе з бутэлькі. Напітак быў сцюдзёны, але я кінуў туды яшчэ і кубік лёду. Паднёсшы да рота, спытаў:

— Навошта я вам патрэбен, сенатар?

Рамірэс падняў сваю шклянку і пачаў задумліва яе разглядаць. Потым паставіў на стол, нават не прыгубіўшы.

— Нашы стасункі ніколі не былі сардэчныя, Арэс,— паскардзіўся ён.— Але, чорт вазьмі, вы паводзіце сябе... Растлумач ты яму, Кантрэрас. Я ніколі не вызначаўся аратарскімі здольнасцямі.

Я адпіў глыток і павярнуўся да Кантрэраса — манернага маладога чалавека, у якога бесперапынна торгаліся павекі.

— Справа вельмі далікатная, сеньёр Арэс,— пачаў ён.— Ваша ўмяшанне можа пагібельна адбіцца на выніках выбараў.

— На якую справу намякаеш, дзетка? — спытаў я.

— Ну... на... на адносіны сенатара з сеньёрай Сусанай Дзіас. І на гэта во... на пісьмы...

— Ага! Дык што ж?

— Караццей кажучы, Арэс,— умяшаўся сенатар,— усяго некалькі месяцаў асталося да выбараў, і любая ваша неасцярожная заява газетам можа мець для мяне катастрафічныя вынікі У мяне шмат выбаршчыц, а вы самі ведаеце, якія жанчыны сентыментальныя. Не магу дазволіць сабе раскошы страціць іхнія галасы.

— Вы жартуеце, сенатар! Вашы справы ідуць угору. Усе ведаюць, што вы фаварыт прэзідэнта. Як можаце вы страціць галасы? Калі ў прэзідэнцкім палацы вырашылі, каб вы выйшлі пераможцам, навошта вам непакоіцца аб выбаршчыках?

Сенатар скрывіў умольную міну.

— Вы не зразумелі, Арэс. Можна дазваляць сабе ўсё, што хочаш, але твар павінен заўсёды заставацца чыстым, ці ж не так? А гэта ж публічны скандал! Шуміха з Сусанай узбаламуціла ўсю маю партыю, таму што ў Сусаны былі вялікія сувязі... Шмат хто прагне заняць маё месца... І цяпер у іх можа з'явіцца цудоўны выпадак падставіць мне ножку... Таму неабходна, каб вы маўчалі... хоць пакуль не скончацца выбары. Натуральна, да вас мы будзем шчодрыя. І акрамя таго, Арэс, ніхто не павінен пагарджаць уплывовым другам...

— Нашто было хадзіць кругом ды навокала, сенатар, каб угаварыць мяне сёе-тое вам прадаць,— усміхнуўся я.— У колькі ацэньваецца маё маўчанне?

— Мы вырашылі даць вам пяцьсот песа,— умяшаўся Кантрэрас.

— Цудоўна, дзетка! На маю думку, сума разумная. Дзе грошы?

Сенатар абмяняўся з Кантрэрасам змоўніцкім позіркам, і той выняў з партфеля канверт і перадаў мне. Я пералічыў паперкі — пяць па сто. Дапіў сваю шклянку і падняўся з крэсла.

— Хачу, каб вы ведалі, сенатар, што я ўжо сёетое балбатнуў паліцыі,— заявіў я.— Але ясна, што яна пад вас капаць не будзе.

— Правільна,— сказаў Рамірэс,— у тактоўнасці паліцыі мы ўпэўнены. Толькі самі вы можаце зрабіць няправільны крок. Майце гэта на ўвазе, Арэс.

Я ўсміхнуўся. Паказаўшы рукою на тыпа, які забаўляўся з сабакам, сказаў:

— Я хацеў папрасіць яго... Як яго зваць, сенатар? Вы можаце загадаць яму падысці?

Сенатар падняў руку і гукнуў:

— Тамас!

— Загадайце яму вярнуць мне пісьмы і пісталет,— папрасіў я.

Рамірэс зрабіў знак, і Тамас аддаў мне люгер. Потым засунуў руку ў другую кішэню і дастаў пісьмы. Схаваўшы іх, я сказаў:

— Ваш пісталецік, сенатар, у Гастона. Думаю, адно ваша слова — і ён аддасць вам яго.

І тут я зрабіў тое, чаго ніхто з іх не чакаў. Узяў з вазачкі кубік лёду, сціснуў яго ў кулаку і з сілай раскрышыў на твары Тамаса. З яго носа пырснула кроў, і ён, як паранены звер, пачаў качацца на дзірване газона. Я павярнуўся да ўсіх спіною і пайшоў З тэрасы на нас узрушана пазірала Гленда.

## 13. ЛЕГЕНДА ПРА ЛОНГАЎ

Усю дарогу ў цэнтр горада я ішоў у глыбокім роздуме. Уся гэта справа мне ўжо здорава надакучыла — брыдота нейкая. Цэлая плойма вядомых, з іменем, людзей валтузіцца ў гразі свайго бруднага жыцця... але толькі ў Рамераля, відаць, няма алібі.

У сваім атэлі я прыняў душ, і крыху сцішыўся боль майго скатаванага цела. Думка аб добрым абедзе ў невялічкім рэстаранчыку Ісаяса трохі падняла настрой. Калі я ўвайшоў, гаспадар аж вочы вылупіў, убачыўшы мой разбіты твар.

А шостай гадзіне я сеў на аўтобус і паехаў да Батлера. Па дарозе паглядзеў вячэрні выпуск «Эль Паіса». Пасля майго вызвалення з-пад арышту забойства Сусаны зноў прыцягнула да сябе ўвагу. Газеты, як заўсёды, кампенсавалі нястачу інфармацыі фантастычнымі домысламі.

Батлер прыняў мяне ў сваім кабінеце. На ім быў шаўковы кітайскі халат, з-пад стала выглядвалі кітайскія туфлі. Калі падыходзіў, я заўважыў у яго вачах нейкі дзіўны бляск. Шырока ўсміхнуўшыся, ён сардэчным тонам усклікнуў:

— Віншую вас, Арэс! Вы — цвёрдая костачка! І вельмі вытрыманы. Такія якасці ў людзях не часта сустрэнеш.

Ветліва паказаўшы рукою на крэсла, ён выняў пачак цыгарэт і прапанаваў мне частавацца, але я не ўзяў. Ніяк не адрэагаваўшы на гэта, ён закурыў сам.

— Спадзяюся, вы з добрымі весткамі, Арэс?

— Я бачыў Шасціпальца. Калі вы гэта называеце добрымі весткамі...

На твары яго было задавальненне, але вялікага энтузіязму Батлер не праявіў.

— Вы не прытрымліваецеся нашай дамоўлена-

сці, Арэс,— пакрыўджаным тонам сказаў ён пасля паўзы.— Не далі мне пагаварыць з Шасціпальцам.

— Ён выслізнуў з маіх рук.

— А «Балерына»? Удалося ўзяць?

— Так,— суха адказаў я.— Яна вернецца да свайго гаспадара.

— Гаспадар яе — я! Прынясіце карціну!

— Вы не зразумелі, Батлер. Я кажу, што вярну яе таму, каму яна належыць.

— Але ж вы самі бачылі, што яна належыць мне.

— «Балерына» не ваша.

— Гром нябесны! — прамармытаў Батлер, злосна бліснуўшы вачыма.— Вы, Арэс, здраднік, такі самы чорны прадажнік, як і Шасціпалец. Мы ж дамовіліся...

— Прыберажыце гэту подлую камедыю для кагонебудзь іншага, Батлер, хто вас не ведае,— узлаваўся я.— Карціна вам зусім не патрэбная. Байкай пра карціну вы пусцілі мяне на след Шасціпальца, каб я яго знайшоў вам, вось і ўсё. Ён абставіў вас пры дзяльбе спажывы. А карціна тут ні пры чым.

— Вы, Арэс, занадта разумны для мяне,— уздыхнуў Батлер.— Не трэба мне было наогул увязвацца ў гэту справу. Так мне і трэба.— Ён націснуў на адну з кнопак і коратка сказаў: — Слуга мой пакажа вам выхад.

— Не турбуйцеся,— адказаў я, падымаючыся з крэсла.— Дарогу я ведаю.— Зрабіў некалькі крокаў да дзвярэй і сказаў: — Шкада, Батлер, што вы далей свайго носа не бачыце. А то можна было б дамовіцца наконт урны.

Батлер ускочыў з крэсла, вырачыўшы вочы.

— Стойце, Арэс! — загадаў ён, і я ўбачыў чорнае дула яго пісталета.

— Я меў на ўвазе не такі спосаб дамаўляцца, Батлер.

— Вярніцеся і сядайце, Арэс. Зрабіце ласку.

Я вярнуўся да стала і стомлена апусціўся ў крэсла. Цень нерашучасці азмрочыў твар Батлера.

— Вы ўпамянулі пра урну, Арэс. Што вы пра яе ведаеце?

У тым уся справа, што я нічога пра яе не ведаў...

— Вы ашукалі мяне, Батлер. Павінен прызнацца, што ў час нашай першай сустрэчы я пераацаніў ваш інтэлект.

— Што ж вас прымусіла перамяніць сваю думку?

— Ваша хлусня. Спярша гэты падман з «Балерынай за кулісамі», а цяпер, не іначай, я пачую чарговую байку пра урну.

Кусаючы губы, Батлер схаваў пісталет.

— Вы маеце рацыю, Арэс,— прызнаўся ён, сціраючы насоўкай пот з твару.— З карцінай я сапраўды падтасаваў карты. Але, чорт вазьмі, Арэс, рэпутацыя ваша...

— Мая рэпутацыя? Вы шулер, Батлер. Я паважаю толькі тых, хто гуляе са мной чыста.

— Я зрабіў памылку,— з жалем прамовіў ён.— Прызнаюся.

— Выпраўце яе. Яшчэ ёсць час.

Прагнаўшы рэшткі нерашучасці, Батлер апусціўся ў крэсла і, апошні раз зацягнуўшыся дымам, раздушыў цыгарэту аб попельніцу.

— Гісторыя незвычайная, Арэс,— сказаў ён,— легендарная. Вы што-небудзь чулі пра Лонгаў? Не? Лонгі — гэта старадаўняя тайная кітайская арганізацыя. Паходзіць яшчэ з часоў першай дынастыі Мінь. Узнікла ў выніку саперніцтва паміж знатнымі родамі, калі Тайцзу змагаўся супроць дынастыі Юань. Калі ён стаў імператарам, на інтрыгі варожых яму родаў адказаў масавым тэрорам і ссылкамі. Ва ўсходніх правінцыях яму аказалі ўпартае супраціўленне, але барацьба была няроўная, і пераможаныя пе-

райшлі ў падполле. Так нарадзілася арганізацыя і культ Лонгаў. Яны пакланяюцца прынцэсе, якая загінула пакутніцкай смерцю. Вобраз яе высечаны на вечку скрыначкі, у сакрэтным аддзяленні якой захоўваюцца мошчы прынцэсы... Я, прызнацца, Арэс, не ведаю, наколькі легенда адпавядае праўдзе.

— Легенда ўпрыгожвае гісторыю,— зазначыў я.— Без яе расказ ваш быў бы цалкам пазбаўлены цікавасці.

— Так, так... Дык вось, з цягам часу ў кульце Лонгаў адбыліся змены, але урна засталася, як была. Пасля перамены ўлады ў Кітаі Лонгі перабраліся ў Злучаныя Штаты, арганізацыя ператварылася ў нешта накшталт таварыства ўзаемадапамогі, якое аб'ядноўвае толькі адукаваных і заможных кітайцаў. Аднак статут дазваляе выбіраць новых членаў з ліку іншаземцаў з добрым імем і рэпутацыяй...

Я ўсміхнуўся — уявіў сабе, што гэта за арганізацыя, калі прымае ў свае члены такога шэльму, як Батлер.

— Неўзабаве пасля пераезду ў Штаты,— гаварыў ён далей,— здарылася святатацтва — знікла Свяшчэнная урна. Узнагарода таму, хто яе знойдзе і верне, складае цяпер сто тысяч песа. Я, Арэс, па многіх прычынах, адчуваю сябе чалавекам усходнім і прысвяціў усю сваю энергію, увесь свой час пошукам злодзея. Яго я не знайшоў, але знайшоў урну. Яна аказалася ў Сусаны. Нехта ёй падарыў...

— Адну хвіліначку, Батлер,— перапыніў я яго.— Гэта урна — нешта накшталт шкатулкі са слановай косці чорнага колеру, на вечку якой выразаны твар жанчыны ўсходняга тыпу?

— Правільна! — усклікнуў Батлер.— Значыць, вы бачылі яе ў доме Сусаны?

— Бачыў. Яна хавала ў ёй розныя каштоўнасці і інтымныя паперы. У скрыначцы двайное дно, якое

адчыняецца нейкім хітрым механізмам. Але тут не ўсё сходзіцца, Батлер. Скажыце — Сусана нічога не ведала пра ўзнагароду? Б'юся аб заклад, што за сто тысяч песа яна не пашкадавала б і дзесяці такіх рэліквій.

— Не, за сто тысяч — не. За чатырыста, магчыма. Але я ўпэўнены, Арэс, што вы б наогул прайгралі, бо зусім не ведаеце Сусаны. Калі б яна дазналася пра сапраўдную цану урны, то нізавошта не рассталася б з ёй. Сусана была заўзятым калекцыянерам. А вы ведаеце, што гэта значыць. Хваравіты экстаз ад валодання прадметам і яго сузірання. Неўтаймаваная прага расказваць яго гісторыю ўсім... Карацей кажучы, грошы ў такіх выпадках трацяць сваю сілу. Сусана, Арэс, ніколі урны са сваіх рук не выпусціла б.

— А Шасціпалец? Як ён даведаўся пра яе сапраўдны кошт? Вы ж не дурань, каб расказаць яму?

— Безумоўна, не. Гэту гісторыю я расказаў толькі вам. Але неасцярожнае слова адной маёй даверанай асобы выклікала ў яго падазрэнне, і ён не аддаў урны. Вось і ўсё. Цяпер я ў вашых руках, Арэс.

Я на момант задумаўся.

— У вас ёсць які дакумент, што можа засведчыць ваша права на урну? Толькі, вядома, не такі, як на «Балерыну»!

Батлер весела зарагатаў.

— Вы маглі б быць добрым партнёрам, Арэс,— сказаў ён, выціраючы хустачкай слёзы.— Але тут вы схітравалі. Я выкладаю вам усе свае карты, а вы ходзіце вось чым! Урна была патаемна вывезена з Кітая. Якога ж д'ябла вы патрабуеце нейкага дакумента?

Я задумліва пакусаў губы.

— Добра, Батлер. Сто тысяч на два — гэта пяцьдзесят тысяч. Згода?

— Арыфметыка ў вас беззаганная, Арэс. Калі пачнём?

— Зараз жа. Пяцідзесяццю тысячамі песа рызыкаваць нельга.

Батлер правёў мяне да дзвярэй кабінета. На парозе раптам запытаў:

— Шасціпалец часам — не той, каго вы шукаеце, Арэс?

Я нерашуча паскроб падбародак:

— Не. Здаецца, не.

— Хто ж забіў Сусану? Я хацеў сказаць: вы яшчэ не ведаеце, хто мог яе забіць?

— Шмат хто мог. Вось вы, напрыклад.

— Ваша праўда, Арэс. Нават я мог бы яе забіць. Сусана гэтага заслугоўвала.

## 14. ГАСПАДАР КАРЦІНЫ

Цырыманіял, які існаваў у доме Батлера, выклікаў у мяне ўхмылку: з дома ніхто не мог выйсці без таго, каб усмешлівы Цзыньлі не давёў яго, ідучы па пятах, аж да самых дзвярэй. «Што так пільна ахоўвае Батлер?» — падумаў я. Водар парфумы, якім ледзь павявала ў паветры, здалося, адказаў на пытанне. Люмэй! Люмэй была адным з тых стварэнняў прыроды, валодаць якімі мы ўсе імкнёмся,— правесці пальцамі па неймаверна гладкай скуры, з захапленнем узірацца ў чароўныя бурштынавыя вочы... Усё ў ёй гарманіравала, і толькі проста сказаць, што яна незвычайна прыгожая,— значыць нічога не сказаць...

На вуліцы я зірнуў на гадзіннік — было дзевяць гадзін вечара, і ажыўленне кітайскага квартала пачало набліжацца да свайго зеніту.

Праклінаючы Батлера за яго хлуслівыя выдумкі, я пайшоў на тэлеграф «Уэстэрн Юн'ян» і адправіў

тэлеграму сваім амерыканскім калегам, якім год назад аказаў паслугу:

«Весану і Дагану
Агенцтва прыватных дэтэктываў
Лексінгтан і Дункан Авеню, Уэст
Сан-Францыска, ЗША

Прашу пацвердзіць існаванне тайнага кітайскага таварыства па назве Лонг. Збіраюся шукаць свяшчэнную урну. Справа тэрміновая. Прывітанне.

Хуглар Арэс
Прыватны дэтэктыў
Будынак «Атлантык», рог вул. 12-й і 23-й авеніды.
Гавана, Куба».

Ідучы ў кантору, я ўвесь час думаў пра тое, што мне расказаў Батлер. У яго расказе ёсць нейкая доля праўды. Але якая? На гэта пытанне, напэўна, мог бы адказаць Шасціпалец. Аднак як мне зноў убачыць яго? Калі ў яго ёсць розум, у сваё логава на вуліцы Тэхадылья ён ужо не вернецца. А Каліостра? Ці возьмецца ён зноў за свае вулічныя гастролі, каб пад іх прыкрыццём спекуляваць марыхуанай, якую для яго здабываў Шасціпалец? Было малаверагодна, каб Каліостра па-ранейшаму давяраў яму. Але толькі Каліостра мог навесці мяне на след Шасціпальца. Я ведаў, што іду супроць логікі, але такі спосаб ужо неаднойчы прыносіў мне добры плён. Ва ўсякім разе, я нічога не страчу, калі пашлю Макейру шукаць яго.

У маленькім пакоі для чакання я ўбачыў Сота Падуа. Відаць, ён быў нечым засмучаны. Калі я ўвайшоў, твар яго пасвятлеў.

— Думаў ужо, што вы ніколі не прыйдзеце, Арэс! — усклікнуў ён.— Чакаю вас больш за гадзіну.

Я нічога не адказаў. На душы зрабілася прыкра.

Адчыніў дзверы кабінета і прапусціў яго наперад. Знакам запрасіў сесці. Падуа стомлена паваліўся ў крэсла.

Зазваніў тэлефон. У трубцы пачуўся голас Макейры. Я павесялеў — яго адпусцілі, учыніўшы толькі фармальны допыт. А то я ўжо дакараў сябе, што праз мяне пацярпеў зусім старонні чалавек. На яго думку, мяне пазнаў паліцэйскі, калі, пакінуўшы машыну, я ішоў да служанкі Сусаны. Я і сам так думаў. Папрасіў Макейру прыйсці да мяне ў кантору.

Падуа нецярпліва чакаў. Не паспеў я пакласці трубку, як ён запытаў:

— Вы пра мяне што-небудзь гаварылі ў паліцыі, Арэс?

Я ямчэй умасціўся ў крэсле і не спяшаючыся закурыў. Можа, яму спех, а мне няма куды спяшацца. Калі ён гэта ўцяміў, я сказаў:

— Жадаеце што-небудзь расказаць?

Лоб Падуа збаразнілі зморшчыны, бадзёры агеньчык у вачах згас, і іх завалакла смуга страху.

— Не,— адказаў ён.— Мне няма чаго вам расказваць. Толькі, магчыма, вы не так зразумелі маю зацікаўленасць «Балерынаю» і... скажам, не былі тактоўныя... Іншы раз паліцыя прымушае нас сказаць тое, чаго мы нават і не ведаем,— шэптам дадаў ён, падняўшы ўказальны палец.

— Супакойцеся — адказаў я.— За дзве тысячы песа я ўмею трымаць язык за зубамі. Спадзяюся, прапанова ваша застаецца ў сіле?

— Безумоўна. Карціна ў вас?

Я пацiснуў плячамі:

— Я Сусану не рабаваў.

Падуа хітра ўсміхнуўся — крыху ўжо акрыяў.

— Я не гаварыў, што вы каго-небудзь рабавалі... Аднак... вы б не прадавалі тавар, якога ў вас няма.

— Зусім хутка карціна будзе ў мяне,— абвясціў я.— Думаю, у вас ёсць чым пасведчыць яе прыналежнасць вам.

Падуа ва ўпор паглядзеў на мяне.

— Не палохайце мяне, Арэс, такімі праявамі сумленнасці. Гэтым вы можаце запляміць сваю рэпутацыю.

Мне зрабілася смешна. Усе гэтыя пазалочаныя мішурныя чалавечкі па вушы загразлі ў паганым балоце свайго жыцця і прыходзяць да мяне па дапамогу толькі таму, што вакол майго імені стварылі арэол цынізму. Я іх не хацеў расчароўваць.

— На гэту карціну, сеньёр Падуа, шмат прэтэндэнтаў,— спакойна паясніў я.— Адзін чалавек абяцае заплаціць за яе столькі, колькі і вы, і да таго ж ма́е дакумент на права ўласнасці.

— Фальшыўка! — абурана ўсклікнуў Падуа.— Ні ў кога не можа быць права ўласнасці на яе, таму што карціна належыць мне!

— Даруйце, шаноўны,— запярэчыў я холадна.— Мне вядома, што яна належала Сусане Дзіас.

— Я падарыў ёй!

— Ясна,— буркнуў я.— Безумоўна, як доказ сваёй асаблівай прыхільнасці да яе?

Падуа раптам нервова зарагатаў:

— Цяпер я разумею! Усё разумею! Спасылкай на канкурэнта вы хочаце выцягнуць з мяне больш грошай, чым было дамоўлена, га? Хітры ходзік, Арэс! Якраз пад вашу рэпутацыю!

Я не зазлаваў. Проста ўзяў Падуа за каўнер і, нягледзячы на гучныя пратэсты, выштурхнуў яго ў калідор.

Ледзь толькі сеў з газетай у руцэ за стол, як раптам зазвінеў у дзвярах званок. Я адчыніў. На парозе стаяў Макейра.

— Заходзьце, Макейра. Сядайце.

4. Зак. 1877

— Мне толькі што сустрэўся Падуа — выходзіў з будынка. Нешта злосна мармытаў сабе пад нос. Спадзяюся, вы не абышліся з ім груба? Падуа — чалавек з вялікімі сувязямі.

— Хай вас гэта не трывожыць, Макейра. Ён цяпер так заграз, што будзе маўчаць у анучку.

— Вы ведаеце, што робіце, Арэс. Але я на вашым месцы спакойна цешыўся б асалодамі жыцця і выкінуў бы з галавы ўсю гэту паганую справу.— Макейра ўважліва паглядзеў на мяне і дадаў — Што вы атрымалі з усяго гэтага, акрамя сінякоў і гузакоў?

— Нічога, Макейра,— сумна пагадзіўся я.— Але я не люблю, калі з мяне смяюцца, а якраз у гэты момант адзін чалавек так і робіць.

— Я ўжо вам, пэўна, не патрэбен. Цяпер вы можаце ездзіць на сваёй машыне. Хочаце, каб я вярнуў «шаўрале» пракату?

— Колькі яшчэ дзён можна ім карыстацца?

— У панядзелак канчаецца тэрмін. Яшчэ некалькі дзён засталося.

— Навошта ж тады аддаваць? Мы ж заплацілі.

— Але я...

— Вышэй галаву, Макейра! Забойцу мы з вамі ўсё ж такі знойдзем!

— Але ж вы апынуліся ў зачараваным коле!

— Не будзьце песімістам, Макейра. Памятаеце, я неяк гаварыў вам пра вандроўнага вулічнага фокусніка па мянушцы Каліостра?

— Я бачыў шмат вулічных артыстаў, але ніколі не звяртаў увагі на тое, як іх заваць.

— Суб'ект гэты прыкметны, часта выступае ў парках Старой Гаваны. Можаце пашукаць яго там?

— Раз вы загадваеце... А што я павінен рабіць?

— Пашукаць крыху ў гэтых парках. Толькі асцярожна, Макейра: Каліостра — птушка драпежная. Калі ўбачыце яго, пастарайцеся звязацца са мной.

Вось вазьміце,— я даў яму сваю візітную картачку,— тут тэлефоны канторы і майго нумара ў «Пакардзе». Калі не знойдзеце мяне там, пакіньце запіску Карласу, бармену «Ла Пласы». Я буду час ад часу туды пазвоньваць.

— Калі пачынаць?

— Адразу ж. Навошта час траціць?

Макейра ўстаў з крэсла.

— Для вас я гэта зраблю,— хмура сказаў ён.— Але наогул гуляць у сышчыкаў я не люблю.

Я сумна ўсміхнуўся. Ён думае, што мне гэта вельмі прыемна. Іншы раз, праўда, нядрэнна заробіш, але заўсёды выпацкаешся ў гразі...

## 15. САКРЭТ ЦУКРАЗАВОДЧЫКА

Хвілін праз пятнаццаць — дваццаць пасля таго, як пайшоў Макейра, я раптам пачуў за дзвярыма нейкі дзіўны шум. Зачытаўшыся газетай, я не звярнуў на яго ўвагі, але шум не сціхаў — быццам аб дзверы скрэблася кошка. Я адарваў вочы ад газеты, націснуў плячамі і зноў пачаў чытаць. Калі нейкі дурань скрабецца ў дзверы замест таго, каб націснуць на кнопку званка, хай ён акалее, а калі гэта кошка, ёй хутка надакучыць.

Шум сціх. Я глянуў на гадзіннік — дзве мінуты адзінаццатай. І тут я пачаў адчуваць невыразны неспакой. Сэрца пачало часта біцца, і па ўсім целе пайшла нейкая дзіўная гарачыня. Мною пачаў авалодваць страх.

Пагладжваючы ручку люгера, я крыху супакоіўся. І раптоўна засмяяўся. Страх, калі ён адольвае чалавека ў адзіноце, заўсёды выклікае нервовы смех.

Раптам пачуўся крык:

— Арэс, вы тут?

Я ўскочыў на ногі, як на спружыне, сціскаючы ў руцэ пісталет.

— Не падыходзьце да дзвярэй! Чуеце? Не дакранайцеся да ручкі, Арэс! Чуеце?

— Змоўкніце нарэшце! Сціхніце! — зароў я, не кранаючыся з месца.

Прайшло некалькі доўгіх хвілін. За дзвярыма пачуўся ўладны голас: «Асцеражней, Гансалес! Во, во! Цяпер выверні дэтанатар. Вось так, добра».

Пры слове «дэтанатар» па маім хрыбце пракацілася хваля смяртэльнага жаху. Калі па той бок дзвярэй сказалі: «Можаце адчыняць, Арэс», у мяне задрыжалі калені. Стараючыся адолець упарты страх, я адчыніў дзверы.

— Якога д'ябла вам трэба? — спытаў я.— Чаго так шуміце?

Лейтэнант Гастон з брыгады па расследаванню забойстваў працяў мяне здзеклівым позіркам. Побач з ім стаяў сяржант Гансалес.

— Дазвольце ўвайсці,— сказаў Гастон і, не чакаючы адказу, увайшоў у кабінет. Следам за ім пераступіў парог Гансалес.

— Прынеслі вам падаруначак,— сказаў ён, кладучы на стол бомбу.

Я кінуў прытворна абыякавы позірк на пякельную машыну — грубы самаробак, змайстраваны, відаць, рукою няўмекі.

Кіўком галавы падзякаваў маім збавіцелям і запрасіў іх сесці.

— Вы, Арэс, шчасліўчык,— заявіў Гастон.

Я ўжо зусім авалодаў сабой, хаця ўнутрана ўвесь напяўся. Выняў пачак цыгарэт і прапанаваў гасцям частавацца, але яны адмовіліся. Мне зусім не хацелася курыць, аднак я запаліў цыгарэту, каб паказаць, што пальцы мае не дрыжаць.

— Вось бачыце, Арэс, якія ў вас ёсць прыяцелі,—

сказаў Гансалес.— Ці не здаецца вам, што карысней вашаму здароўю было б кінуць гэтую справу? Насуперак нашаму папярэджанню вы сёння хадзілі да сенатара... Нядобра зрабілі.

За момант да таго я адчуваў удзячнасць да іх, але як толькі яны параскрывалі раты, мяне пачала разбіраць злосць.

— Я ўсё думаю, Гансалес, што мы, бадай што, робім памылку,— з'едліва прамовіў Гастон.— Сеньёр Арэс і далей хоча займацца гэтым забойствам. Што ж, у добры час! Дзе мы знойдзем лепшую прынаду? Вось што прыйшло мне ў галаву! — Ён пляснуў у далоні і ўстаў.— Пакінем Арэса аднаго, Гансалес: у яго, безумоўна, ёсць шмат аб чым паразважаць, а мы толькі перашкаджаем.

Абодва пайшлі да дзвярэй, і, ужо беручыся за зашчапку, Гастон раптам павярнуўся, падышоў да стала і ўзяў бомбу.

— Трэба будзе разабрацца. Да пабачэння, Арэс.

Калі за імі зачыніліся дзверы, я са злосці піхнуў нагой кошык для папер. «Свінні!» — вырвалася ў мяне.

Я апусціўся ў крэсла. Вось калі пацягнула закурыць! Нягоднік, хто б ён ні быў, робіцца занадта дзёрзкім...

Каля дванаццаці ночы я сабраўся ўжо ісці, як раптам зазваніў тэлефон. Гаварыў Макейра. Паведаміў, што машына сапсавалася.

— Вярніце яе пракату,— сказаў я.— Заўтра возьмеце маю.

Макейра прамармытаў нешта, просячы прабачэння, і павесіў трубку.

Я падышоў да акна. Вулічны рух пачаў радзець. Кінуў позірк на купку людзей, што стаялі на аўтобусным прыпынку на 23-й вуліцы. Сярод іх я заўважыў маленькага чалавечка, які пазіраў на маё акно.

Я адступіў убок і пачаў глядзець праз шчыліну між вушаком і форткай. Адны людзі прыязджалі, другія садзіліся ў машыну, але карлік не кранаўся з месца. Я ўсунуў люгер у кабуру пад пахай, надзеў пінжак і пайшоў з канторы, не выключыўшы святла.

На ліфце спусціўся на першы паверх. Але выйсці праз вароты на 23-ю вуліцу я не мог — мяне маглі заўважыць. Я пералез цераз каменную агароджу паміж «Атлантыкам» і суседнім будынкам, там падняўся па лесвіцы, прайшоў па калідоры і сышоў уніз. Апынуўся на 12-й вуліцы. Але якраз у гэты момант светлафор загарэўся зялёным агнём, і я аказаўся палоннікам патоку машын. Аўтамабільныя гудкі прыцягнулі да мяне ўвагу карліка, ён пабег і знік за рогам. Выкручваючыся ад машын, я выбраўся на тратуар і пусціўся следам за ім. На 10-й вуліцы ўбачыў, як яго падхапіла нейкая машына і збочыла на 21-ю. Нягледзячы на няўдачу, я ўсміхнуўся, прыгадаўшы грымасу, якую скрывіў карлік, калі ўбачыў, што я выбраўся жывым з канторы.

На другі дзень я рана прыйшоў на работу. Але Падуа сядзеў ужо ў пакоі для чакання — з панурым выглядам чытаў газету.

— Весялей, Падуа! — сказаў я.— Чаму такая кіслая міна? Паліцыя ж, думаю, да вас яшчэ не падбіраецца?

— Вы чыталі газеты, Арэс? Бачылі, што пішуць пра Рамераля?

— Вядома, чытаў! Супакойцеся. З вамі такога не будзе. Адно пісямко, напісанае даме, чым яно можа пагражаць? Самі падумайце: якой безлічы імёнаў і прозвішчаў могуць адпавядаць ініцыялы К. С. П.? Бяда толькі, праўда, што паліцэйскія графолагі — людзі хітрыя: калі ўжо возьмуцца даказаць, што пісьмо напісана вамі... Наогул я гэтых тыпаў не цярплю.

— Не жартуйце такімі рэчамі, Арэс. Вядома, учора я паводзіў сябе, як дзіця. Аднак... вы не лічыце, што ў кабінеце нам будзе зручней?

— Безумоўна,— адказаў я, адчыняючы дзверы, і прапусціў Падуа ўперад.

— Аддайце пісьмо! — раптам грозна прашаптаў Падуа, і ў руцэ яго бліснуў пісталет 22-га калібру. Пісталецік быў маленькі, але забіваў не горш, як баявая зброя. Я гучна засоп. Пагрозамі ўсіх гэтых нягоднікаў я быў ужо сыты па горла. А Падуа — добры шэльма! Там, у сябе на цукровых «цэнтралях», ён, пэўна, тэрарызаваў сваіх рабочых, але са мной жарты малыя, і ён гэта ведаў — пісталецік у яго руцэ падрыгваў.

— Уваходзьце, Арэс,— загадаў ён,— і не рабіце глупства!

Я глупства рабіць не збіраўся. Ступіў у кабінет, зняў капялюш і крутнуў ім у паветры, нібы цэлячыся ў канапу, але капялюш упаў на падлогу, а кулак мой з размаху ўрэзаўся ў твар Падуа. Абяззброіць яго было справай адной секунды.

— А цяпер прысядзьце, Падуа, і сядзіце ціха,— распарадзіўся я, паднімаючы тэлефонную трубку.— У вас з Гастонам і мною будзе доўгая размова.

Падуа памкнуўся выхапіць з маіх рук трубку, але я піхнуў яго ў крэсла.

— Калі ласка, Арэс,— умольна папрасіў ён,— выслухайце мяне!

— Мне не цікавыя вашы расказы, Падуа,— адказаў я і пачаў круціць дыск тэлефона, краем вока сочачы за госцем.

— Калі пачуеце, што я вам раскажу, Арэс, не пашкадуеце,— Падуа выняў з кішэні пухлы скураны партманет.

Я паклаў трубку і разваліўся ў крэсле.

— Што ж, паслухаем, можа, сапраўды што цікавае і пачуем,— лагодна сказаў я.

— Я не пісьмо хацеў у вас адабраць, Арэс, а карціну.

— Учора вы толькі намёкамі гаварылі, Падуа,— напомніў я, бо на яго твары я зноў прачытаў нерашучасць, такую, як і мінулым вечарам.— Што ж,— я павярнуўся да тэлефона,— Гастону якраз будзе цікава даведацца, чаму вы прэтэндуеце на карціну, якая вам не належыць.

— Мне было няёмка расказваць, Арэс. Таму я і маўчаў. Пачалося ўсё з маленькага жарту,— Падуа нявесела ўсміхнуўся.— Але ён мне дорага абышоўся. Вельмі дорага...— Падуа цяжка ўздыхнуў.— Я сам заварыў усю гэтую кашу і сам аказаўся ахвярай... «Балерына», Арэс, карціна фальшывая...

Я ледзь не падскочыў у крэсле, але твар Падуа мяне расчуліў.

— Не трэба гэтак засмучацца,— сказаў я.— Ад жартаў свет яшчэ ніколі не канчаўся.

Але ён, здавалася, не чуў маіх слоў і пачаў расказваць, як чалавек, якому прызнанне можа аблегчыць душу:

— Карціну я купіў у Парыжы ў час нашага з жонкай мядовага месяца. У тую пару я не займаў яшчэ ў дзелавым свеце такога трывалага становішча, як цяпер. Быў кампетэнтны служачы, у меру культурны, але вельмі славалюбівы... Магчыма, менавіта дзякуючы майму славалюбству я адцясніў іншых прэтэндэнтаў на руку жанчыны вельмі багатай і адукаванай. Пасля вяселля мы вырашылі паехаць у Францыю. Натуральна, мне вельмі хацелася зрабіць ёй падарунак, які асляпіў бы яе, але, на няшчасце, мая пыха аказалася нашмат вышэй за мае магчымасці... Я не знаходзіў нічога, што было б мне па кішэні і ў той жа час магло ўразіць жонку. І тут зда-

рылася тое, што ў той момант здалося мне шчаслівай удачай. Калі я ішоў па Лацінскім квартале, мне стрэўся малады мастак, і ён прапанаваў мне купіць у яго карціну Дэга. Уяўляеце сабе? Карціну Эдгара Дэга! Адзіная яе загана, сказаў ён, была ў тым, што напісаў яе не сам Дэга. Разумееце? Больш з цікаўнасці, чым з якой іншай прычыны, я падняўся за ім у мансарду, дзе была яго студыя, і, паверце, Арэс, аж рот разявіў ад здзіўлення. Такое хараство! Я не быў дасведчаны ў мастацтве, але потым на свае вочы ўбачыў, што сапраўдныя знатакі і тыя, хто лічыўся знатакамі,— усе без вагання прымалі яе за сапраўдную.

Я адразу купіў карціну. Заплаціў вялікія грошы і не раскаяўся. А калі ўбачыў, якое ўражанне карціна зрабіла на Сафію, адчуў вялікае задавальненне і гордасць. Бязглуздую гордасць, якая падахвоціла мяне раздуць кошт карціны, каб жонка паверыла, што гэта сапраўдны Дэга. Гэта было памылкай, таму што, у рэшце рэшт, якой бы ні была вартасці карціна і чыім пэндзлем ні была намаляваная, «Балерына» з'яўлялася творам мастацтва. Спярша я гаварыў сабе, што пазней выпраўлю памылку, спадзеючыся, што жонка даруе мне. Ды так і не адважыўся. Шмат разоў збіраўся, аднак не ставала смеласці. Госці заўсёды выходзілі ад нас упэўненыя, што бачылі сапраўднага Дэга. Але ў хлусні кароткія ногі. І вось два гады назад, не, бадай што тры, царкоўнае папячыцельства, членам якога была мая жонка, вырашыла прадаць з аукцыёну якую-небудзь вельмі каштоўную рэч, каб на атрыманыя грошы пабудаваць царкву. І зусім нечакана мая жонка вырашыла падарыць «Балерыну» папячыцельству. Я ўстрывожыўся, бо ведаў, што́ можа здарыцца, калі пакупнік даведаецца пра падробку.

— Вось дык сітуацыя! — усклікнуў я.

— Яшчэ якая! — падхапіў Падуа.— Як вы ўжо, мабыць, здагадаліся, я спрабаваў адгаварыць жонку. Ужыў усе сродкі, якія толькі мог прыдумаць. Але марна. У Сафіі наконт такіх спраў свае ўяўленні, і даволі дзіўныя. Для яе карціна мела нейкую асаблівую вартасць, духоўную каштоўнасць, і яна дарыла яе самому богу. У роспачы я ўсё расказаў Сусане, з якой мяне звязвалі сувязі дружбы.— Падуа падняў галаву і глянуў на мяне, на вуснах яго мільганула збянтэжаная ўсмешка.— Сусана падказала мне рашэнне, якое ў канчатковым выніку прынесла мне столькі непрыемнасцей. Але тады яе парада здалася мне слушнай — даць ёй грошы, каб яна магла таргавацца на аукцыёне. Яна купіла карціну за пятнаццаць тысяч песа — за столькі, колькі, мабыць, каштуе сапраўдны Дэга! — Крыху памаўчаўшы, Падуа прашаптаў: — Таму я хачу мець гэту карціну, Арэс. Калі яна апынецца ў руках улад, абавязкова зробяць экспертызу, і ўзнімецца скандал, які мне з такой цяжкасцю ўдалося прадухіліць.

Нейкі час я пільна ўзіраўся ў яго роспачны твар, стрымліваючы жаданне зарагатаць. Столькі клопату і трывогі з-за нейкай падробленай карціны! Усяго гэтага магло не быць, каб Падуа проста сказаў жонцы: «Паслухай, старая: некалі я купіў табе ў падарунак каштоўную карціну. Шмат грошай аддаў. Вось тут, зірні, напісана «Дэга», але на самой справе карціну намаляваў маэстра «Ніхто». Дык не! Сеньёр Падуа палічыў за лепшае жыць у вечнай мане — толькі дзеля таго, каб наталіць сваю сляпую пыхлівасць.

— Вось і ўся гісторыя, Арэс,— сказаў Падуа.— Вы прадасцё мне карціну?

— Пaглядзім, калі яна будзе ў мяне,— адказаў я.— Як вы самі зазначылі, я не магу прадаць тое, чаго ў мяне няма.

— Але вы абяцаеце?

— Нічога я не абяцаю. Сказаў, што пагаворым, вось і пагаварылі.

— А пісьмо? Што з ім рабіць будзеце?

— Пакуль што нічога. Спачатку праверу, колькі праўды ў тым, што вы мне расказалі.

Падуа ўзлавана падняўся з крэсла:

— Вы нягоднік! Прымусілі мяне паверыць, што...

Пагардліва ўсміхнуўшыся, я перапыніў яго:

— Не хвалюйцеся так, Падуа. Не такі я ўжо цынік, як прыкідваюся. Калі вы не замяшаны ў забойстве Сусаны, пісьмо ваша нікому на вочы не трапіць. Гэта я вам абяцаю.

Я выкінуў патроны з яго пісталеціка і сунуў яму ў рукі ягоную забаўку. Потым правадзіў да дзвярэй.

— Калі «Балерына» будзе ў мяне, я паведамлю вам. Бывайце!

Я выштурхнуў яго ў калідор і замкнуў дзверы перад самым яго носам.

## 16. АНАНІМНАЯ ПАГРОЗА

Я зноў сеў за стол і разгарнуў газету — у аўтобусе паспеў толькі бегла прагледзець яе. Бомба скандалу нарэшце ўзарвалася — у доме Рамераля. Пасля таго як я выслізнуў з рук паліцыі, дзякуючы алібі, якое пацвердзілі дачка сенатара і бармен «Ла Пласы», следчыя дружна ўзяліся за пакаёўку Сусаны. Яна заявіла ім тое, што і мне: апошні мужчына, якога яна бачыла ў Сусаны перад смерцю яе гаспадыні, быў Рамераль.

Тое, што я прачытаў крыху ніжэй, прымусіла мяне свіснуць. Ураганныя вятры пачалі дзьмуць у бок рэзідэнцыі сенатара. Рэпарцёр дазволіў сабе напісаць наступнае: «Чаму пэўны ўплывовы ўрадавы дзеяч не быў выклікаы для дачы паказанняў адносна смерці

вядомай куртызанкі з раёна Нуль?» і з іроніяй закончыў: «Няма сумнення, што сталы наведвальнік інтымных вечароў славутай Сусаны павінен быць у курсе вельмі цікавых дэталяў яе жыцця, веданне якіх, безумоўна, магло б аказацца карысным для паліцэйскіх улад».

Я заплюшчыў вочы, стараючыся ўявіць сабе, як на гэта прарэагуюць сенатар і яго агент «па свуязі з публічнасцю». Яны, вядома, падумаюць, што дэтэктыў без сумлення і гонару па імені Хуглар Арэс, які ўзяў пяцьсот песа за тое, каб трымаць язык за зубамі, бессаромна здрадзіў ім. Але мне было няважна, што яны падумаюць.

Каля адзінаццаці пазваніў Макейра — сказаў, што пачынае пошукі ў парках Старой Гаваны.

Перш чым зайсці куды-небудзь паснедаць, я пазваніў дачцэ сенатара. Прывітаўшыся, адразу перайшоў да справы:

— Мне патрэбна ваша дапамога.

— Якая?

— Па тэлефоне сказаць не магу. Можна пагаварыць з вамі з вока на вока?

Гленда згадзілася.

— Тады сустрэнемся ў «Ла Пласе» праз гадзіну.

Чакаць мне, вядома, давялося больш.

Гленда падышла да майго століка. Я падсунуў ёй крэсла і сеў побач.

— Можа, крышачку дайкіры? — прапанаваў я.

— Лепш марожанага.

Я паклікаў афіцыянта, і Гленда заказала сабе сунічнага марожанага.

— Вы, відаць, ужо чулі пра карціну «Балерына за кулісамі»? — спытаў я.

Пытанне маё заспела Гленду знянацку. Яе гладкі твар збаразнілі зморшчынкі.

— Карціна ў вас? — усхвалявана спытала яна.

Я слаба ўсміхнуўся.

— Бачыце,— сказаў я,— мне расказалі яе гісторыю, і я хацеў бы сёе-тое праверыць. Вы дапаможаце мне? Ніякімі непрыемнасцямі гэта вам не пагражае. Толькі перш, чым расказаць яе вам, я павінен быць абсалютна ўпэўнены ў вашай сціпласці.

Дзяўчына падняла галаву і слізганула па мне поглядам.

— Не будзьце занадта ўпэўнены,— заявіла яна.— Калі я пайшла ў паліцыю, каб пасведчыць ваша алібі, я верыла, што вы невінаваты.— Гленда працяла мяне вострым позіркам.— Але цяпер я ўжо не пераконаная ў гэтым.

— Што ж прымусіла вас сумнявацца?

— Вы выкралі «Балерыну», так?

— Вельмі паспешлівы вывад, сеньярыта Рамірэс... Я ўсяго толькі маю яе. А мець — гэта не значыць украсці, ці ж не так?

— Тады... чаму ж...

— У свой час усё высветліцца, Гленда. І ваша дапамога можа наблізіць гэты момант.

Дзяўчына нерашуча пацiснула плячамі:

— Не ведаю, ці павінна я ў гэта ўмешвацца. Што скажа тата?

— А вы яму не гаварыце.

— Добра. Я згодна.

— І абяцаеце нікому ні слова?

— Абяцаю,— рашуча адказала дзяўчына.

— Я веру вам,— сказаў я і пераказаў ёй тое, што пачуў ад Падуа.

— Проста не верыцца, што на свеце можа здарыцца такое,— абурылася Гленда.— Чаму ён не сказаў жонцы ўсёй праўды? Я ўпэўнена, што добрая жонка зразумела б яго.

— Вядома,— прамармытаў я.— Мужчыны заўсёды робяць дзеля жанчын розныя глупствы.

— Некаторыя мужчыны,— папраўіла мяне Гленда, усміхнуўшыся, і на яе шчоках з'явіліся ямачкі.— Вы б, напрыклад, так не зрабілі. Мой бацька наконт вас не памыляецца, Арэс: вы цынік,— з жартаўлівай бесцырымоннасцю закончыла дзяўчына.

Я схіліў галаву ў знак удзячнасці за камплімент. Не, Гленда Рамірэс не дзяўчо, як мне спачатку здалося, а жанчына ў поўным сэнсе гэтага слова.

Перш чым яна пайшла, я яшчэ раз напомніў ёй, што нікому нічога нельга расказваць.

А чацвёртай гадзіне я пазваніў Алісіі. Некалькі секунд паслухаў рэдкія гудкі і паклаў трубку — відаць, Алісія некуды адлучылася з дому. Праз паўгадзіны зноў пазваніў. «Слухаю! Алё!» — пачулася ў трубцы. Я маўчаў. Алісія паклала трубку. Гэтага я і чакаў — патрымаў трубку каля вуха, але падазронага шчаўчка не пачуў. Праз паўгадзіны яшчэ раз пазваніў. Алісія так узлавалася, што нагаварыла мне немаведама чаго.

— Супакойцеся, сеньёра! — жартам сказаў я.— Божа мой, якія выразы!

— А-а... гэта ты нарэшце! — усклікнула Алісія, не мяняючы тону.

— Ты не ў гуморы?

— Даруй мне, дарагі,— адказала яна.— Нейкі ёлупень цэлы вечар не дае мне спакою сваімі званкамі.

— І таму ты абражаеш мяне?

— Што ты, Хуглар! Я ж прыняла цябе за іншага.

— Ага! Выходзіць, у цябе яшчэ нехта ёсць! — я шырока ўсміхнуўся і зноў пачуў не зусім прыемнае для слыху.

— Ну добра, добра,— перапыніў я яе.— Кінь сварыцца і скажы мне лепш, ці атрымала ты маю бандэроль.

Алісія перайшла на шэпт:

— Ты маеш на ўвазе гэту... гэту карціну?

— Значыць, ты раскрыла бандэроль?

— А што было рабіць? Я ж не ведала, што там. Але як гэта ты адважыўся, Хуглар? Ручаюся, паліцыя ўжо абшукала ўсю кватэру.

— Дзе ты хаваеш яе?

— Тут,— ледзь чутна прашаптала Алісія.— Сховішча надзейнае.

— Чакай мяне. Праз гадзіну прыеду.

Алісія сустрэла мяне ў дзвярах, збянтэжана пазіраючы на нейкі ліст, які трымала ў руцэ.

— Што-небудзь здарылася? — устрывожыўся я.

— Не... Але гэты ліст... Дзіўна: калі прынеслі тваю бандэроль, пісьма не было.

— Магчыма, паштальён забыўся на яго, а потым вярнуўся і кінуў у скрынку.

— Можа, і так. Ад каго яно?

— Адкрый канверт і ўбачыш. Чаго чакаеш?

Алісія хуценька прабегла вачамі пісьмо і ўтаропілася на мяне — на яе твары застыў страх.

На простай паперы было надрукавана:

«Калі вам дарагі ваш прыгожы твар, скажыце гэтаму назолу, што забойства Сусаны не яго справа».

Гэта была пагроза — прамая і недвухсэнсоўная. Спачатку мяне спрабавалі знішчыць. Цяпер хочуць запалохаць, пагражаючы знявечыць Алісію.

— Не надавай гэтаму вялікага значэння, дарагая. Усяго толькі пагроза,— супакойваў я яе не вельмі ўпэўнена.— Калі б хацелі што-небудзь зрабіць табе, не папярэджвалі б.

— Але... я баюся,— прашаптала Алісія.— Я павінна хадзіць па вуліцах. Павінна выступаць на сцэне...

— Табе трэба на некалькі дзён забыцца пра кабарэ,— прапанаваў я.— Думаю, ужо набліжаецца

момант, калі я схаплю гэтага нягодніка. А пакуль што табе лепш недзе схавацца.

Алісіі мая прапанова не спадабалася, твар яе незадаволена скрывіўся.

— Схавацца? Дзе? А нават калі схаваюся, думаеш, мяне не знойдуць? Адкуль наогул даведаліся, дзе я жыву?

— Якая ж гэта тайна, дарагая? Твой адрас змешчаны ў газетах. Уся Куба яго ведае.

— Ох, не падабаецца мне ўсё гэта, Хуглар. Яны пагражаюць знявечыць мой твар. Гэта ўсё маё багацце.— Алісія горка ўсміхнулася, і ва ўсмешцы яе я прачытаў дакор.— Што ж рабіць?

— Табе трэба схавацца,— паўтарыў я,— і, калі гэта магчыма, у каго-небудзь з далёкіх сваякоў. Я ўпэўнены, што ў цябе ёсць хто-небудзь, хто мог бы даць табе на некалькі дзён прытулак.

Алісія задумалася.

— Ёсць,— нарэшце сказала яна.— Мая цётка Флора. Я некалькі разоў гасцявала ў яе. Жыве ў Луяна.

— Гэта ж цудоўна! Якраз тое, што нам трэба. Далёкае прадмесце. Давай сюды карціну. Адразу і адправімся.

Калі Алісія прынесла карціну, яна зноў пачала вагацца, але я пяшчотна абняў яе і настойліва прасіў ісці. Хацела ўзяць з сабой чамадан, але я не дазволіў: гэта было б усё роўна, што даць аб'яву ў газеце.

Па дарозе да цёткі Флоры мы перамянілі тры таксі, і, калі дабраліся да Луяна, я быў цвёрда ўпэўнены, што нас ніхто не высачыў.

## 17. ЖОНКА КАМЕРСАНТА

Вярнуўшыся ў атэль «Пакард», я раскатурхаў парцье, які драмаў за стойкай. Даючы мне ключ, ён сонна прамармытаў, нацэліўшы палец кудысьці за маю спіну:

— Вас ужо даўно чакаюць.

Я павярнуўся. У вестыбюлі амаль нікога не было, толькі ў куце на драўлянай арэхавай лаўцы сядзеў чалавек. Я падышоў да яго, і ён узняў на мяне ганарлівы позірк, у якім, аднак, не было нічога зняважальнага.

— Вы мяне чакаеце? — спытаў я.

Чалавек схапіў з крэсла свой партфель і падняўся з лаўкі.

— Я чакаю сеньёра Арэса,— адказаў ён.— Гэта вы? Я доктар Расалес, адвакат сеньёра Рамераля.— Памаўчаўшы, дадаў: — Думаю, няма неабходнасці ўдакладняць, якога Рамераля я маю на ўвазе?

— Лепш удакладніць,— сказаў я.— Не люблю туману.

— Гэта той, каго вы некалькі дзён таму назад наведалі і з гандлёвага прадпрыемства якога вам давялося пайсці... крыху паспешліва.

— Вы вельмі красамоўны. Што здарылася з сеньёрам Рамералем?

— Яго жонка хоча з вамі пагутарыць. Даручыла мне папрасіць вас прыехаць да яе. Я мог бы падвезці вас на машыне.

— Ясна,— усміхнуўся я.— Я патрэбен жонцы Рамераля і таму павінен на злом галавы імчацца да яе, каб хутчэй апынуцца ля яе ног. Вы ведаеце, колькі часу?

— Просьбы сеньёры Рамераль заўсёды суправаджаюцца чымсьці больш істотным,— ухмыльнуўся

адвакат.— Вось аванс,— ён выняў з партфеля канверт і перадаў мне.

Я раскрыў канверт — у ім было дзесяць новенькіх паперак па пяцьдзесят.

— Не магу ўстояць супроць такіх просьбаў, доктар Расалес,— сказаў я.

— Тады паехалі.

Мы селі ў бліскучы чорны «седан», і Расалес выехаў на Прада. На Малеконе, не адрываючы вачэй ад ветравога шкла, ён сказаў:

— Сеньёр Рамераль апынуўся ў цяжкім становішчы. Заява служанкі Сусаны паставіла яго пад падазрэнне, і, на няшчасце, у яго няма алібі.— Расалес кінуў на мяне быстры позірк.— Думаеце, ён мог забіць?

— А сам ён што кажа?

— Адмаўляе, вядома, але...

— Але ў вас ёсць сумненні?

— Як вам сказаць? Іншы раз думаеш, што добра ведаеш чалавека, і памыляешся. Мне, напрыклад, ніколі і ў галаву не прыходзіла, што сеньёр Рамераль здольны на такія авантуры, а мая прафесія патрабуе, каб я добра разбіраўся ў людзях...

— Чалавечая прырода вельмі складаная,— выказаў я думку, калі мы выехалі на Авеніду Вільсана.— Ніколі нельга быць да канца ўпэўненым, што добра ведаеш чалавека... таму што гэта наогул немагчыма.

— Так,— пагадзіўся Расалес,— думаю, вы маеце рацыю. Я меў справу шмат з якімі людзьмі, усе яны былі розныя... але ўсе аказаліся двудушнымі.

На званок Расалеса дзверы адчыніла служанка.

— Праходзьце,— сказаў ён мне.— Далажыце сеньёры, што прыйшоў сеньёр Арэс,— загадаў служанцы.

Служанка пачала падымацца па лесвіцы, але наверсе з'явілася сама гаспадыня.

— Можаш ісці, Марыя,— распарадзілася яна, спускаючыся па прыступках.— Я сама пр: гасцей наклапачуся.

Сышоўшы ўніз, сеньёра Рамераль запрасіла нас садзіцца. Сама села ў мяккае крэсла, я заняў другое, а доктар Расалес апусціўся на канапу.

Гасціная была прасторная, багата абсталяваная. Тут было ўсё, чым багацеі любяць упрыгожваць свае гасціныя, нават зусім новенькі раяль.

Сеньёра Рамераль была з тых жанчын, чый узрост цяжка вызначыць. Твар гладкі, толькі ў кутках вачэй прыкметны зморшчыны, прыгладжаныя касметыкай. З твару яна была прыгожая, відаць, і раней, але ўся яе постаць і цяпер яшчэ ўражвала сваёй зграбнасцю і наводзіла на думку, што некалі гэта жанчына была вельмі прывабная.

Яна пільна разглядала мяне, і я з абыякавым выглядам вытрымаў яе позірк.

— Думаю, вы ведаеце, сеньёр Арэс, чаму я паслала доктара Расалеса запрасіць вас сюды?

— Не, не ведаю, сеньёра.

— Як? — усклікнула яна, павярнуўшыся да адваката.— Вы нічога сеньёру Арэсу не растлумачылі, доктар?

— Я палічыў за лепшае, каб вы самі гэта зрабілі,— адказаў Расалес.— Але, калі пажадаеце, я магу сказаць цяпер. Вы ж ведаеце, што я быў супраць таго, каб запрашаць сеньёра Арэса.

— Добра, добра,— паспешліва перапыніла сеньёра Рамераль свайго адваката,— я ведаю вашу пазіцыю, доктар. Між іншым, і я яе падзяляю,— яна пакусала губу.— Але так жадае Рамбер... і, магчыма, гэта дасць добрыя вынікі.— Жонка Рамераля павярнулася ў мой бок і працяла мяне вострым позіркам.— Мой муж,— яна пагардліва ўсміхнулася,— здаецца, адчувае вялікае давер'е да вашых дэтэктыўных здоль-

насцей, сеньёр Арэс. Ён загадаў даручыць вам пошукі забойцы.— Яна крыху пыхліва ўсміхнулася.— Ён нават сцвярджае, што вы ўжо напалі на след.— Сеньёра Рамераль зрабіла паўзу. У яе зусім не быў выгляд засмучанай жанчыны. Перавяла вочы на адваката, потым зноў на мяне.— Гэта праўда?

Хоць было не да месца, але мне вельмі захацелася пажартаваць.

— Так,— адказаў я.

— І каго ж вы падазраяце, калі не сакрэт?

— Вашага мужа.

Сеньёра Рамераль холадна на мяне зірнула:

— Ваш адказ вельмі засмуціць яго, сеньёр Арэс.

— Яго безумоўна... А вас?

— Якое нахабства! — разгневалася сеньёра Рамераль.

Усміхнуўшыся, я падняўся з крэсла. Выняў з кішэні канверт і, выцягнуўшы з яго адну паперку — пяцьдзесят песа, сказаў, аддаючы адвакату канверт:

— Гэта крэдытка эквівалентная таму часу, які вы прымусілі мяне змарнаваць, сеньёр Расалес.

Адвакат не ўзяў канверта. Усмешлівы твар яго зрабіўся сур'ёзны.

— Сядайце, калі ласка,— папрасіў ён.— Усё, што здарылася, вельмі сапсавала настрой сеньёры.

Я зноў апусціўся ў крэсла.

— І акрамя таго,— гаварыў далей Расалес, шматзначна зірнуўшы на гаспадыню,— адна непрыемная акалічнасць, якая не мае ніякага дачынення да нашай справы, настроіла сеньёру Рамераль супраць асоб вашай прафесіі. Даруйце ёй.

Я глянуў на гаспадыню. Твар яе быў белы, вусны пыхліва сцяты.

— Добра,— сказаў я.— Ганарар мой — трыццаць песа ў дзень, не лічачы выдаткаў.

— Мы згодны,— адказаў адвакат.— Сеньёр Рамераль загадаў мне не таргавацца.

— Тады вырашана. А зараз мне патрэбны некаторыя дадатковыя звесткі. Вы гаварылі з Каітай, служанкай, якая сведчыла супраць сеньёра Рамераля?

— Спрабаваў, але дарэмна. Яна знікла.

— Знікла?

— Я хацеў сказаць, не вярнулася дадому пасля таго, як яе адпусціла паліцыя. Я двойчы хадзіў да яе на кватэру. Ніхто з суседзяў пасля таго Каіты не бачыў.

— Чаму паліцыя так хутка адпусціла яе?

Адвакат усміхнуўся:

— Тайна юрыспрудэнцыі. Адзін суддзя прызначыў залог... і нехта адразу заплаціў.

— Я пагавару з ёю,— сказаў я.— Але мне здаецца, яна не хлусіць. Вядома, не заўсёды ведаеш, хлусіць чалавек ці не. Некаторыя добра ўмеюць гэта рабіць. Але старая збірае даніну з Рамераля... Чаму ж яна рэжа курыцу, якая нясе ёй залатыя яйкі?

— Магчыма, паліцыя заблытала яе, і яна міжволі зманіла,— выказала думку сеньёра Рамераль, крыху менш суровым тонам.— Адно вядома: мой муж цвёрда заяўляе, што жанчына гэтая лжэ.

— Усё можа быць,— прамармытаў я і падняўся з крэсла.

Адвозячы мяне на сваім «седане» ў атэль, Расалес пад сакрэтам сказаў:

— Сеньёра Рамераль хацела здабыць доказы, якія кампраметавалі б Рамераля, але наняты ёю дэтэктыў прадаў яе мужу.

— А-а!.. Яна хацела развесціся! Што гэта — рэўнасць?

— Я ведаю, што вы думалі, Арэс: Юлія магла б даць мужу такое алібі, што лепшага і не трэба. Але

той вечар і палову ночы яна з прыяцелькамі забаўлялася ў начным клубе на ўзмор'і...

Мне шкада стала Рамераля. Гэтулькі турбот і хітрыкаў, каб схаваць ад жонкі нейкую пісульку да Сусаны! У яго ж доме хавалася ліса!

— Думаю, цяпер ёй не патрэбны ўжо тыя доказы? — сказаў я, зірнуўшы на Расалеса.

— Не, цяпер ужо не. Скандал даў ёй усё, што трэба.

Мы пад'ехалі да майго атэля. Я адчыніў дзверцы і выйшаў з машыны.

— Я хутка з вамі звяжуся,— сказаў я, павярнуўся да Расалеса спіной і падняўся на ганак.

У вестыбюлі нікога не было. Парцье спаў за сваёй стойкай. Я глянуў на гадзіннік: было амаль дзве гадзіны ночы.

## 18. КАНДЫДАТ КАІТЫ

Я завязваў гальштук перад люстэркам, як раптам званок вывеў мяне з роздуму. Зацягнуўшы вузел, я адчыніў дзверы — на парозе стаяла Люмэй. На ёй быў шаўковы кітайскі халат; заплеценыя ў коскі валасы спадалі на плечы. Яе прыход прыемна здзівіў мяне. Увайшоўшы ў пярэднюю, яна пайшла да канапы і села. Вочы Люмэй блішчалі трывогай. Я падсеў да яе.

— Вы прачыталі маю запіску? — спытала Люмэй.

— Мне прачытаў яе ваш суайчыннік. Дзякуй за клопат, Люмэй, але я не думаю, што мне нешта пагражае.

— Не кажыце так, калі ласка,— у зрэнках яе бачэй цяпер ужо гарэў страх.— Вы самі не ведаеце, што гаворыце! Батлер задумаў забіць вас. Мне сказаў Лівонг.

— Хто гэта — Лівонг? Яго слуга?

— Слуга. Чалавек, які суправаджаў вас, калі я перадала вам запіску.

Я задуменна пазіраў на Люмэй. Здаецца, яна гаворыць шчыра. А можа, і маніць? Некаторыя жанчыны добра ўмеюць маніць.

— Усё тут вельмі заблытана, Люмэй. Мы з Батлерам заключылі пагадненне, а я, хоць пра мяне там рознае думаюць, заўсёды выконваю, што абяцаю тым, хто гуляе са мной сумленна. Навошта яму забіваць мяне?

— Не ведаю. О, каб я ведала! Вы чалавек вельмі даверлівы, а ён — хітрая бэстыя! Я баюся за вас.— Вочы Люмэй загарэліся, водар яе парфумы пачаў мяне хваляваць.

— Вы яго жонка?

— Я належу яму,— адказала Люмэй сумна.

...А другой гадзіне дня я выйшаў з атэля «Пакард». Дзень выдаўся без сонца, хмурны — з тых, якія не часта бываюць у Гаване. Над горадам навіслі цёмныя хмары, быццам у жалобу адзеўшы высокія будынкі, і на тварах людзей, што спяшаліся на работу, ляжала плёнка смутку, якім дыхала наваколле.

Ідучы ў рэстаранчык Ісаяса, я ўсю дарогу думаў пра Люмэй... Відаць, на нейкі момант я моцна заснуў, бо, калі прачнуўся, кітаянкі ўжо не было, толькі ва ўсім нумары засталіся відавочныя сляды вобыску.

Каля трох гадзін я ўвайшоў у дом, дзе здымала кватэру Каіта. Лесвіца была такая ж брудная, як і тады, калі я першы раз падымаўся па ёй. Некалькі разоў пастукаў у дзверы. Адказу не было. Я агледзеўся — у калідор выходзілі дзверы яшчэ дзвюх кватэр, адна насупраць, адна побач. Паспрабаваў сваю першую адмычку, потым другую. У калідоры пачуліся лёгкія крокі.

— Чаго вам? Каго шукаеце? — рэзкім, пранізлівым голасам, нібы пілавалі сухія дровы, запытала старая жанчына, якая ішла з ключом у руцэ, трымаючы пад пахай клунак нямытай бялізны.— Каіта пайшла... паляцела...— праскрыпела старая і, адамкнуўшы суседнія дзверы, увайшла і зачыніла іх за сабою. Я зноў узяўся за справу.

Чысціня пярэдняга пакойчыка рэзка кантраставала з агульнай занядбанасцю дома. Усё акуратна стаяла і ляжала на сваіх месцах. Парадак, што панаваў тут, недвухсэнсоўна сведчыў аб прафесіі Каіты. Толькі плакат — паясны партрэт сенатара Рамірэса з шырокай усмешкай на твары, які вісеў на сцяне, парушаў гармонію ўтульнага пакойчыка. Не спяшаючыся я ўважліва агледзеў усё, але нішто больш не прыцягнула маёй увагі.

Я ўвайшоў у спальню. На начным століку ляжаў стос агітацыйных лістовак — і на іх сенатар усміхаўся сваёй «шчырай усмешкай». Наконт таго, хто быў кандыдатам Каіты, сумненняў больш не было.

Я вярнуўся ў пярэднюю, сеў на крэсла, запаліў цыгарэту і задумаўся. Потым ускочыў на ногі, выйшаў у калідор і замкнуў за сабою дзверы. Можна было смела ісці ў заклад, што залог за Каіту ўнёс сенатар Рамірэс.

## 19. ЗАГАРАДНАЯ ВІЛА СЕНАТАРА

Ледзь толькі я выехаў на Цэнтральную аўтастраду, паліў дождж. За спіной засталася Гавана са сваімі жалезабетоннымі гмахамі, тлумам, куродымам, з чэравам, у якім гнездзіліся няшчасце і галеча. Машына прагна паглынала кіламетры. Гэтак жа раптоўна, як і пачаўся, дождж праз паўгадзіны перастаў. Непрыглядны пасёлак Каіты, які цягнуўся ўздоўж ша-

шы, аддаляўся ад мяне з хуткасцю восемдзесят кіламетраў у гадзіну, і з той жа хуткасцю набліжалася вотчына сенатара Рамірэса. Перадвыбарчая кампанія была ў поўным разгары: на самых прыкметных месцах віселі плакаты з усмешлівым тварам сенатара — на дрэвах, на сценах убогіх хат, на шчытах...

Я збочыў на галоўную вуліцу вёскі — усюды гразь, беднасць. Хаціна Каіты стаяла ў канцы пясчанай вулачкі — дошкі і чарапіца нейкім цудам трымаліся разам. На сцяне вісеў плакат: «Хочаце мець брук, каналізацыю, школу? Галасуйце за сенатара!..» Унізе — той жа ўсмешлівы твар, пад ім надпіс: «Грэгорыо П. Рамірэс».

Я двойчы пастукаў у дзверы. Выйшла нейкая старая. Я спытаўся пра Каіту, але старая не паспела адказаць. Сакрэтная служба сенатара была дзейсная і хуткая... За маёй спіной яго адданы служка Тамас некалькі разоў націснуў на сігнал свайго лімузіна.

— Сенатар жадае вас бачыць! — крыкнуў ён.

Старая зачыніла дзверы перад самым маім носам. Я павярнуўся і сеў у лімузін. З бакоў мяне ахоўвалі двое граміл.

За кіламетр ад вёскі Тамас выехаў на асфальтаваную дарогу, абапал якой раслі высокія пальмы. Неўзабаве пад'ехалі да варот, ля якіх стаялі два вясковага выгляду здаравякі. У канцы пад'язной алеі ўзвышалася загарадная віла Рамірэса. Пабудавана была, відаць, нядаўна, але ў стылі другой паловы дзевятнаццатага стагоддзя. Як і ў горадзе, сенатар жыў раскошна!

Прайшоўшы праз анфіладу пакояў, а потым праз калідор, мы апынуліся на люднай тэрасе, якая выходзіла на поўнач. Прыяцелі сенатара цешыліся адпачынкам на вясковым паветры ў прахалодзе. Адны гулялі ў більярд, пакладзены на вялікі стол, што быў заслапы аксамітам, другія курылі гаванскія цыгары,

абмяркоўваючы апошнія палітычныя навіны, астатнія абляпілі ўладарнага гаспадара, як рой мух мядовыя соты.

Убачыўшы нас, сенатар грозна бліснуў вачамі на Тамаса, зрабіўшы яму ледзь прыкметны знак рукой, і мы павярнулі да дзвярэй злева ад нас. Кабінет быў прасторны і ўтульны, з мяккімі крэсламі і вялікім пісьмовым сталом у куце. Я акінуў хуткім позіркам памяшканне. Яно было абсталявана з празмернай раскошай, да якой Рамірэс, відаць, быў вялікі аматар. Я адкрыў скрынку з цыгарамі, узяў адну і запаліў. Потым апусціўся ў крэсла. Тамас мне не перашкаджаў. Пасля нашай апошняй сустрэчы ў асабняку Рамірэса з яго сышла пэўная доля пыхі.

Сенатар увайшоў следам за нашым знаёмым — агентам «па сувязі з публічнасцю».

— Я буду сціслы, Арэс,— з парога прыступіў да справы сенатар. Потым прыпёрся задам да стала, абхапіўшы рукамі яго край. Я паволі выпусціў з рота шызаваты дым гаваны.— Да сённяшняга дня,— гаварыў сенатар,— я цярпеў, але, магчыма, дарэмна. Вы забыліся, Арэс, што ў любы момант я магу сцерці вас у парашок! — Ён надмацаваў свае словы энергічным узмахам рукі. Насупленыя бровы і палаючыя вочкі забаўна кантраставалі з яго тоўстым жыватом. Але Рамірэс не жартаваў... зусім не жартаваў. Відаць, быў цвёрда ўпэўнены, што аднаго руху яго рукі досыць, каб мне пераламалі косці.

Сенатар павярнуўся да стала, узяў са скрынкі цыгару і запаліў, перш адкусіўшы зубамі яе кончык. Потым абышоў стол і апусціўся ў крэсла. Яго агент таксама сеў. Толькі Тамас застаўся стаяць. Я ўвесь час маўчаў, чакаючы, што́ яшчэ скажа сенатар. Цыгара, відаць, крыху супакоіла яго. Мускулы твару расслабіліся, змякчыўшы суровасць яго позірку.

— Безумоўна,— зноў загаварыў ён, падняўшы

ўгору ўказальны палец,— у мае намеры і цяпер яшчэ ўваходзіць дагаварыцца з вамі. Толькі ведайце, Арэс: я не дазволю ўчыняць скандалу. Гэта справа вырашаная,— Рамірэс яшчэ раз зацягнуўся дымам цыгары.

— Магчыма,— умяшаўся агент,— мы маглі б дабіцца ўзаемаразумення, калі б сеньёр Арэс сказаў нам, чым выклікана яго жаданне пагаварыць з Каітай.

— Прычына вельмі простая,— расціснуў я нарэшце губы,— мне плацяць за гэта.

— Хто? — усхапіўся сенатар.

— Сям'я Рамераля.

— А-а... вось што... Значыць, вы збіраеце даніну не толькі з мяне... а яшчэ і з сям'і Рамераля. Вы гангстэр, Арэс!

Я зрабіў жэст удзячнасці, як чалавек, якога пахвалілі.

— А навошта вам з ёю гаварыць? — зноў умяшаўся Кантрэрас.— Усё, што ведае, яна ўжо расказала паліцыі.

— Ты так думаеш, дзетка? Тады чаму вы баіцеся, каб я з ёю не сустрэўся?

— Хто кажа, што мы чагосьці баімся?

— Я кажу.

Кантрэрас нервова павярнуўся да сенатара. Той глянуў на Тамаса.

— Пастойце ў калідоры,— загадаў ён яму і зноў скіраваў на мяне свой грозны позірк.— Так не можа працягвацца ўвесь вечар, Арэс. Лепш пагаворым адкрыта. Ваша праўда — я баюся, але не таго, пра што вы думаеце, бо я Сусаны не забіваў. Аднак набліжаюцца выбары, а становішча маё не такое ўжо трывалае. Прасцей кажучы, я не магу дазволіць сабе раскошы ўблытвацца ў гэту скандальную справу. Таму Каіта і хлусіла — гэта я яе прасіў. Яна... уся яе сям'я

лічыць сябе абавязанай мне за маленькія ласкі, якія я ім рабіў.— Мне раптам прыгадалася развалюха, якую я толькі што бачыў, і я ўсміхнуўся: якімі сапраўды маленечкімі былі яго ласкі...— Каіта,— гаварыў далей сенатар,— свядома хлусіла, але менавіта яна магла б пацвердзіць маё алібі, таму што мы разам з ёю пайшлі з дому Сусаны каля паловы восьмай. Ясна, што заявіць так азначала б ублытаць мяне ў гэту справу, і з павагі да мяне Каіта маўчыць.

— Калі праўда, што вы пайшлі адтуль каля паловы восьмай, значыць, вы апошні бачылі Сусану жывой. Чаму ж тады Каіта сцвярджае, што апошні бачыў яе Рамераль, які пакінуў яе дом каля сямі?

Сенатар на некалькі секунд задумаўся, потым націснуў на кнопку. Трымаючы правую руку за пазухай, у кабінет ледзь не ўляцеў Тамас. Я ўсміхнуўся.

— Паклічце сюды Каіту, Тамас,— загадаў сенатар і павярнуўся да мяне: — Яна сама вам усё растлумачыць.

Неўзабаве ўвайшла Каіта. Стрымала спалох, калі ўбачыла мяне, і падышла да пісьмовага стала.

— Што жадаеце, сенатар?

Рамірэс ласкава, амаль па-бацькоўску пяшчотна паглядзеў на яе.

— Прысядзь, Каіта.

Старая выбрала крэсла побач з Кантрэрасам. Села асцярожна, нібы баялася пакамечыць сваю добра адпрасаваную форму. З трывогай на твары чакала, што скажа сенатар.

Тым часам на фізіяноміі сенатара сканцэнтраваліся ўся слодыч і лагоднасць, якую рэкламавалі яго плакатныя фотапартрэты.

— Каіта, я хачу, каб ты расказала сеньёру Арэсу ўсё, што ведаеш пра смерць Сусаны.

Каіта здзіўлена ўтаропілася на яго — відаць, не зусім зразумела. Вусны яе бязгучна заварушыліся.

— Забудзься на тое, што гаварыла раней. Забудзься на сваю судовую прысягу. Цяпер я жадаю, каб ты гаварыла,— цвёрда сказаў сенатар.

Старая крыху пакруцілася на сваім крэсле, стараючыся не пакамечыць старанна адпрасаваных складак.

— Што вы жадаеце ведаць, малады чалавек? — спытала яна.

— Усё, што адбылося тым вечарам,— адказаў я.— Паспрабуйце таксама прыгадаць, ці здаралася раней што-небудзь такое, што мела б дачыненне да забойства вашай гаспадыні.

Каіта павярнулася да сенатара, чакаючы яго згоды, і той зрабіў ёй знак гаварыць.

— А пятай гадзіне прыйшоў сеньёр Рамераль,— пачала яна, задумліва прыклаўшы да вуснаў пальцы.— Ён не часта наведваў сеньёру, але заўсёды прыходзіў каля пяці і ішоў ад яе прыблізна а сёмай. Той раз пайшоў а палове сёмай.

— Відаць, Сусана сама яго папрасіла,— выказаў думку сенатар.— Я званіў ёй і сказаў, што прыйду пагаварыць адносна яе апошняга пісьма.

— А што было потым? — спытаў я.

— А сёмай прыйшоў сенатар.

— Цудоўна,— сказаў я, пазіраючы на Каіту,— Рамераль пайшоў, і прыйшоў сенатар. Што адбылося потым?

— Нічога,— адказала Каіта.

— Як — нічога?

— Нічога. Праз нейкі час сенатар выйшаў ад Сусаны і павёз мяне дадому ў вёску.

Я засоп.

— Давайце па парадку, шаноўная,— прабурчаў я.— Сенатар знаходзіўся ў спальні Сусаны...

— Правільна,— сказала Каіта.— Яны аб нечым спрачаліся.

— На высокіх танах?

Каіта зірнула на сенатара.

— Ага,— адказала яна, крыху павагаўшыся.

— Потым сенатар выйшаў, а Сусана засталася адна?

Старая сцвярджальна кіўнула галавой.

— Добра... так-так... я не збіраюся быць даносчыкам. Хачу толькі ведаць, ці выходзілі вы разам. Мне няважна, са спальні ці не. Але ці не здаецца вам, сенатар, крыху дзіўным, што вы пратэставалі супроць вымагання і спрачаліся не дзе-небудзь, а ў спальні?

— Як гэта ні здаецца дзіўным, але было так.

— Сусану забіў чалавек,— сказаў я,— які быў з ёю ў інтымных адносінах... Больш таго, усё гаворыць за тое, што яна некага чакала... Вы не ведаеце яшчэ каго з яе палюбоўнікаў?

— У Сусаны было некалькі,— адказала Каіта.— Але дома яе наведвалі нямногія: Рамераль, Падуа, Батлер, палкоўнік па імені Салінас, які даўно не прыходзіў, бо яго перавялі ў правінцыю Арыентэ, і Верцьентэс, гаспадар рулеткі.

— Сенатар падвёз вас дадому і паехаў?

— Не. Мы наведалі некаторых маіх аднавяскоўцаў, якія хацелі пабачыць свайго кандыдата.

— А якой гадзіне прыблізна скончыўся апошні візіт?

— Пасля дзевяці вечара.

— І ўвесь гэты час вы былі разам з сенатарам?

— Так.

— Чаму вы хлусілі паліцыі, няправільна назваўшы час, калі Рамераль пакінуў дом Сусаны?

— Я заблыталася.

Я ўзняў бровы і ўсміхнуўся:

— Вельмі дзіўна: вас не так лёгка заблытаць.

— Але так было,— рашуча пацвердзіла Каіта.—

Паліцыя закідала мяне пытаннямі, і я не ведала, што гаварыць. Сенатар прасіў мяне не называць яго, бо гэта магло пашкодзіць яго палітычнай кар'еры. Паліцыя хацела ведаць, хто ў той дзень быў у Сусаны, і толькі Рамераль пабываў там перад прыходам сенатара. А чаму ён не мог забіць сеньёру? Можа, хаваўся недзе і вярнуўся пасля таго, як мы пайшлі. Чаму ж ён даў мне дзвесце песа, каб я не гаварыла, што бачыла яго ў той дзень у доме Сусаны?

— Магчыма, па той жа самай прычыне, што і сенатар: баіцца скандалу.

— Гэта ён так кажа.

— І таму, што ён не сенатар, вы яму верыце?

— Арэс...— пачуўся голас Рамірэса.

— Так, так, сенатар, добра, я разумею. Дзякую, Каіта, гэта ўсё.

Перш чым падняцца з крэсла, Каіта вачамі папрасіла дазволу ў сенатара, потым выйшла з кабінета.

— Цяпер вы задаволены, Арэс?

— Не зусім, сенатар. Напрыклад: чаму яна працавала ў Сусаны?

— Сусана папрасіла мяне парэкамендаваць ёй сціплую жанчыну. Калі Каіта страціла месца, я ўзяў яе да сябе. Вельмі добрая служанка.

— У вас шмат падстаў сцвярджаць гэта. Для служанкі Каіта даволі кемная... Ну, думаю, мне час ужо ісці.

Сенатар крануў кнопку званка. Разам з Тамасам у дзвярах з'явіліся малойчыкі, якія суправаджалі нас у лімузіне.

— Вы не выйдзеце адсюль, Арэс, пакуль мы не будзем ведаць вашых намераў. Як я ўжо казаў, я не магу дапусціць, каб імя маё было ўблытана ў гэтае скандальнае забойства. Я не збіраюся ўжываць супраць вас сілу... калі вы толькі, вядома, не пакінеце мне іншай альтэрнатывы.

Я зноў сеў і склаў рукі на грудзях.

— Гэтага рабіць я вам не раю,— сказаў я.

Вочкі Рамірэса зрабіліся зусім маленькія.

— Таму не прымушайце мяне, Арэс,— працадзіў ён скрозь зубы.— Што вам да гэтай Сусаны? Нічога! І думаю, вам няважна, якая рука дае вам грошы, абы яны не былі фальшывыя. Давайце заключым пагадненне. Вы шукаеце забойцу, і мне на гэта напляваць. Толькі не ўмешвайце маё імя. Вось, трымайце.

— Вы, здаецца, забыліся,— сказаў я, засоўваючы грошы ў кішэню,— што прэса змясціла пэўны каментарый, які датычыцца вас.

— Якраз гэтым мы цяпер займаемся,— сенатар ашчэрыўся цынічнай усмешкай.

— Ясна,— прамармытаў я,— у нас усё прадаецца... Хай мне аддадуць пісталет. Мне час ісці.

— І... я веру вашаму слову.

— Калі не вы забілі яе, я слова стрымаю, але запомніце: трупамі я не гандлюю.

Сенатар задаволена пацёр рукі.

— Вярніце яму пісталет, Тамас,— загадаў ён.

Тамас аддаў мне мой люгер, і я праверыў патроны.

— Падвязіце мяне ў вёску — там мая машына,— папрасіў я.

— Яна ўжо тут,— сказаў Тамас.

— Вось гэта абслуга! — пахваліў я.— Цудоўная!

Я накіраваўся да дзвярэй, але сенатар паказаў мне на бакавыя:

— Калі ласка, сюды, Арэс.

Суседні пакой аказаўся бібліятэкай. Наперадзе ішоў Тамас, ззаду — грамілы з панурымі тварамі. З бібліятэкі мы выйшлі ў калідор і апынуліся ў холе.

Ля варот я ўбачыў свой «шаўрале». Абапал варот стаялі два здаравякі, што ахоўвалі ўладанні сенатара. Адзін паслужліва падышоў да мяне, пры-

няўшы, напэўна, за аднаго з шыкоўных гасцей сенатара.

— Сеньёр чаго-небудзь жадае? — лісліва сказаў ён.

Я знарок задумаўся, а потым запытаў:

— Скажыце, вы не бачылі — сеньярыта Рамірэс паехала ўжо?

— Сеньёр памыляецца: сеньярыта Рамірэс сёння не прыязджала.

Менавіта гэта я і хацеў ведаць. «Дзякую»,— адказаў я і націснуў на акселератар.

Праз гадзіну я спыніў машыну каля асабняка сенатара на Пятай Авенідзе. Маладая служанка папрасіла мяне пачакаць у прасторнай гасцінай і пайшла клікаць сеньярыту. Праз некалькі мінут пачуўся звонкі, вясёлы голас Глендыі:

— Ах, Арэс! — Яе простае ўбранне падкрэслівала чароўнасць стройнай постаці.

Я падняўся з крэсла і таксама радасна ёй усміхнуўся.

— Які злы дух прывёў вас сюды? — Твар Глендыі смешна скрывіўся.

— Чаму абавязкова злы?

— Не ведаю. У вас такая слава... Сядайце.

— Справа ясная: я прыйшоў таму, што тут можна пацешыць вока самай чароўнай дзяўчынай у Гаване...

— Проста вы згараеце ад нецярплівасці даведацца пра вынікі маёй праверкі.

— Прабачце, я зусім забыўся на тое, што вы вывучаеце псіхалогію... ці нешта накшталт гэтага. Спадзяюся, у вас не было непрыемнасцей?

— Ніякіх. Расказ Падуа праўдзівы. За выключэннем адной дэталі, якую я не змагла праверыць, усё астатняе — чыстая праўда. Вядома, я не ведаю, ці даваў ён грошы Сусане для ўдзелу ў аукцыёне.

5. Зак. 1877

Але карціну ён сапраўды купіў у Францыі ў якасці вясельнага падарунка жонцы, а яна ахвяравала яе потым царкве. Айцец Ісмаэль, адзін з арганізатараў аукцыёну, цвёрда запэўніў мяне ў гэтым.

— А што вы мелі на ўвазе, калі сказалі: «за выключэннем адной дэталі»? Якой?

— Ні ў кога з тых, з кім я размаўляла, не ўзнікала нават і ценю падазрэння, што карціна несапраўдная.

— Значыць, расказу Падуа можна паверыць?

— Я, напрыклад, веру!

— Шчыра дзякую. Вы зрабілі мне вялікую паслугу.

Гленда правяла мяне да дзвярэй і там задала пытанне, якое, напэўна, увесь час круцілася ў яе на языку:

— Арэс, не вы ўкралі карціну, не?

— Што вы! Вядома, не! — усклікнуў я.— Няўжо ў мяне твар злодзея?

Каб канчаткова праверыць алібі сенатара, я зноў паехаў у вёску, дзе жыла Каіта. Гаварыў шмат з кім з яе аднавяскоўцаў. Усе пацвердзілі: прыблізна ў той час, калі забілі Сусану, сенатар Рамірэс агітаваў іх галасаваць за яго на выбарах у сенат. Значыць, трэба выкрасліць сенатара са спісу магчымых забойцаў.

## 20. БІЛЕТЫ?

Каля дзесяці вечара я прыйшоў да сябе ў кантору. Неўзабаве пазваніў тэлефон. Я ўзяў трубку і пачуў скажоны, глухі голас — відаць, гаварылі праз класічную хустачку: «Калі не пакінеце займацца справай Сусаны, вам — смерць. Тэрмін канчаецца

заўтра». Паклаўшы трубку, я разваліўся ў крэсле і глыбока задумаўся. Раптам ніць маіх думак перарваў грымотны стрэл. Не паспеў я апамятацца, як у калідоры грымнулі яшчэ два стрэлы. Я схапіў люгер і выскачыў у пакой для чакання якраз у той момант, калі спружынныя дзверы з сілай расчыніліся і туды ўляцеў Верцьентэс. Ён хацеў нешта сказаць, але з рота хлынула кроў, і ён, як мёртвы, паваліўся на падлогу.

Я пераскочыў цераз цела і кінуўся ў калідор — там нікога не было, але лямпачка на кабіне ліфта, які апускаўся, падказала мне, дзе забойца. Я панёсся ўніз па лесвіцы і праз імгненне апынуўся на першым паверсе. Аднак кабіна апусцілася ў цокальны паверх. Я зразумеў намер забойцы: ісці праз галоўны пад'езд было небяспечна, і ён, напэўна, зрабіў тое ж, што і я той ноччу, калі хацеў захапіць знянацку карліка, які цікаваў за вокнамі майго кабінета. Шанцы былі супраць мяне, але можа было паспрабаваць адрэзаць яму шлях, калі ён выйдзе з суседняга будынка. З пісталетам у руцэ я пабег па тратуары, не зважаючы на прахожых, якія спалохана шарахаліся ў бакі. Але я спазніўся: маленькі чалавечак збіў з ног нейкую жанчыну і памчаўся да машыны, якая стаяла на 25-й вуліцы. Калі ён дабег да яе, гнацца за ім не было ўжо сэнсу.

Я вярнуўся ў кантору і ўважліва агледзеў Верцьентэса. Ён ляжаў на спіне пасярод пакоя. Я бачыў нямала мерцвякоў, і медыцынскае заключэнне мне было непатрэбна. Аднак, хоць я быў моцна ўзрушаны ўсім, што адбылося, я ўсё ж заўважыў, што Верцьентэс ляжаў цяпер не так, як упаў. Можа, каб я не пабег...

Раптам я страпянуўся — убачыў у руцэ Верцьентэса вечную ручку. Што гэта значыць? Апошнім намаганнем волі ён хацеў напісаць мне тое, што меў

намер сказаць, калі ішоў да мяне? Я глянуў на другую руку, і ў мяне моцна застукала сэрца. Я расчапіў яго пальцы і выцягнуў паперку — на ёй было нешта накрэмзана. Але прачытаць я не паспеў: у калідоры пачуліся цяжкія крокі, і я хуценька схаваў запіску ў кішэню, і якраз у пару — на парозе стаяў паліцэйскі.

Хвілін праз трыццаць прыйшоў Гастон. Здзеклівая ўсмешка размыла яго спярэшчаны шрамамі твар. Стоячы ў дзвярах, ён пераводзіў позірк то на мяне, то на Верцьентэса. Потым увайшоў у памяшканне, следам за ім парог пераступіў ягоны цень — сяржант Гансалес. Яны схіліліся над забітым. Усе маўчалі — цішыню парушала толькі лёгкае парыпванне спружын на фортках дзвярэй.

З прафесійнай абыякавасцю Гастон агледзеў труп. Выняў з кішэняў Верцьентэса ўсе паперы, памацаў пальцамі тонкі муслін яго пінжака. Тады ўзняў вочы і, сурова ўскінуўшы бровы, запытаў:

— Хто гэта?

Проста смех! Лейтэнант паліцыі, а прыкідваецца, што не ведае ўсім вядомага гаспадара ігральнага дома...

— Вы не ведаеце яго? — яхідна спытаў я.— Верцьентэс, гаспадар рулеткі.

Гастон зразумеў тайны сэнс маіх слоў, і я ўсміхнуўся проста ў яго пагрозлівы твар.

Усе ведалі, што гульня ў рулетку была забаронена. Але такім, як Гастон, на гэта было напляваць. Усе яны, ці амаль усе, атрымлівалі долю з прыбыткаў у залежнасці ад прыступкі, якую яны займалі на іерархічнай лесвіцы. Ніхто не заставаўся без «кавалка» — на ўсіх хапала.

Працяўшы мяне знішчальным позіркам, Гастон зноў заняўся забітым. Перавярнуў цела спіной угору. У ёй былі тры дзіркі.

— Выдатная работка, Арэс! — ухмыльнуўся Гастон і сказаў свайму падначаленаму: — Як табе падабаецца, Гансалес? Някепска, га?

— Нічога не скажаш,— азваўся той.— Думаю, гэты раз сеньёру Арэсу давядзецца шмат чаго нам растлумачыць.

— Здаецца, што так,— пагадзіўся Гастон, па-інквізітарску свідруючы мяне вачыма.— Аднак лепш увойдзем у кабінет, так, Арэс?

Я пацінуў плячамі. Гэтыя шпегі груба памыляюцца і ведаюць, што памыляюцца. Але, відаць, прымаюць мяне за прасцяка, а можа, за каго і яшчэ горшага.

— Як жадаеце,— адказаў я і адчыніў перад імі дзверы.

Гастон апусціўся на крэсла каля стала, Гансалес заняў другое. Я сеў у сваё і пачаў чакаць. Абодва паліцэйскія ўтаропіліся на мяне. Я моўчкі закурыў.

— Мы з нецярплівасцю чакаем вашага расказу, сеньёр Арэс,— сказаў Гастон, не перастаючы працінаць мяне позіркам.— Можа, вы думаеце, што мы збіраемся тут начаваць?

— Няўжо вы на самай справе думаеце, што я забіў гэтага чалавека? — абурана запытаў я і перадаў Гастону свой пісталет.— Праверце, ці ёсць на ім сляды нядаўніх стрэлаў.

Гастон панюхаў дула і кінуў люгер на стол.

— Гэта нічога не значыць,— хмура буркнуў ён.— Вы маглі страляць і з іншай зброі.

— Мог. Але не страляў. Можаце пашукаць, і вы знойдзеце тут і іншыя пісталеты. Але з ніводнага я не страляў.

— Што ж тады азначае гэты труп на вашым парозе? — спытаў Гансалес.

— Верцьентэс быў адным з палюбоўнікаў Сусаны,— паясніў я.— Калі мне прышылі яе забойства,

я яго распытваў, і ў яго аказалася беззаганнае алібі. Я ўжо і забыўся пра яго, як раптам бачу ў дзвярах, зрашэчанага кулямі. Хацеў, напэўна, мне нешта сказаць, але яму не далі. Я праследаваў забойцу аж да 25-й вуліцы, і там ён выслізнуў з маіх рук — яго чакала машына.

На твары Гансалеса адбілася сумненне.

— Як выглядае забойца? Можаце даць яго прыкметы?

— Твару яго я не разгледзеў,— адказаў я.— Маленькі чалавечак, амаль карлік.

— Вы ўпамянулі алібі,— умяшаўся Гастон.— У чым яно?

— У дзень забойства Сусаны Верцьентэс знаходзіўся ў Мексіцы.

У задуменні Гастон ссунуў пальцам свой капялюш на патыліцу. Потым зняў тэлефонную трубку, набраў нумар паліцэйскай управы і ўладным тонам загадаў звязацца з медыцынскім экспертам і следчым, наведаміў мой адрас і павесіў трубку.

— Добра, Арэс,— сказаў ён.— Бярыце капялюш і паедзем ва ўправу.

Гэты сышчык мне ўжо здорава надакучыў, і я ледзь стрымаўся, каб не паслаць яго к чорту. Спакойна ўзяў свой капялюш і выйшаў услед за ім. Гансалес застаўся сядзець, сузіраючы колцы цыгарэтнага дыму.

У паліцыі Гастон не траціў са мной марна часу. Мяне адразу павялі ў лабараторыю, каб праверыць, ці ёсць на маіх руках рэшткі парахавых газаў. Ноч я правёў на няўтульным ложку за кошт дзяржавы. Раніцай без вялікіх цырымоній мяне адпусцілі.

Апоўдні, седзячы ў сваім нумары, я зразумеў, што ў мяне з'явіўся новы клопат. У запісцы Верцьентэса былі надрапаны толькі два словы: «Білеты, Арэс». Як я ні круціў мазгамі, словы гэтыя нічога мне не га-

варылі. «Нічога, у выніку — нічога...» — шаптаў я, прыгадаўшы доктара Фаўста і яго пошукі ісціны. Нарэшце скамечыў запіску і кінуў у кошык пад сталом.

## 21. ЛЮМЭЙ РАСКРЫВАЕ КАРТЫ

А чацвёртай гадзіне я выйшаў з машыны на 12-й вуліцы. Ліфцёр перадаў мне тэлеграму з Сан-Францыска:

«Хуглару Арэсу
Прыватнаму дэтэктыву
Будынак «Атлантык», рог вул. 12-й і 23-й авеніды
Гавана, Куба

Існаванне Лонгаў пацвярджаецца. Дабрачыннае таварыства ўзаемадапамогі ўсходніх людзей. Асцерагайцеся ашуканства. Свяшчэнная урна выдумка. Прывітанне.

Весан і Даган
Прыватныя дэтэктывы».

Я падняўся да сябе ў кантору. У пакоі для чакання сядзела Люмэй. Калі ўбачыла мяне, у яе чорных раскосых вачах успыхнула радасць. Дзяўчына паднялася з канапы. Ад яе шаўковай сукенкі, якая шчыльна аблягала тонкі стан, моцна пахла парфумай. Імгненне павагаўшыся, Люмэй падышла да мяне і працягнула мне руку.

— Я даўно вас чакаю,— прашаптала яна на сваім амерыкана-кітайскім жаргоне.

Я ўсміхнуўся ёй і таксама падаў руку.

— Калі б я ведаў, не прымусіў бы вас чакаць,— адказаў я, адмыкаючы дзверы ў кабінет.— Трэба было папярэдзіць. Уваходзьце.

— Вы ж ведаеце, што я не магу гэтага зрабіць.

З дому мне можна выходзіць толькі з дазволу Батлера,— паскардзілася Люмэй.

Я замкнуў на ключ дзверы і намерыўся абняць яе.

— Калі ласка, не трэба,— холадна, але прыязна сказала дзяўчына.— Толькі не гэта. Не цяпер.

Люмэй падышла да канапы і села.

— Прабачце,— адказаў я.— Зусім забыўся, што вы належыце Батлеру. Ён вас купіў?

— Не,— усміхнулася Люмэй.— Я прысягнула яму. Але вы гэтага не можаце зразумець. Наша таварыства перадало мяне яму ў якасці служанкі-нявольніцы. У нас ёсць такі стары звычай,— зноў сумна ўсміхнулася дзяўчына.— Традыцыі не старэюць!

— Я ўжо чуў пра гэта таварыства,— буркнуў я, прысеўшы каля яе на канапу.— Лонгі, ці не так?

Кітаянка злосна бліснула вачыма:

— Напэўна, вам Батлер расказаў?

— Так, сёе-тое расказаў, што знайшоў патрэбным.— Я ва ўпор паглядзеў на яе, і яна заміргала вейкамі.— Тое, што ён расказаў мне, падобна на казку для маленькіх... Можа, вы дапоўніце?

Люмэй адхінулася ад мяне, відавочна пакрыўджаная, і нейкі час гнеўна маўчала, упіўшыся ў мяне позіркам. Потым твар яе крыху памякчэў.

— Мне не падабаецца ваш тон, Арэс,— з дакорам сказала Люмэй.— Я... я прыйшла да вас прасіць прабачэння, а вы робіце маю задачу цяжкай.

— Прасіць прабачэння? За тое, што ўчынілі вобыск у маім нумары?

— Батлер прымусіў мяне.

— Гэта вы лічыце прабачэннем?

— Я... хацела сказаць... Арэс, калі ласка! Што вы хочаце пачуць ад мяне?

— Праўду. Вы абшукалі маю кватэру не па прымусу, а па сваёй добрай волі.

— Божа мой! — вялікія вочы Люмэй зрабіліся яшчэ большымі ад прытворнага спалоху.— Як вы можаце так гаварыць?

Я пасунуўся да яе і з сілай прыцягнуў да сябе. Люмэй не супраціўлялася — прыпала да мяне, прыадкрыўшы вільготныя вусны, і яе вочы загарэліся страсцю. Але з той жа сілай, з якой прыцягнуў яе да сябе, я адштурхнуў кітаянку.

— Гэтак, любачка, мы далёка не заедзем,— сказаў я.— Лепш пагаворым пра кітайскую казку.

Люмэй млява прашаптала:

— Вы заўсёды такі злосны?

— Не. Толькі калі хачу пачуць кітайскую казку.

— А Батлер? — ледзь чутна спытала Люмэй і слаба ўсміхнулася.— Калі я раскажу праўду, то парушу прысягу вернасці.

— Не будзьце такой разважлівай. Батлер і так ужо, думаю, вас падазрае.

— Падазрае мяне? — цяпер ужо ў вачах кітаянкі стаяў сапраўдны страх.— Што ж, можа, і так... бо апошні час ён пачаў паводзіць сябе неяк дзіўна. Але чаму вы так упэўнены, што я яму здрадзіла?

— Такі вывад няцяжка зрабіць,— сказаў я, пацiснуўшы плячыма.— Думаю, Батлер мала каму давярае... ці давяраў. Адзін з іх выдаў яго Шасціпальцу і назваў яму сапраўдную цану Свяшчэннай урны... калі, вядома, Батлер не схлусіў і урна сапраўды такая каштоўная.

Люмэй рашуча пацвердзіла:

— Ён сказаў праўду.

— Цзыньлі,— гаварыў я далей,— ці як яго... Вонлі, безумоўна, карыстаецца поўным давер'ем у Батлера, а такая лісіца, як Батлер, наўрад ці падзеліцца сваімі тайнамі больш як з двума чалавекамі, дый то сумняваюся. Калі Вонлі не здрадзіў, значыць, здрадніца — вы. Я па-майстэрску скрывіў губы ўсмешкай.

Люмэй бліжэй падсунулася да мяне, пранізваючы мяне позіркам. У вачах яе заззяў чараўнічы бляск. Раптам яна прыціснула свае вусны да маіх, імкліва адхіснулася і, скоса пазіраючы на мяне, прашаптала:

— Я... пацалавала... вас... таму што не магла перамагчы жадання. Не падумайце, што я хацела гэтым неяк паўплываць на вас... І ўсё ж хачу зрабіць вам прапанову... Чыста дзелавую прапанову,— Люмэй узяла маю руку і правяла па сваіх вуснах.

— Тады не ўплывайце,— сказаў я.— Паслухаем, што за прапанова.

Люмэй задуменна пакусала губу.

— Дайце, калі ласка, закурыць,— шэптам папрасіла яна.

Я даў ёй цыгарэту і паднёс запалку. Кітаянка засяроджана выдыхнула дым, адвёўшы ўбок позірк. Раней я не бачыў, каб яна курыла. Нарэшце сказала:

— Перш за ўсё хачу, каб вы ведалі, што урна ацэньваецца вельмі дорага. Можа, нават даражэй, чым сказаў вам Батлер... Якую суму ён назваў?

— Сто тысяч,— адказаў я.— Вядома, не лічачы яе каштоўнасці як гістарычнай рэліквіі... Але гэта ва ўзнагароду не ўваходзіць, калі яна трапіць у рукі каго з вашых.

— Сто тысяч? Так ён сказаў? — усміхнулася Люмэй.— Наша арганізацыя заплаціць паўмільёна таму, хто прынясе яе непашкоджанай.

Я паспрабаваў усміхнуцца, але мне ўдалося толькі скрывіць скептычную міну.

— Вы мне не верыце, Арэс?

— Трэба падумаць... Вельмі лёгка абяцаць. Паўмільёна — цэлая гара грошай.

— Значыць, вы не верыце?

— Веру, веру. Я вельмі даверлівы. Але як вы

думаеце, што будзе, калі я, напрыклад, знайду гэту урну і папрашу ўзнагароды? Гэта ж паўмільёна доларaў! Ці існуе якая легальная форма выплаціць іх?

— Безумоўна, не: Лонгі — тайная, забароненая ў Злучаных Штатах арганізацыя. Але я магу развеяць вашы сумненні: законы ў Лонгаў цвёрдыя, Лонгі не парушаюць сваіх абяцанняў... акрамя таго выпадку, калі чалавек, які прынясе урну, замяшаны ў яе крадзяжы... як, напрыклад, сеньёр Батлер.

Яе апошнія словы мяне зусім не здзівілі — я ўжо сам пачынаў падазраваць Батлера ў гэтым.

— Раскажыце больш падрабязна,— папрасіў я, адкінуўшыся на спінку канапы і закурыўшы.

— Як я зразумела, вы ўжо сёе-тое ведаеце пра паходжанне урны і пра тое, як яна апынулася ў Амерыцы. Таму пра гэта я гаварыць не буду. Пад маскай халоднай дзелавітасці Батлер хавае неўтаймаваны азарт калекцыянера. Ён не мог пераадолець спакусы авалодаць свяшчэннай рэліквіяй, хоць і ведаў, з якой небяспекай гэта звязана. З гэтай прычыны, а таксама з намерам адвесці ад сябе падазрэнне, ён прапанаваў устанавіць «святую долю выкупу» — гэта значыць, суму грошай, якую абавязаны ўнесці ў касу арганізацыі кожны яе член, каму даверана тайна прапажы. Напачатку сабраныя грошы ішлі на аплату тайных агентаў, што гойсалі па ўсім свеце ў пошуках урны. З цягам часу , калі іх намаганні — у аднаго за другім — канчаліся няўдачай і колькасць агентаў паступова меншала, у скарбонцы арганізацыі сабралася неймаверна вялікая сума грошай — больш за паўмільёна долараў.

Люмэй замаўчала, і я ямчэй усеўся на канапе.

— Здаецца, я ўжо вам надакучыла,— з крыўдай у голасе сказала дзяўчына.

— Наадварот, любачка, я вас уважліва слу-

хаю,— адказаў я, няспешна расціраючы акурак аб попельніцу.

— Крадзеж быў добра арганізаваны,— зноў загаварыла Люмэй,— але некаторыя дробныя акалічнасці накіравалі падазрэнне на Батлера. Аднак, грунтуючыся толькі на падазрэнні, нельга абвінаваціць у крадзяжы члена арганізацыі, ды яшчэ такога, як ён: сеньёр Батлер уваходзіць у склад Вышэйшага Савету. Час ішоў. Сеньёр Батлер атрымаў мяне ў якасці служанкі-нявольніцы — у Лонгаў, хаця і ў вялікай тайне, захаваўся гэты тысячагадовы звычай.

— А як... з законам? — здзівіўся я.

— З якім законам?

— З тым, што карае за гэта. Заўсёды знойдзецца хто-небудзь, хто ўзбунтуецца.

— У некаторых рэчах вы, людзі заходнія, занадта хітрамудрыя,— нявесела ўсміхнулася Люмэй.— Члены нашай арганізацыі людзі паважаныя, багатыя і ўплывовыя. Яны жэняцца, жывуць нармальным жыццём з усімі ўцехамі і радасцямі і маюць адну ці больш нявольніц. Кормяць іх, апранаюць, чаму-небудзь вучаць, каб было каму ўпрыгожыць іх вольны час. Здараецца і так, што нявольніца заваёўвае сэрца свайго гаспадара, і ён бярэ яе за жонку, як гэта, напрыклад, здарылася са мной і з сеньёрам... Пасля шлюбу каставыя перагародкі знікаюць, і былая нявольніца робіцца паўнапраўным членам арганізацыі Лонгаў.

Я пільна паглядзеў на яе. Зрэнкі яе вачэй колеру яшмы гарэлі спакушальнай страсцю. Я рэзка падняўся з канапы, падаўся да стала, зрабіў выгляд, што парадкую паперы, потым падышоў да акна. Люмэй неадступна сачыла позіркам за маімі перамяшчэннямі.

— Усё, што вы тут гаварылі, прагучала малапераканаўча,— сказаў я.— І не дзіва! Гэта ж гава-

рыла жанчына, якая свайго мужа называе гаспадаром — «сеньёрам».

— Гэтая звычка засталася ў мяне ад тае пары, калі я была нявольніцай.

— Ну добра. Яны западозрылі Батлера, але нічога не маглі даказаць... Чаму?

— Сеньёр Батлер... гэта значыць, мой муж,— паправілася Люмэй,— пераправіў урну на Кубу і, ведаючы, якая пагражае яму небяспека, калі б урну знайшлі ў яго доме, прадаў яе Сусане як не вельмі каштоўную рэч... я хацела сказаць — не такую каштоўную, каб выклікаць у Сусаны падазрэнне, і не такую танную, каб ёй не захацелася яе мець. Да таго ж права на ўладанне урнай, якое Батлер паказаў Сусане, несапраўднае. Проста спрытная падробка — мой паважаны муж вялікі майстар на такія штукі.

Я падышоў да кітаянкі.

— І гэта ўсё? — прашаптаў я, праводзячы вуснамі па шчацэ Люмэй. Яна крыху ўздрыгнула ўсім целам і павярнулася да мяне — чорныя як смоль вочы сталі яшчэ больш спакушальнымі.

— Ты мне не верыш?

— Чаму ж? Я табе веру,— прамармытаў я, таксама перайшоўшы на «ты», і зноў дакрануўся вуснамі да яе шчок.

— Зірні на мяне! — ледзь чутна прагаварыла Люмэй.— Няўжо я здольна табе лгаць?

— Здольна!

— Тады бывай! Тое, што я прыйшла табе прапанаваць, можна прапанаваць толькі чалавеку, які мне давярае. Ты не той чалавек!

Люмэй памкнулася падняцца з канапы, але я ўтрымаў яе.

— Паслухай, каханенькая, я раскажу табе больш праўдзівую казачку,— я падышоў да стала, запаліў цыгарэту, прагна зацягнуўся і выпусціў дым.— Вам

з Батлерам стала вядома, што ў Сусаны ёсць нейкая вельмі каштоўная рэч. Якая іменна? Гэта няважна. Нейкая рэч, вартасць якой пераважвала рызыку, звязаную з яе крадзяжом. У самы апошні момант Батлер збаяўся і звярнуўся да паслуг Шасціпальца. І тут узнікла перашкода. Батлер не мог сказаць яму праўду — маўляў, у спальні Сусаны ёсць скрыначка, у якой ляжыць такая вось рэч,— раздабудзь яе. Як жа прымусіць Шасціпальца паверыць, што гэта скрыначка сама па сабе дарагая для Батлера? Казкай пра Лонгаў! Фантазія ў Батлера бязмежная. Легенда пра Лонгаў варта яго генія і нават мяне захапіла. Думаю, таксама і Шасціпальца. Чаму не? Сюжэт цудоўна распрацаваны і надзвычай праўдападобны.— Я зноў падсеў да кітаянкі і пяшчотна пагладзіў ёй вушка.— Цябе можна павіншаваць. Вы з Батлерам цудоўная пара!

— Былі.

— Ага, былі. Я і забыўся, што цяпер ён падазрае цябе ў здрадзе. Хаця, думаю, табе доўга яшчэ ўдасца маскіравацца.

— Настолькі фальшывай ты мяне лічыш?

— Нашмат больш,— пяшчотна прашаптаў я.

Люмэй крыху адсунулася ад мяне, нешта задумліва мармычучы. Каварны агеньчык у яе вачах саступіў месца жартаўлівай шчырасці.

— Ты непапраўна недаверлівы тып,— сказала Люмэй, нявінна перавёўшы позірк на квяцістыя разеткі сукенкі. З хвіліну мы маўчалі. Я пільна пазіраў на яе, а яна абводзіла пазногцем указальнага пальца абрысы разетак. Не ўзняўшы вачэй, сказала: — Чаму ты думаеш, што я хлушу?

Я выняў з кішэні тэлеграму і паднёс да яе вачэй.

— Твая праўда,— не сумеўшыся ўсміхнулася Люмэй.— Я так часта паўтарала гэтую хлусню, што сама пачала ўжо верыць ёй. Але з таго, што я ведаю

пра цябе, не думаю, каб ты быў надта шакіраваны. Ты ж сам не чысцюля, га?

— Не чысцюля,— пагадзіўся я.— Але скажы мне: ёсць хоць якая доля праўды ў байцы пра Лонгаў?

— Ёсць — некаторыя гістарычныя факты... Але, хоць Батлер мне не гаварыў, я ўпэўнена, што ён недзе выкраў нейкі каштоўны прадмет культу. А грашовая ўзнагарода — яго выдумка.

— Шчыра скажы: Батлер твой муж?

— Не. Убачыў мяне на кірмашы ў кітайскім квартале Сан-Францыска. Намаляваў мне цудоўную карціну будучага жыцця, і я пайшла за ім. Не таму, што паверыла яго словам, а таму, што там мне ўжо абрыдла жыць. Батлер быў геданістам, жыў у раскошы, і гэта прывабіла мяне. Для мяне не было нечаканасцю, што ён аказаўся махляром. Усе мужчыны для мяне ашуканцы.— Люмэй адкінула галаву на спінку канапы, задуменна ўтаропіўшы вочы ў столь.— Дай, калі ласка, яшчэ адну цыгарэту.

Люмэй з асалодай зацягнулася і выпусціла дым.

— Я не надакучыла яшчэ табе? Мужчын я не паважаю. Вядома, ёсць выключэнні, ды ты да іх ліку не належыш. Але ў вас у абодвух разам — у цябе і ў Батлера — ёсць якасці, якія я мару сустрэць у мужчыне. Ты бясстрашны, рашучы, і я падазраю, што небяспека прыносіць табе нават радасць. А Батлер — чалавек адукаваны, вытанчаны, але баязлівец. Па яго віне з нашых рук выслізнула тое, што Сусана хавала ў урне. Я прасіла яго, маліла, угаворвала не пасылаць Шасціпальца па урну. Мы ведалі, дзе яна знаходзіцца, і задача была толькі ў тым, каб прабрацца ў спальню Сусаны і прывесці ў дзеянне сакрэтны механізм. Урну мы ведалі добра: Сусана купіла яе ў нашым магазіне.— Люмэй кінула недакурак і павярнулася да мяне.— Усё было так проста. Ты б не пабаяўся, праўда? А Батлер пабаяўся. Я ха-

цела сама пайсці, але ён не дазволіў. Батлер — самы апошні баязлівец. Шкада!

— Можа, ён не баязлівец, а проста разважлівы чалавек. Я адкрыў патаемнае аддзяленне яшчэ да прыходу Шасціпальца, і там нічога не было, акрамя інтымных пісьмаў да Сусаны.

Люмэй зноў прытулілася да спінкі канапы.

— Яно так...— прашаптала яна.— Я сама бачыла, як Сусана паклала туды, калі... калі атрымала паведамленне. Ты націснуў на механізм, які адкрываў першы тайнік. Адзінае яго прызначэнне — збіць са следу... А каб ты яшчэ паспрабаваў...

— Значыць, ты думаеш, што рэч гэтая ў Шасціпальца, але ён нічога не ведае пра яе існаванне?

— Я не думаю, а ўпэўнена, што гэта так. Калі толькі ты нас не апярэдзіў і яна не ў цябе. Але такая магчымасць малаверагодная, і я нават не бяру яе пад увагу.

— Чаму яна такая ўжо малаверагодная? Я ўзяў скрыначку ў рукі і націснуў на патаемную спружыну...

— Не, даражэнькі, той рэчы ў цябе няма. Калі б яна была ў цябе, ты даўно б ужо меў справы з намі. Пакуль мы жывыя, за гэту рэч немагчыма атрымаць і медзяка. Аднаго слова Батлера ці майго было б дастаткова, каб перашкодзіць табе.

— Ну добра, у мяне яе няма. Дык што ты хочаш?

— Хачу здабыць гэтую рэч. Некалькі разоў мне ўдалося сустрэцца з Хуанам Шасціпальцам, і, здаецца, ён крыху паддаўся маім чарам...— Люмэй хітравата ўсміхнулася.— Але на адно гэта спадзявацца нельга. Мне патрэбна дапамога чалавека мужнага, рашучага. І гэты чалавек — ты.

— Не будзь вельмі ўпэўнена.

— Няўжо перада мной яшчэ адзін Батлер? — абурылася Люмэй.

— Супакойся, душачка. Цябе падводзяць раптоўныя змены настрою. Чаму не магу я падумаць, што ты хочаш прадаць мяне, а не Шасціпальца ці Батлера? Якая Люмэй сапраўдная? Тая баязлівая і безабаронная дзяўчынка, якую я першы раз убачыў у кабінеце Батлера? Хітрая жанчына, якая наведала мяне ў атэлі? Ці тая, што так спакойна прапануе мне адправіць на той свет Шасціпальца, каб мець нейкую рэч, пра якую нічога мне не хоча расказаць, таму што не давярае?

— Я не магу сказаць табе, што́ хаваецца ў сакрэтным аддзяленні урны, таму што... тады я ўжо буду табе непатрэбная.

— Што ты, дарагая, кінь глупствы. Ты правільна вырашыла, што я дурань набіты,— я згодзен дапамагчы табе. Дзе Шасціпалец?

— Не ведаю. Два разы запар не начуе ў адным месцы. Ён сам звязваецца са мною.— Кітаянка паднялася з канапы.— Калі знайду яго, я паведамлю табе. А зараз мне час ісці, мілы. Батлер сказаў, што кудысьці едзе з Гаваны, але я хачу яшчэ да яго звароту быць дома. Трэба рассеяць яго падазрэнні.— Люмэй працягнула да мяне руку.— Да хуткай сустрэчы, мілы!

Я падняўся з канапы, каб праводзіць госцю да дзвярэй. Выпадкова зірнуў у акно і раптам крыху здрыгануўся. Люмэй здзіўлена ўзняла на мяне вочы:

— Што здарылася?

— Унізе на вуліцы Батлер, мая красуня.

## 22. ПАРФУМА ЛЮМЭЙ

Люмэй задушыла крык, які гатовы быў сарвацца з яе вуснаў.

— Батлер? Ты ўпэўнены, што гэта ён?

6. Зак. 1877

— Супакойся. Думаю, сюды ён не паднімецца. Хутчэй за ўсё сочыць за маёй канторай.

Люмэй пакусала губу — відаць, сур'ёзна занепакоілася.

— Спадзяюся, ты знайшла добрую прычыну, каб пайсці з дому?

— Так, так, вядома... Але ён такі падазроны. Сказала, іду ў горад па справе і вярнуся не раней як у абед. Думаеш, ён ішоў за мной?

— Можа, ішоў... Але больш верагодна, ён сочыць за мной.

— Святы божа! Як жа я выберуся адсюль, каб ён мяне не ўбачыў?

— Не бойся, я табе памагу, толькі крыху пачакай. А пакуль што скажы: што я павінен рабіць, калі, як ты прапануеш, сустрэнуся з Шасціпальцам? Ёсць жа ў цябе нейкі план, ці ж не так?

— Не, не, прашу цябе, пра гэта другім разам,— Люмэй устала з месца і на дыбачках падышла да акна.— Ён яшчэ там! — усклікнула яна, нервова ўзмахнуўшы рукой.— Ты можаш выпусціць мяне адсюль непрыкметна, каб ён не бачыў?

— Вядома, магу. Але вырашыў не рабіць гэтага, перш чым ты мне не скажаш усё пра гэту справу з Шасціпальцам.

Кітаянка павярнулася да мяне з бездапаможным выразам на твары.

— Хіба ты не разумееш майго становішча? Калі Батлер убачыць мяне тут у цябе, ён заб'е мяне на месцы. Ты што — не разумееш?

Я падняўся з крэсла, на якое раней прысеў, і падышоў да Люмэй.

— Кінь! — буркнуў я.— Усё не так страшна, як ты малюеш. Да таго ж Батлер зусім не збіраецца паднімацца сюды. У нас ёсць час добра ўсё абгаварыць.

Але я памыляўся. Калі зноў глянуў у акно, я ўбачыў Батлера, які ішоў па вуліцы да нашага будынка. Люмэй зусім паддалася паніцы.

— Ён ідзе сюды! — завішчала яна.

Я схапіў яе за руку і пацягнуў у калідор.

— Схавайся вось тут,— загадаў я,— і чакай, пакуль не скажу.

Са страхам у вачах Люмэй паслухмяна ўвайшла ў туалет для дам.

Я вярнуўся ў кабінет, сеў у крэсла і запаліў цыгарэту.

— Прашу,— сказаў я, пачуўшы званок.

Дзверы адчыніліся, і паказаўся Батлер. Перш чым пераступіць парог, ён уважліва акінуў позіркам пакой. Але нічога на твары Батлера не паказвала, што ён чакаў убачыць нешта незвычайнае. Так іншы раз робяць людзі, калі ўпершыню ўваходзяць у якое-небудзь памяшканне. Нарэшце госць скіраваў свой позірк на мяне.

— Вітанне, Арэс! — сказаў ён і ленавата падаўся да стала.

Я адказаў на прывітанне кіўком галавы.

— Сядайце, Батлер, і скажыце, чаму вы зрабілі мне гонар сваім візітам?

Госць разваліўся ў крэсле і сашчапіў наманікюраныя пальцы рук. Выскаліў белыя зубы, і тонкія вусікі пад носам парадзелі. Потым глыбока ўдыхнуў паветра, быццам хацеў набраць поўныя лёгкія, і кінуў грымаснічаць. Твар яго спахмурнеў, вочы зрабіліся халодныя і жорсткія.

— Дзе Люмэй, Арэс?

У яго голасе я не пачуў прытворства, але тон быў такі ж суровы, як і позірк яго вачэй, толькі мне здалося, што ў яго пытанні прамільгнулі ноткі няўпэўненасці. Я адкінуўся ў крэсле і глянуў на яго ва ўпор:

— Чаму вы задаяце мне такія пытанні?

Батлер сцяў губы і некалькі разоў уцягнуў у ноздры паветра.

— Таму што яна тут,— цвёрда сказаў ён.

— Хіба толькі ў Люмэй такая парфума?

Вочкі Батлера зрабіліся зусім маленькія.

— Я не веру ў супадзенні, Арэс. Вядома, тут магла пабываць толькі што якая-небудзь жанчына, што душыцца такімі самымі духамі, але больш верагодна, што не.

Раптам Батлер прыплюшчыў вочы і шматзначна пакруціў галавой.

— Які ж я ёлуп! — ускрікнуў ён, імкліва сарваўся з крэсла і выскачыў у калідор.

Я не паспеў затрымаць яго, а ён кінуўся ў дамскі туалет, дзе хавалася Люмэй. Я таксама ўварваўся туды ўслед за ім. Там ён усё абшукаў, але марна — кітаянкі і след прастыў.

Батлер з выклікам упіўся вачамі ў мой твар.

— Вам гэта бокам выйдзе, Арэс,— сказаў ён і павярнуўся да мяне спіной.

Я зноў сеў за стол у сваім кабінеце. Калі я запаліў трэцюю цыгарэту, зазваніў тэлефон. У трубцы пачуўся ўзрушаны галасок Люмэй.

— Я чакаў твайго званка,— адказаў я.— Не раю табе цяпер вяртацца дадому. Батлер пайшоў ад мяне шалёны ад ярасці.

— Я і не думаю вяртацца,— адказала Люмэй.— Мне недзе трэба добра схавацца.

— А што з гэтай справай, якую ты мне прапанавала, малютка?

— Цяпер не магу пра гэта гаварыць. Пазваню пазней.

З вуснаў маіх сарвалася слоўца.

— Можа, ты ўжо адмаўляешся ад здзелкі? — упікнуў яе я.

— Пазней я ўвяду цябе ў курс справы,— адказала Люмэй амаль шэптам.— Думаю, ты згодзішся з умовамі.

— Не будзь такая ўпэўненая,— запярэчыў я. Кітаянка нешта зашаптала, але я яе перабіў: — Добра, добра... Калі не знойдзеш мяне тут, пакінь мне запіску ў кафэ «Ла Пласа».— Я даў ёй нумар тэлефона і дадаў: — Спытайся Карласа.

## 23. КАНЕЦ НАМАГРАМЫ

Святлівыя стрэлкі будзільніка паказвалі палову чацвёртай, калі мяне пабудзіў тэлефонны званок. Я прысеў на ложку і са злосцю ўзяў трубку.

— Хто звоніць?

— Наш сябра не ў гуморы,— пачуўся голас Гансалеса: сказаў ён гэта, відаць. Гастону.— Мы ў моргу, Арэс. Прыходзьце сюды. Хочам вам нешта паказаць.

— Якога д'ябла так рана непакоіце?

— Чакаем праз паўгадзіны,— адрэзаў Гансалес і павесіў трубку.

Я задумліва пазіраў на акно. Па шыбах шалёна сек дождж. У гэткую ноч не тое што ў морг — нікуды з дому не выйшаў бы.

«Яшчэ адзін труп,— падумаў я, седзячы на краі ложка.— Чый цяпер? Маглі б і адразу сказаць, а не дзейнічаць на нервы...»

Нарэшце, яшчэ раз глыбока зацягнуўшыся дымам цыгарэты, я раздушыў яе аб попельніцу, схапіў плашч і выйшаў у калідор. Спусціўся ў вестыбюль. За бар'ерам спаў дзяжурны. Начны вартаўнік, седзячы на канапе, пазіраў, як па вокнах хвошча вада. З другой канапы мне ўсміхаліся Гастон і Гансалес.

— Вы, безумоўна, у морг, Арэс?

— А што здарылася?

— Самі ўбачыце.

Я надзеў плашч і пакрочыў з імі па вуліцы. У моргу ўслед за Гастонам прайшоў у дзверы, якія ахоўваў паліцэйскі. Следам ішоў Гансалес. Прайшоўшы па сярэднім праходзе, мы спыніліся перад сталом-цялежкай. Гастон рэзкім рухам рукі сцягнуў рагожу. Я ўбачыў труп. Але Гастон груба памыліўся — на маім твары не здрыгануўся ніводзін мускул. Наогул аблічча мерцвяка нічога мне не гаварыла — я ніколі, здаецца, не бачыў гэтага чалавечка. Праўда, нешта няўлоўнае ў ім здалося мне знаёмым.

— Хто гэта? — спытаў я, узнімаючы вочы.

Гансалес прысвіснуў. Яго вусны скрывіла іранічная ўсмешка. Гастон пазіраў на мяне з відавочным недаверам.

— Кіньце, Арэс... кіньце.

Я зноў скіраваў позірк на пакалечаны твар карліка — скарчанелы і брудны. Месіва крыві і гразі скарынкамі ўкрывала скуру. Відовішча было агіднае і страшнае.

— Хто гэта? — яшчэ раз спытаў я.

Гастон і Гансалес упарта маўчалі, толькі шматзначна абмяняліся насмешлівымі позіркамі і зноў утаропілі на мяне вочы.

— Ідзіце к чорту! — узлаваўся я і павярнуўся да іх спіной.

— Вы арыштаваны, Арэс! — скрозь зубы вымавіў Гастон.— Ні з месца!

Нельга было губляць галаву. Я абвёў хуткім позіркам злавеснае памяшканне. З усіх бакоў на сталах ляжалі знявечаныя гвалтоўнай смерцю целы, а шчаўчок узведзенага курка гаварыў больш за словы. Я павярнуўся назад.

— Вы забілі яго, Арэс!

Я адступіў на крок і змераў Гастона і Гансалеса пагардлівым позіркам.

— Чым? — Абодва маўчалі, зрабіўшы каменныя твары.— За што я забіў яго?

— Не падзялілі здабычы,— адказаў Гастон.

Я ашчэрыў усе свае зубы. Вельмі дасціпны жарт!

— Няўжо?

— Іронія ваша неперакапальная, Арэс.— Гастон апусціў курок і схаваў пісталет.— Спярша ён хацеў прыкончыць вас, але адна непрадугледжаная акалічнасць яму перашкодзіла. Тады вы адправілі яго на той свет. Вельмі лагічна — мы амаль што чакалі гэтага.

— Вось яно што — вы шукаеце казла адпушчэння!

— Памыляецеся, Арэс,— умяшаўся Гансалес.— Тое, што вы адмаўляецеся пазнаць карліка, вас не выратуе. Мы ведаем, як усё адбылося.

— Сапраўды? Раскажыце — вельмі цікава. Тады мы ўтрох ўжо ведаць будзем.

— Вы, Арэс, хутка падавіцеся сваімі кпінамі. Прызнаём: спачатку мы памыляліся, але, чорт вазьмі, хто не памыляецца? Галоўнае — цяпер мы ўсё ведаем. Сусаны вы не забівалі. Мы пераканаліся — пры жыцці вы яе зусім не ведалі. Але ў ноч яе смерці вы бачылі забойцу альбо нейкі след навёў вас на яго ў наступныя дні. Пасля вызвалення з-пад арышту вы не адмовіліся ад сваіх намераў. Чаму, Арэс? Мы загадалі вам не ўмешвацца ў гэту справу, але вы не ўзялі пад увагу. Ясна: стараліся сабраць больш доказаў супраць чалавека, якога вы пачалі ўжо шантажыраваць. Я маю на ўвазе вось гэтага,— Гансалес паказаў на труп, замаўчаў і зірнуў на Гастона, быццам чакаючы пахвалы, потым зноў загаварыў: — Гэтаму тыпу надакучылі вашы дамаганні, і ён вырашыў знішчыць вас. Мінулай ноччу, дзякуючы нашаму своечасоваму ўмяшанню, замах не ўдаўся. Тады ўжо вы вырашылі, што настаў час пакончыць з ім.

Я ўсміхнуўся: значыць, гэта той самы карлік! Я і адразу падумаў пра яго, але не быў упэўнены — у горадзе не адзін такі карлік. А ў тых выпадках, калі я бачыў яго, змрок і адлегласць хавалі ад мяне яго рысы. Я яшчэ раз паглядзеў на труп. Так, безумоўна, гэта той самы праклятым чалавечак!

— Добра,— сказаў я,— справа зусім ясная. Ён хацеў забіць мяне, а я забіў яго. Ну, а Верцьентэс, гаспадар рулеткі? Каму вы яго прыпішаце? Таксама мне?

Гастон зрабіў знак, і Гансалес з ахвотай уступіў яму слова.

— Як вы самі кажаце, Арэс,— пачаў Гастон,— не прымаючы, вядома, пад увагу вашага сарказму, справа зусім ясная. Вось прыблізна, як усё гэта адбылося: Верцьентэс наняў карліка забіць Сусану, арганізаваўшы сабе алібі ў Мексіцы. Якраз здарылася так, што ў той самы дзень вы пайшлі па пісьмы сенатара, як сведчыць яго дачка; калі вы прыйшлі, Сусана была ўжо мёртвая. Карлік, які ледзь паспеў схавацца, аглушыў вас ударам па галаве і з мэтай навесці на вас падазрэнне ў забойстве пазваніў нам і ўцёк, але пакінуў нейкі след, які навёў вас на яго. Тады паміж вамі пачалася барацьба за каштоўнасці, якія ён, верагодна, украў насуперак волі Верцьентэса, Каб звязаць яго па руках і нагах, вы пачалі збіраць супраць яго доказы. Папрасілі Верцьентэса прыйсці да вас, каб змовіцца з ім. Карлік дазнаўся пра гэта і застрэліў Верцьентэса... Альбо, можа, вы, даведаўшыся пра тайну Верцьентэса, выклікалі яго да сябе з мэтай вымагання грошай. Вядома, у нашай версіі ёсць пропускі, але з вашай дапамогай мы запоўнім іх на допыце.— Гастон накрыў цела карліка рагожай і суха загадаў: — Пайшлі!

— Цудоўная версія,— сказаў я, не сыходзячы з

месца.— Толькі ў ёй ёсць слабы пункт: я не забіваў карліка. Не ведаю нават, ад чаго ён памёр.

Гастон усунуў руку ў кішэню пінжака і выняў адтуль нейкі прадмет.

— Вам гэта што-небудзь гаворыць? — спытаў ён.

Я працягнуў руку і ўзяў... болцік... ці тое, што засталося ад яго. Нарэзка была сточана. Не трэба быць спецыялістам, каб зразумець — адразу відаць.

— Што гэта? — запытаў я безуважна.

— Болцік,— адказаў Гансалес.— Не скажаце ж вы, што не ведаеце, што гэта болт, праўда? — у яго голасе прагучаў здзек.

— Адразу не пазнаў. Але якое, чорт вазьмі, ён мае да мяне дачыненне?

— Гэта штука ад тормаза машыны, на якой ехаў карлік,— паясніў Гастон.— Думаю, яна асвяжыць вашу памяць. Ён падстроіў вам пастку і пралічыўся. Вы вярнулі яму доўг, і вось вынік,— Гастон паказаў на накрыты рагожай труп.— Нічога не скажаш, вы яго перахітрылі.

Цяпер мне стала ясна, чаму ў карліка такая гразь на твары: у час тайна падстроенай аўтамабільнай катастрофы ён выпаў з машыны...

— Пайшлі,— зноў загадаў Гастон.

Я не пярэчыў. У галаве з хуткасцю маланкі пачалі змяняць адна другую думкі. Ім патрэбен быў казёл адпушчэння, і яны знайшлі яго. Я ўзяў у рот цыгарэту, запаліў і пайшоў спераду іх. Зрабіўшы некалькі крокаў, я раптам спыніўся — трэба было выйграць час.

— Як зваць карліка? — спытаў я, узважваючы ў думках шанцы выскачыць на вуліцу і змыцца.

— Сесар Бламбіна,— адказаў Гастон.— Празвалі яго Шарык. Чаму, не ведаю: ці з-за яго маленькага росту, ці таму, што некалі ён працаваў у цырку. Апошні час прадаваў латарэйныя білеты.

Як бліскавіца ўспыхнула ў маім мазгу запіска Верцьентэса: «Білеты, Арэс...», і мільганула думка, ці няма якой-небудзь сувязі паміж ёю і гэтым маленькім распаўсюджвальнікам латарэйных білетаў.

— Навошта вы яму тлумачыце, лейтэнант? — умяшаўся Гансалес.— Ён і так усё ведае не горш за нас.

— Няважна,— адказаў Гастон.— Калі ўпэўніцца, што мы ў курсе ўсяго, не будзе адпірацца.

Іх галасы даляталі да мяне нібы аднекуль здалёку, бо ў галаве маёй круцілася толькі адно — як уцячы. Адзін з тых шанцаў, на якія я разлічваў, трапіўся каля дзвярэй. Можа, ён быў і не самы лепшы, але я не вагаючыся выкарыстаў яго. Калі я пераступіў парог, наглядчык трупярні ўкочваў у дзверы санітарную цялежку, на якой ляжала скарчанелае, як мумія, цела. Я ўцягнуў жывот і праціснуўся між вушаком і цялежкай, і яна ўтварыла бар'ер паміж мною і маімі канваірамі. Не трацячы часу, я адштурхнуў наглядчыка і пабег з усіх ног, не даўшы ўсім ім апамятацца. Як страла прамчаўся па калідоры і выбег на могілкі, а там пачаў круціцца сярод крыжоў і помнікаў. Дождж крыху сціх. Мёртвую цішыню ночы разарвала гучная лаянка Гастона. Я паслізнуўся і грымнуўся ў гразь, ударыўшыся лбом над правым вокам аб нешта цвёрдае — аж іскры пасыпаліся. Ляжачы ў змроку на зямлі, я з задавальненнем падставіў твар пад дождж.

Навокал было ціха, нідзе нічога не варушылася. У цемры перада мной няясна бялелі мармуровыя помнікі. Я падняўся з зямлі і пашлэпаў па гразі. Дождж ужо зусім перастаў, але неба было хмарнае.

Праз некалькі крокаў я зноў паслізнуўся і ўпаў у лужыну. Няма ліха без дабра! Я змыў з твару гразь і раптам прыгадаў запэцканы крывёю і граззю твар

карліка. Цяжка ўздыхнуў: так у адзін цудоўны дзень можна і акалець...

Перш чым пералезці цераз агароджу, што цягнулася ўздоўж вуліцы Сапаты, я зняў плашч і кінуў яго — ён быў увесь мокры і перапэцканы і мог прыцягнуць да мяне ўвагу... а мне ж ужо другі раз пасля забойства Сусаны даводзілася хавацца ад паліцыі.



# Частка трэцяя
# РАЗГАДКА

> Хто кахае, той заўсёды шчодры.
>
> Меер

## 24. «ХАЙ БУДЗЕ СВЯТЛО...»

Непагадзь скончылася. Праз адчыненае акно нейкай заняпалай гасцінічкі я ўзіраўся ў празрысты блакіт неба. Але на душы было змрочна.

Зноў лёг у ложак. Уключыў радыё. У апошніх навінах на ўсе лады скланялася маё імя. Я зноў выплыў на паверхню... Закурыўшы, я ачмурэла сачыў, як пад столлю паступова растаюць воблачкі дыму.

Я паглыбіўся ў роздум, супастаўляў і параўноўваў самыя важныя пункты гэтай праклятай загадкі. Разважаў я прыблізна так:

Першае. Сусану забілі з мэтай забраць у яе нейкую рэч, якую яна хавала разам з пісьмамі і каштоўнасцямі ў прадаўгаватай шкатулцы. Што гэта за рэч?

Другое. Усё ў спальні Сусаны сведчыла аб тым, што забіў яе чалавек, які быў з ёю ў інтымных адносінах. Хто?

Трэцяе. Не абы-хто з яе палюбоўнікаў, а той, хто ведаў, што рэч каштоўная і дзе яна ляжыць.

Чацвёртае. Са слоў Люмэй, яны з Батлерам прысутнічалі пры тым, як Сусана атрымала нейкую вестку. Якую? Што рэч мае вялікую каштоўнасць?

Пятае. Верцьентэс перад тым як памерці ад рукі карліка напісаў на паперцы: «Білеты...» Што за білеты? Банкавыя? Непадобна на тое, таму што, як сказала Люмэй, рэччу гэтай нельга было б карыстацца, калі б яна ці Батлер пра нешта заявілі паліцыі.

Шостае. Карлік, забойца Верцьентэса, быў распаўсюджвальнікам латарэйных білетаў.

І тут у галаве пачалі бязладна круціцца не зусім абгрунтаваныя здагадкі. Перад ад'ездам у Мексіку Верцьентэс падарыў Сусане камплект латарэйных білетаў, на адзін з якіх потым выпаў вялікі выйгрыш Значыць, «рэч» і ёсць гэты білет. У каго купіў яго Верцьентэс? У карліка. Пасля забойства Сусаны карлік меў нейкую падставу падумаць, што Сусану забілі з-за гэтага білета. Пры продажы той серыі білетаў, магчыма, прысутнічаў нехта яшчэ, і карлік западозрыў яго ў забойстве. Ён знайшоў яго, і яны разам згаварыліся пазбавіцца ад усіх, хто мог хоць што-небудзь ведаць пра выйгрышны білет. Менавіта таму, напэўна, і забілі Верцьентэса і спрабавалі забіць мяне. «Цудоўна, Арэс,— сказаў я сабе,— але хто ж гэты забойца і саўдзельнік карліка?» Батлер? Не, ён і цяпер упэўнены, што білет у шкатулцы, і наогул, навошта б тады спатрэбіўся яму Шасціпалец? Шасціпалец таксама не — ён нічога, здаецца не ведае пра білеты. Акрамя таго, дапусціць, што ён быў палюбоўнікам Сусаны — абсурд. Сенатар? Зусім неверагодна: у яго выдатнае алібі. Рамераль? Гэты і мухі не раздушыць. І што можа значыць для яго выйгрыш — для такога багацея. Сота Падуа? Навошта яму гэты білет? У яго і так грошай куры не

клююць. Хто ж астаецца? Супакойся, Арэс! А што, калі ў Сусаны былі і яшчэ палюбоўнікі? Напрыклад, яе шафёр Макейра. А ці магчыма гэта? Што ж, такі тып мужчыны вабіць некаторых жанчын... Эх, Макейра, Макейра! Ты нейкі такі, што сюды зусім не лезеш... альбо трэба наогул перастаць верыць людзям... Пачнём спачатку. Шасціпалец? Не, нелагічна. Шасціпалец — палюбоўнік Сусаны! Тады вернемся да першапачатковых здагадак. Увесь ход разважанняў выключае яго з ліку западозраных, асабліва калі ўлічыць час, які прайшоў ад моманту смерці Сусаны да таго моманту, калі ён ударыў мяне па галаве... А што, калі Шасціпалец па нейкай невядомай мне прычыне, забіўшы Сусану, затрымаўся ў яе доме даўжэй, чым хацеў? Скажам, адразу не заўважыў шкатулкі, шукаў у іншых пакоях альбо, пайшоўшы ўжо без яе, вярнуўся, бо ўспомніў, што пакінуў нейкі след, ці...

Я ўсміхнуўся: у роспачы мой мозг ліхаманкава нагрувашчваў адну версію на другую У галаве мільганула, што я сяджу на кратэры вулкана і ў любы момант мяне можа напаткаць лёс жыхароў старадаўняй Пампеі. Я пайшоў ва ўмывальнік і доўга трымаў шыю пад струменем халоднай вады. Потым зноў лёг на ложак і вярнуўся да сваіх здагадак.

Калі з Шасціпальцам сапраўды было так, як я сабе малюю, апошняя версія набывае сэнс. Ударыўшы мяне, ён уцёк з урнай, якая, паводле легенды пра Лонгаў, пачутай ім ад Батлера, мела вялікую каштоўнасць. Але тут не ўсё лагічна: у спальні ў Сусаны нічога не сведчыла аб тым, што паміж ахвярай і забойцам была барацьба,— у пакоі панаваў парадак, а зусім відавочна, што ніхто не дасць забіць сябе без ніякага супраціўлення. А можа, Сусана спала! О, тады б усё стала на месца! Калі сенатар з Каітай пайшлі з асабняка, Сусана засталася ў ложку і заснула.

Тут уваходзіць Шасціпалец і... Ага! Трэба з ім пагаварыць! Можа, потым, разглядаючы шкатулку і круцячы яе ў руках, ён незнарок націснуў на спружыну і адкрылася другое сакрэтнае аддзяленне? Але, каб так здарылася, навошта ён шукаў бы сустрэч з Люмэй? А можа, усё гэта выдумка і другой тайнай спружыны няма? Чарговая хлусня Батлера?..

За доўгія гадзіны дабравольнага зняволення мая здольнасць лагічна мысліць пайшла на спад, і пад вечар я нарэшце заснуў. Але раптоўна прачнуўся: калі мая версія пра Шасціпальца правільная, хто ж тады забіў карліка? Таксама Шасціпалец? Але ж ён нічога не ведаў пра латарэйны білет... З кожнай хвілінай нарастала маё хваляванне... а таксама і разгубленасць.

А дзесятай гадзіне вечара я прыняў душ і пайшоў з гасцініцы.

## 25. ПОМСТА ШАСЦІПАЛЬЦА

А палове адзінаццатай ночы таксі, якое я наняў, праехаўшы па дузе, што злучае вуліцу Эхіда з Дэсампарадас, паволі рухалася па прыморскай Авенідзе дэль Пуэрта, мінаючы прытоны, шынкі і маленькія гасцініцы. Я шукаў адну з іх — «Ронда». Праўда, бармену з «Ла Пласы», з якім на сваёй тарабарскай мове гаварыла па тэлефоне Люмэй, пачулася «гасцініца «Сонда», але, пагартаўшы тэлефонны даведнік, я гасцініцы з такой назвай не знайшоў і вырашыў, што гэта, відаць, гасцініца «Ронда», якая знаходзілася на ўзбярэжжы. Раён быў даволі аддалены — якраз падыходзіў для таго, каб завабіць мяне ў пастку. Спярша я вагаўся, але нарэшце вырашыў ехаць і загадаў вадзіцелю не спяшацца, каб добра прыгледзецца да наваколля.

За руінамі царквы св. Паўла светлавая шыльда

паказала, дзе знаходзіцца «Ронда». Трохпавярховая гасцініца стаяла ў адным з самых малаасветленых месцаў набярэжнай. Едучы паўз яе, я пільна ўзіраўся ў змрок, у якім патанаў будынак. Усярэдзіне панавала цішыня, і выгнутыя ўверсе аркай дзверы здаліся мне ўваходам у патаемную пячору.

Калі машына развярнулася і паехала назад, я ўважліва ўглядаўся ў прыстань насупраць гасцініцы. Папрасіўшы вадзіцеля пачакаць мяне на другім рагу, я выйшаў з кабіны і пайшоў да гасцініцы.

Увайшоў. Маленькі чалавечак з зеленавата-жоўтым тварам, што сядзеў за закрачаным акенцам злева, адарваў вочы ад газеты і зірнуў на мяне.

— Што вам трэба? — запытаўся ён.

— Даведка.

— Тут пансіён,— прабурчаў чалавечак.— Два песа за ноч.

— У мяне ёсць дзе начаваць,— я прасунуў праз краты паперку на пяць песа.— Шукаю адну кітаянку. Маладзенькую, невысокую, па імені Люмэй.

— Такой не ведаю,— адказаў дзяжурны, адсоўваючы грошы.— Ніякіх кітаянак тут няма.

— Тады, можа, тут жыве элегантна апрануты чалавек, у якога на правай руцэ адзін лішні палец.

— Магчыма,— чалавечак усміхнуўся, ашчэрыўшы свае жоўтыя зубы, і даволі красамоўна паварушыў двума пальцамі.

Я да канца прасунуў крэдытку ў акенца.

— Вельмі элегантны чалавек наняў у нас пакой некалькі дзён таму назад. У яго сапраўды адзін лішні палец... Ён дома, даўно не выходзіў. Нумар 5, другі паверх.— Дзяжурны зноў няшчыра ўсміхнуўся.— Ён ваш прыяцель?

— А калі не?

— Тады вы толькі пойдзеце за яго трунай,— адказаў чалавечак і ўжо ад душы засмяяўся.

Я падняўся на другі паверх і знайшоў пяты нумар. Трымаючы ў адной руцэ пісталет, я незанятай рукой павярнуў ручку дзвярэй, але яны не адчыніліся. Тады я пастукаў і адступіў убок. На парозе з'явілася Люмэй.

— Уваходзьце, Арэс,— усміхаючыся, сказала яна.— Мы вас чакаем.

Я ўвайшоў. На невялікім століку стаялі шклянкі, бутэлькі з кока-колай і пляшка бакардзі. Шасціпалец адпіў са шклянкі, якую трымаў у руцэ, і пацвердзіў:

— Так, Арэс, мы вас чакаем. Сядайце. Хутка прыйдзе наш добры прыяцель Батлер, і тады мы крыху пагаворым.

Я паставіў сваё крэсла так, каб сядзець тварам да дзвярэй. Люмэй села на падлакотнік крэсла Шасціпальца і пачала пяшчотна варушыць яго чупрыну.

— Мы з Хуанам пакахалі адно аднаго,— прастадушна абвясціла яна на даволі правільнай іспанскай мове. Вочы яе неяк дзіўна блішчалі.— Батлеру давядзецца з гэтым змірыцца.

— Давядзецца,— падтрымаў яе Шасціпалец.— Без цябе, Люмэй, не будзе ніякага дагавору,— ён прытуліў кітаянку да сябе.— Шкатулка ў мяне, і таму ўмовы ставіць буду я. Што на гэта скажаце, Арэс?

— З таго, што я ведаю пра Батлера, ён здасца,— адказаў я рашуча.— Ва ўсякім разе, каб атрымаць шкатулку, пойдзе на пэўныя ўступкі.

— Люмэй угаварыла мяне па-сяброўску дамовіцца з вамі. Мы нічога не выйграем, калі пачнём знішчаць адзін аднаго. Схавайце ж, Арэс, пісталет і вып'ем за дружбу.— Ён наліў крыху бакардзі ў пустую шклянку і спытаў: — Як вы любіце — неразбаўлены альбо «свабодную Кубу»?

— Я не п'ю, дзякуй.

З вачэй Шасціпальца пасыпаліся маланкі. Ён павярнуўся да Люмэй:

— Ты ж казала, што будзе не так.

Люмэй усміхнулася. Пусціла ў шклянку струменьчык кока-колы, і бледна-тапазавы колер бакардзі крыху пацямнеў.

— За шчырае ўзаемаразуменне,— сказала яна на жудаснай англійскай мове і выпіла.— Усё будзе, як трэба, даражэнькі. Арэс вып'е з намі за дружбу.— Люмэй наліла ў шклянку бакардзі.— Выпіце, Арэс,— сказала прыязна і ласкава.

— Не, дзякуй,— зноў адмовіўся я,— не п'ю.

Раптам Шасціпалец ударыў рукой па стале і скіраваў на мяне спапяляльны позірк. Потым ускочыў на ногі і схапіўся за жывот. Твар яго зрабіўся змярцвела бледны. Спрабаваў выхапіць з-пад пахі пісталет, але рукі яго сутаргава закалаціліся, і ахопленае канвульсіямі цела грымнулася на падлогу.

Хоць я і чакаў нечага падобнага, але ў першы момант разгубіўся. Нахіліўся над целам, стараючыся выклікаць у Шасціпальца рвоту. Але гэта была памылка, нават горш — дурасць. Нешта цвёрдае раптам ударыла мяне па цемені, і пакой раскалоўся на тысячу зіхатлівых асколкаў...

— Ну вось, Арэс, цяпер не хапае толькі «Балерыны за кулісамі». Дзе карціна?

Я з цяжкасцю расплюшчыў вочы і абвёў позіркам пакой. Праз туманную завалоку ў вачах усе прадметы здаліся мне вычварна скажонымі. Паступова туман рассеяўся.

Я ўбачыў Гастона — ён сядзеў на ложку. Крыху далей разваліўся ў крэсле сяржант Гансалес. У дзвярах стаяў паліцэйскі ў форме, а з-за яго спіны выглядаў зеленавата-жоўты твар маленькага парцье.

Я памацаў рукою гузак на цемені і ўбачыў на далоні кроў. У галаве нібы хто молатам біў па кавадле.

— Дзе хаваеце «Балерыну», Арэс?

Я перавёў позірк на распасцёртае на падлозе цела Шасціпальца, падняўся і пайшоў ва ўмывальню. Ад халоднай вады ў галаве крыху праяснілася.

Вярнуўшыся, сеў у крэсла. На століку ляжалі ўсе каштоўныя рэчы, украдзеныя з дому Сусаны, і сапраўды, відаць, не хапала толькі «Балерыны»... Вунь як тонка падстроіла Люмэй! А дзе ж шкатулка? Я зірнуў на гадзіннік — даўно ўжо мінула поўнач. Пры цяперашніх фантастычных магчымасцях яны з Батлерам, можа, у гэты самы момант смяюцца з нас усіх дзе-небудзь на другім краі свету...

— Дзе кітаянка? — запытаў я.

Гастон зірнуў на Гансалеса і рагатнуў. Гансалес усміхнуўся і глянуў на мяне.

— Кіньце, Арэс! — сказаў ён.— Якая кітаянка? Вы ўжо зусім з глузду з'ехалі. Няўжо думаеце, што вам зноў удасца абдурыць нас сваімі казкамі?

Я ўздыхнуў, скрывіўшы кіслую міну.

— Кітаянка, жонка Батлера, атруціла Шасціпальца. Калі я хацеў памагчы яму, яна аглушыла мяне, ударыўшы нечым па галаве.— Мне самому сорамна стала за такое тлумачэнне.

— Для прыватнага дэтэктыва, Арэс, вы проста геніяльны,— здзекліва прамовіў Гастон.

— Вас усё жыццё, здаецца, толькі і робяць, што аглушаюць ударам па галаве ў чужых кватэрах,— пакпіў Гансалес і паклікаў крэтына, які падглядаў у дзверы.— Скажыце, гэтай ноччу была тут у вас якая-небудзь кітаянка?

— Гэты чалавек прыйшоў пытацца пра нейкую Люмэй,— адказаў зеленавата-жоўты чалавечак.— Але я ясна сказаў яму, што ніякіх кітаянак у нас ня-

ма. Тады ён спытаўся пра яго,— чалавечак паказаў рукою на цела Шасціпальца.

На спярэшчаным шрамамі твары Гастона заззяла пераможная ўсмешка.

— Што вы задумалі, Арэс? Збіць нас з правільнага следу?

Я паціснуў плячыма:

— Кітаянка атруціла Шасціпальца і ўдарыла мяне па галаве.

— Ці, праўдзівей кажучы, Шасціпалец ударыў вас па галаве, перш чым памерці ад атруты, якую вы яму падсыпалі.

— Брава, Гастон! Вы ўвесь час трапляеце пальцам у неба.

— Мы сцерпім вашы насмешкі, Арэс. Наша становішча нам дазваляе. Вы забілі карліка Бламбіна, але ў гэтага саўдзельніка Шасціпальца каштоўнасцей не аказалася, тады вы заявіліся сюды.

— Замест таго каб спрачацца са мною, чаму б вам не распарадзіцца... арыштаваць антыквара Батлера і яго жонку-кітаянку? Варта паспрабаваць, Гастон. Набярыцеся духу! Што вам губляць?

— Які вы смешны, Арэс! Але, улічваючы ваша жаданне ўсё нам расказаць, паедзем у паліцэйскую ўправу. Там мы вас уважліва паслухаем.

Я цяжка ўздыхнуў.

Раптам у нумар прыбег яшчэ адзін паліцэйскі.

— Вас тэрмінова клічуць да тэлефона, лейтэнант,— паспешліва сказаў ён.

Хвілін праз пяць Гастон вярнуўся раззлаваны.

— Добра, Арэс, раскажыце нам пра вашу кітаянку.

Гансалес здзіўлена ўскінуў на Гастона вочы:

— Што здарылася?

— Нейкая кітаянка і антыквар Батлер загінулі ў сваім доме. Спрабавалі адкрыць нешта накшталт

шкатулкі, у якой, відаць, хавалася каштоўная фарфоравая рэч... ці штосьці такое. А шкатулка ўзарвалася.

— Помста Шасціпальца...— прашаптаў я.

— Скажыце, Арэс, з чаго пачалося ўсё гэта? Што было ў шкатулцы?

— Латарэя,— усміхнуўся я.

Гастон злосна ўдарыў кулаком па століку:

— Вы што, так і будзеце ўвесь час у жарцікі гуляць? У такім разе мы можам знайсці лепшае месца для жартаў...

— Вам здалося гэта жартам? У ім дасціпнасці мала. Але сутнасць у тым, што Батлер спадзяваўся знайсці ў шкатулцы латарэйны білет, на які выпаў вялікі выйгрыш. Білет гэты Верцьентэс раней, яшчэ да розыгрышу латарэі, падарыў Сусане.

— Усё гэта неяк вельмі туманна,— незадаволена прабурчаў Гастон.— Давайце лепш спачатку.

Я паціснуў плячыма:

— Не так ужо туманна, як вам здаецца...

## 26. ПРЫНЯТЫ ГАМБІТ

Калі я на гэтым скончыў свой расказ, Рэнэ з лейтэнантам абмяняліся шматзначнымі позіркамі. Настала доўгае маўчанне.

— Гэта ўсё, што магло вас цікавіць,— нарэшце сказаў я.— Астатняе вы, безумоўна, самі ведаеце з крымінальнай справы і з таго, што прачыталі, вывучаючы газеты таго часу. Тады, пры Батысце, пра гэта даволі многа пісалася.

Лейтэнант падняўся з крэсла і выключыў магнітафон.

— Больш інфармацыі нам не трэба,— сказаў ён.— Усё сыходзіцца, Арэс. Адно дзіўна — як вы так

добра збераглі ў памяці ўсе самыя дробныя факты і падзеі, што адбыліся так даўно.

Я горка ўсміхнуўся:

— Вам здаецца дзіўным?

— Можа, і не зусім,— згадзіўся лейтэнант.— Думаю, што ў падобнай сітуацыі і я б таксама запомніў усе дробязі. Цяпер лейтэнант,— ён паказаў рукою на Рэнэ,— пазнаёміць вас з некаторымі акалічнасцямі, што засталіся вам невядомыя, каб вы ўжо да канца ведалі, хоць цяпер гэта вам і не вельмі патрэбна, пра ўсё, што зрабіла такі ўплыў на ваш лёс. Потым спакойна ідзіце дадому, забудзьцеся на ўвесь гэты шматгадовы кашмар і ўключайцеся ў новае жыццё: магчымасці ў нас цяпер на Кубе ёсць для кожнага, хто хоча сумленна працаваць.

Калі я пачуў гэтыя словы, з душы нібы цяжкі камень зваліўся. Мяне захліснула магутная хваля радасці, і я не разбіраў ужо, што гаварыў мне Рэнэ, пакуль ён, павысіўшы голас, не запытаў:

— Ну як, Арэс? Што скажаце?

— Даруйце, я вас не чуў,— прызнаўся я.

— Разумею... разумею... Я пытаўся ў вас, ці ведаеце вы, што неўзабаве пасля разгрому наёмнікаў на Плая-Хірон былы батыстаўскі лейтэнант паліцыі Гастон быў расстраляны за контррэвалюцыйную дзейнасць.

— Не ведаў.

— Ясна. А незадоўга да пакарання смерцю Гастон напісаў пісьмо, у якім, сярод іншых злачынстваў, прызнаўся, што атрымаў ад нейкай асобы дзесяць тысяч песа за тое, каб сабраў супраць вас крымінальныя доказы; тая ж асоба абяцала яму яшчэ дзесяць тысяч, калі вас засудзяць, і грошы гэтыя ён атрымаў. Спачатку, пісаў Гастон, ён падумаў, што гэта сенатар Рамірэс, але пасля пераканаўся ў сваёй памылцы і так і не даведаўся, хто даў яму хабар.

Асабіста я думаю, што нават калі б ён і ведаў, усё роўна б нам не сказаў.

— Гэта было для нас першым сігналам аб тым, што вы аказаліся ахвярай злачыннай змовы,— дадаў лейтэнант.

— Імкнучыся да канца разабрацца ў гэтай справе,— гаварыў далей Рэнэ,— мы выявілі яшчэ адзін факт, які, безумоўна, зрабіў уплыў на вынік судовага працэсу: пракурор знаходзіўся ў інтымных адносінах з Сусанай.

Сумная ўсмешка кранула мае вусны.

— Я не сумняваўся, што ўсе сілы нябесныя змовіліся супраць мяне.

— Бяда ў тым,— таксама ўсміхнуўся Рэнэ,— што сілы гэтыя былі з плоці і крыві, Арэс. Але пакуль што ўсе гэтыя факты не мелі доказнай сілы. Больш пераканальныя доказы з'явіліся ў нас, калі мы перахапілі запіскі, якія Марцін Макейра пачаў пасылаць вам у турму. Чаму ён пачаў раптам вам пісаць? Якія існавалі ці існуюць адносіны між вамі? У нас узнікла шмат падобных пытанняў, на якія мы не знаходзілі адказу, і таму пачалі правяраць Марціна. Калі пераканаліся, што ён ні разу вас у турме не наведаў, мы прыйшлі да заключэння, што, якія б ні былі адносіны паміж вамі, пачаліся яны, відаць, яшчэ перад рэвалюцыяй, і паступова ў нас з'явіліся факты: 1. У 1951 годзе Марцін быў чалавекам бедным. 2. Працаваў наёмным шафёрам у Сусаны. 3. Пасля таго як вас асудзілі, ён раптам разбагацеў. 4. Былое Міністэрства кантролю над маёмасцю правяло стараннае расследаванне і высвятліла, што крыніцай багацця Марціна быў буйны латарэйны выйгрыш. 5. У канцы 1961 года дзейнасць Марціна пачала выклікаць падазрэнне. 6. У ходзе рэвізіі банка «Нэшнл Сіці» быў выяўлены асабісты рахунак на імя сеньёры Анхелы Макейра, з якога ў жніўні 1961 года было

знята дваццаць тысяч песа. 7. Мы гутарылі з адвакатам, які абараняў вас на судзе, цудоўным таварышам, і ён паведаміў нам усе падрабязнасці, звязаныя з латарэйным білетам, пра які вы расказвалі.

Калі Рэнэ скончыў, загаварыў другі лейтэнант:

— Пасля ўсяго гэтага мы былі амаль упэўнены, што вы невінаваты. Ва ўсякім разе, улічваючы вашы добрыя паводзіны, мы рэкамендавалі выпусціць вас на волю, каб потым, калі мы збяром досыць неабходных доказаў, юрыдычна зняць з вас абвінавачанне ў забойствах. Ваша дзейнасць пасля вызвалення пацвердзіла нашы з лейтэнантам Рэнэ меркаванні. Што скажаце?

— Выходзіць,— прашаптаў я,— што з самага пачатку пасля выхаду з турмы я быў нечым накшталт ахвяраванай пешкі ў вашым гамбіце з Макейрам?

Абодва афіцэры засмяяліся.

— Мы ведалі, што вы не падведзяце нас, Арэс,— сказаў лейтэнант.— Маглі б ісці ў заклад. Але ж улічыце, што, выйшаўшы з турмы, вы самі выбралі дарогу. Рашэнне было вамі прынята самастойна.

— Безумоўна,— пагадзіўся я.— Я ні ў чым вас не дакараю.

Мне вельмі хацелася пачуць ужо ад іх: «Вось і ўсё, Арэс», і Рэнэ па маім твары зразумеў гэта і сказаў:

— Ужо канчаем, Арэс. Але перш чым вы пойдзеце, мне з чыстай цікаўнасці хацелася б ведаць: калі вы зразумелі, што ў тым, што вас асудзілі, вінаваты Макейра? Бо з расказанага вамі вынікае, што ваш аналіз фактаў і абставін памылкова навёў вас на Шасціпальца, і таму можна ўявіць сабе, якая вас апанавала роспач, калі не толькі ён, але і Батлер з Люмэй выслізнулі ад вас, пакінуўшы ні з чым.

— Правільна. Цяпер я крыху ўжо стаміўся, але

магу падрабязна расказаць, што адбылося потым. У дні, што папярэднічалі судоваму працэсу, я пачаў разумець, у якім цяжкім становішчы апынуўся: усе афіцыйныя асобы, што ўдзельнічалі ў следстве, адкрыта ставіліся да мяне варожа. Аб прычынах я здагадваўся, але ў той час не вельмі задумваўся над гэтым, таму што ні мой абаронца, ні я сам не лічылі, што існуюць неабвержныя доказы, на аснове якіх мне могуць прад'явіць абвінавачанне ў забойствах, і нас гэта не турбавала. Хаця мне і ўдалося перакапаць адваката ў слушнасці версіі з латарэйным білетам, ён вырашыў не аперыраваць ёю, бо гаворка ішла б пра нейкія білеты, якія прадавалі, куплялі і бралі ў падарунак людзі, якіх ужо няма на свеце,— карлік Бламбіна, Верцьентэс, Сусана... А ўлічваючы тое, што латарэйны білет — гэта чэк на прад'яўніка, любая аргументацыя, не падмацаваная паказаннямі сведак, не мела б ніякай юрыдычнай сілы. Таму з тым нямногім, што засталося ў нас на руках, мой адвакат вёў бой — і прайграў. Ды яшчэ з сумным для мяне вынікам — я раззлаваў шмат каго з уплывовых асоб тагачаснага рэжыму, і мне далі максімальны тэрмін зняволення, прадугледжаны за злачынствы, якія мне інкрымінавалі. Першыя дні ў турме я з горыччу перабіраў у памяці ўсе глупствы, якія нарабіў. Потым мой мозг паступова запрацаваў з лагічнай паслядоўнасцю, як у чалавека, якому нічога не замінае думаць... думаць... думаць... І тады мяне пачала настойліва адольваць і не даваць спакою адна неадчэпная думка: Макейра!

Раней я кожны раз, калі яна мільгала ў галаве, з абурэннем гнаў яе прэч. Але цяпер усе факты ўпарта паказвалі на яго, і я пачаў узважваць іх і супастаўляць... Першае: у тыя дні, калі я хаваўся ад паліцыі, яна тры разы запар лёгка заспявала мяне знянацку ў месцах, пра якія ведаў толькі Макейра.

Другое: у турме я прыйшоў да цвёрдага пераканання, што «хлопчык», з якім спрачаўся Макейра тым вечарам на вуліцы, калі я ішоў да яго пасля расправы, учыненай нада мною наймітамі сенатара Рамірэса, быў карлік Бламбіна. Трэцяе: Макейра пазваніў мне ноччу пасля таго, як да дзвярэй маёй кватэры падклалі бомбу, і сказаў, што сапсавалася машына. Якая неабходнасць была паведамляць мне гэта ў такі позні час? На самай справе ён званіў, каб праверыць, ці я яшчэ жывы. Чацвёртае: улічваючы тое, што Бламбіна прадаваў білеты на вуліцы (рог 12-й і Лініі), вельмі верагодна, што Верцьентэс купіў у яго латарэйныя білеты і падарыў Сусане, калі ехалі на машыне, якую вёў Макейра, і ён гэта бачыў. Пятае: не было сакрэтам, што ў тагачаснай Гаване жанчыны, што вялі такое жыццё, як Сусана, звычайна наймалі сабе прыгожых і статных шафёраў і рабілі іх сваімі палюбоўнікамі. Усё гэта ў той ці іншай форме ўвесь час круцілася ў галаве пасля таго, як мяне арыштавалі ў «Рондзе». Але чым жывіліся мае ранейшыя сумненні, што насуперак зусім зразумелым падазрэнням не далі мне звязаць хаця б некаторыя з гэтых фактаў з імем Макейры? Нават і цяпер я задаю сабе такое пытанне. Магчыма, я стварыў з яго вобраз чалавека, якога прагнуў сустрэць у тым воўчым логаве,— некага такога, хто не быў бы выпацканы ў гразь з ног да галавы, як іншыя, не выключаючы і мяне. Гэта памылка каштавала мне дванаццаці гадоў жыцця і была прычынай смерці яшчэ адной жанчыны.

— Што? — усклікнуў лейтэнант.— Каго вы маеце на ўвазе?

Рэнэ таксама скіраваў на мяне здзіўлены позірк.

— Гэтай дэталі вы, зразумела, не ведаеце. Вось паслухайце.— Я засунуў руку ў кішэню і выняў зжаўцелую выразку з газеты, якую хаваў пры сабе

ўжо дзесяць гадоў.— З газеты 1952 года,— паясніў я і прачытаў: — «Сумнае здарэнне ў вёсцы. Гуанахай, 3 снежня. Па тэлеграфе. Учора позна вечарам была збіта машынай старая жанчына Каталіна Гера, вядомая пад імем Каіты, калі яна ішла па вуліцы Эсперанса дадому. Сеньёру Гера неадкладна даставілі ў мясцовы пункт «Хуткай дапамогі», дзе яна праз некалькі мінут памерла. Асоба, якая збіла яе, ехала на чорным «кадзілаку», нумар якога не быў устаноўлены, але грамадзянін Аскар Тэхера, латочнік, які прадаваў тавары на рагу, паведаміў, што мажны чалавек з блакітнымі вачыма, рудаватымі хвалістымі валасамі, у элегантным чорным касцюме незадоўга перад няшчасным выпадкам купіў у яго цыгарэты, а потым сеў у чорны «кадзілак», які раней паставіў перад латком. На жаль, латочнік не звярнуў увагі на нумар машыны. Паліцыя пачала ўжо следства з мэтай знайсці віноўніка.— Ісідра Трэлес, карэспандэнт». Як вы, пэўна, ужо заўважылі,— дакладны партрэт Макейры.

— Прыкметы надзіва дакладныя,— пагадзіўся Рэнэ.— Але я ўсё ж такі не разумею, навошта спатрэбілася яму забіваць Каіту. На выгляд нікому не патрэбная смерць.

— Не зусім так,— запярэчыў я.— Макейра хацеў збавіцца ад адзінага чалавека, які мог пасведчыць яго інтымныя адносіны з Сусанай. Мая версія забойства была яму добра вядомая, і ён разумеў, што рана ці позна я выйду з турмы і што, калі мне не ўдасца даказаць, што ён быў палюбоўнікам Сусаны, ён можа адчуваць сябе ў бяспецы. І так і адчуваў сябе. Толькі вось...

Лейтэнант падняўся з крэсла. Устаў і я, але, убачыўшы, што Рэнэ задумліва пачэсвае сківіцу, я зразумеў, што яшчэ не канец.

— Між іншым, Арэс,— сказаў ён,— дзе «Балерына»?

Я пакаянна ўсміхнуўся:

— Па маёй просьбе яе хавае Алісія. Яна вам патрэбна?

— Не.

— Тады я пакіну яе Алісіі. Для мяне карціна была б даволі непрыемным напамінкам.

Мне вельмі хацелася ўжо ісці, але я не мог стрымаць аднаго пытання. Я адчуваў нейкую няясную тугу і хваляванне, якое пастараўся завуаліраваць абыякавасцю тону:

— А Гленда? Што вам пра яе вядома?

Афіцэры абмяняліся хуткімі позіркамі. Лёгкая ўсмешка кранула куткі рота Рэнэ.

— Яна жыве сярод нас, на Кубе,— адказаў ён.— Выйшла замуж і працуе настаўніцай.

Лейтэнант падбадзёрліва паляпаў мяне па спіне:

— Каб да канца ўжо задаволіць вашу цікаўнасць, Арэс, скажу вам, што пасля рэвалюцыі сенатар Рамірэс і, натуральна, Сота Падуа эмігрыравалі ў Злучаныя Штаты, а Рамераль ліквідаваў свае гандлёвыя справы на Кубе і вярнуўся ў Іспанію.

Абодва праводзілі мяне да дзвярэй, але мне здалося, што лейтэнант хоча яшчэ нешта сказаць,— на яго твары я заўважыў лёгкі цень сумнення.

— Нешта яшчэ засталося? — запытаў я.

Лейтэнант засмяяўся:

— Вы, Арэс, цудоўны фізіянаміст. Так, засталося. Вы нам яшчэ не сказалі, чаму вы думаеце, што, каб Сусану не забілі ў нядзелю, яе наогул не забівалі б.

— Ах, гэта!..— з палёгкай уздыхнуў я.— Прызнацца, ваш засяроджаны твар мяне ўстрывожыў. Усё вельмі проста — раз ужо загадка разгадана. Бачыце, нацыянальная латарэя разыгрывалася ў субо-

ту, а ў суботнія дні і ў нядзелю банкі не працавалі. Таму Сусана, даведаўшыся пра выйгрыш, была вымушана хаваць латарэйны білет дома. Тыраж быў надзвычайны — білет выйграў паўмільёна песа. У панядзелак яна, безумоўна, аддала б яго на захаванне ў банк. Разумееце? Тады забойства не мела б ніякага сэнсу.

— Добра, мы вас больш не затрымліваем, Арэс. На суд над бандай мы вас выклічам.

Калі я выйшаў на вуліцу, была ўжо ноч. Цудоўная зорная ноч. Свежы вецер абдзімаў мне твар. Але душу маю апанавалі смутак і туга. Я пайшоў бы да Алісіі, але як яна прыме мяне? Калі хто і падтрымліваў мой дух у маім няшчасці, гэта была яна: амаль кожны дзень прыходзіла на спатканні. Калі я выйшаў з турмы, яна ўмольна прасіла мяне забыцца пра помсту. А як я заплаціў ёй? Павярнуўся да яе спіной. Вось ужо сем месяцаў не бачыў яе. Магчыма, ёй ужо надакучыла чакаць і спадзявацца? Вельмі можа быць, і не было б за што яе дакараць...

Прайшоўшы паўквартала, я павярнуў за рог і раптам сутыкнуўся з Алісіяй. Заінтрыгаваны, я зірнуў крыху наперад і ўбачыў шырокую ўсмешку на твары лейтэнанта Рэнэ. Алісія ад радасці заплакала. Я выцер ёй хустачкай слёзы, яна ўзяла мяне пад руку, і мы пайшлі дамоў.

## ЗМЕСТ

**Кардэнас Акунья І.**

К 21 Загадка адной нядзелі: Раман/[Пер. з ісп. С. Дорскага].— Мн.: Маст. літ., 1986.— 175 с.: іл.

У аснове рамана сучаснага кубінскага пісьменніка — раскрыццё цяжкага злачынства. Сітуацыі, у якія трапляе прыватны дэтэктыў пры расследаванні забойства, даюць пісьменніку магчымасць паказаць многія бакі жыцця буржуазнага грамадства перыяду батыстаўскай дыктатуры з яго неад'емнымі атрыбутамі — карупцыяй, інтрыгамі, гвалтам, амаральнасцю.

К $\frac{4703000000-039}{М\ 302(05)-86}$ 168—86

**ББК 84.70Ку**

*Игнасио Карденас Акунья*

**ЗАГАДКА ОДНОГО ВОСКРЕСЕНЬЯ**

*Роман*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

*Рэдактар Л. І. Каўрус. Мастак М. А. Саўляк. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар А. Б. Барадзіна. Карэктар Т. Ю. Гузава.*

ІБ № 2343

Здадзена ў набор 10.10.85. Падп. да друку 13.01.86. Фармат 70×100¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 7,09. Ум. фарб.-адб. 7,41. Ул.-выд. арк. 7,43. Тыраж 10 000 экз. Зак. 1877. Цана 95 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

З набору Мінскага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбіната МВПА імя Я. Коласа, 220005, Мінск, Чырвоная, 23. надрукавана ў друкарні «Победа», зак. 442. 222310, Маладзечна, вул. В. Таўлая, 11.